*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 25 сакавіка 1988 г. № 13 (3423) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

Спектакль Дзяржаўнага тэатра лялек БССР «Дзед і жораў» В. Вольскага карыстаецца трывалай папулярнасцю ў мінскіх гледачоў. Высока адзначаны ён і на прадстаўнічых тэатральных форумах — фестывалі тэатраў лялек рэспублік Прыбалтыкі і Беларусі (Рыга, 1986) і міжнародным лялечным фестывалі ў ФРГ (Бохум, 1987), а таксама пад час Усесаюзнай сустрэчы дзеячаў тэатра «Тэатр і час» (Ташкент, 1987). Напярэдадні Міжнароднага дня тэатра спектакль пройдзе ў 80-ты раз...

Пастаноўшчык спектакля, галоўны рэжысёр тэатра Аляксей ЛЯЛЯЎСКІ на стар. 10—11 гэтага нумара дзеліцца сваімі думкамі пра стан сучаснага лялечнага мастацтва.

У НУМАРЫ:





## НА ЎСЕСАЮЗНЫМ З'ЕЗДЗЕ КАЛГАСНІКАЎ

**Калгасы — неад'емная састаўная частка сацыялістычнай сістэмы. І, ажыццяўляючы ленінскія ідэі кааперацыі на сучасным этапе, працаўнікі сяла ставяць перад сабой задачу: рашуча прыбавіць у рабоце, з максімальнай энергіяй змагацца за правядзенне аграрнай палітыкі КПСС.**

**23 сакавіка ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў пачаў работу чацвёрты Усесаюзны з'езд калгаснікаў.**

**Апладысментамі сустрэлі дэлегаты і госці з'езда таварышаў М. С. Гарбачова, В. І. Варатнікова, А. А. Грамыку, Я. К. Лігачова, В. П. Нікanaва, М. І. Рыжкова, М. М. Слюнькова, М. С. Саломенцава, В. М. Чэбрыкава, У. В. Шчарбіцкага, А. М. Якаўлева, П. Н. Дземічава, У. І. Далгіх, Г. П. Разумоўскага, Ю. П. Салаўёва, М. У. Талызіна, Д. Ц. Язава, А. Д. Бакланава, А. П. Бірукова, А. І. Лук'янава, В. А. Мядзведзева.**

**Пасля выбрання кіруючых органаў з'езда быў зацверджаны парадак дня. Дэлегаты абмяркоўваюць пытанне аб паскарэнні гаспадарання і дэмакратызацыі кіравання, праект Закона аб кааперацыі ў СССР і змяненнях у прыкладным Статуце калгаса, выберуць саюзны Савет калгасаў.**

**Слова для выступлення прадастаўляецца Генеральнаму сакратару ЦК КПСС М. С. Гарбачову. Яго выступленне было выслухана з вялікай увагай і неаднаразова суправаджалася працяглымі апладысментамі.**

**Потым з дакладам «Аб паскарэнні сацыяльна-эканамічнага развіцця калгасаў у новых умовах гаспадарання і дэмакратызацыі кіравання» выступіў старшыня саюзнага Савета калгасаў, старшыня калгаса імя Уладзіміра Ільіча Ленінскага раёна Маскоўскай вобласці двойчы Герой Сацыялістычнай Працы І. І. Кухар.**

**Усесаюзны з'езд калгаснікаў працягвае работу.**

## БОЛЬШ РАЗВАЖЛІВАСЦІ!

**Мы, прадстаўнікі савецкай інтэлігенцыі, крайне занепакоены ўспышкай нацыяналістычнай непрыязнасці ў Закаўказзі. Між тым тое, што адбываецца не толькі ў Нагорным Карабаху і Сумгаіце, але і ў іншых месцах Азербайджана і Арменіі, сее насенне разладу, якое можа прынесці страшны плён раз'яднання і варожасці. Асабліва вялікая небяспека выкарыстання нацыянальных традыцый і рэлігійных свят для яшчэ большага распальвання экстрэмісцкіх настрояў і пачуццяў.**

**Паводле нашага перакананння, усё гэта можа быць на руку толькі ворагам перабудовы. Тое, што здарылася, наносіць каласальны ўрон працэсу абнаўлення грамадства, які разгортваецца ў нашай краіне.**

**Мы заклікаем усіх савецкіх людзей, усіх разважных грамадзян Азербайджана і Арменіі, у тым ліку інтэлігенцыю і рэлігійных дзеячаў, далучыцца да нашага абурэння дзеяннямі экстрэмістаў, а таксама зрабіць усё магчымае для нармалізацыі абстаноўкі ў поўнай адпаведнасці з прынцыпамі дружбы народаў і Канстытуцыі СССР.**

**У сённяшніх умовах з'яўляецца выключна важным рашуча процістаяць нацыянал-экстрэмістам усіх масцей, якія ствараюць нестабільную абстаноўку і пад маскай рознаабліччных, але аднолькава шумных «нацыянальна-патрыятычных» рухаў перашкаджаюць развіццю грамадства па шляху дэмакратызацыі і прагрэсу.**

**Зварот падпісалі прадстаўнікі розных нацыянальнасцей і прафесій — пісьменнікі, мастакі, архітэктары, работнікі культуры, выкладчыкі, вучоныя, студэнты.**

**Сярод падпісаўшых — А. АДАМОВІЧ, А. ТАРКОЎСКІ, Д. ДАНІН, Ф. ІСКАНДЭР, Я. ГАБРЫЛОВІЧ, Л. АННІНСКІ, А. БЕСТАВАШВІЛІ, І. ГАЛІЦЫН, Е. ТРУБЯЦКАЯ, Я. КАЗАРАНЦ, Т. БЕК, Ал. ЮДАХІН, Д. ЧКОНІЯ, М. ЛЕМЕШАЎ, А. КЛІМЕНКА і многія іншыя.**

## ВЫХОЎВАЦЬ ПАТРЫЁТАЎ

**У ЦК КПБ адбылася нарада адказных работнікаў Міністэрства асветы БССР і прадстаўнікоў Саюза пісьменнікаў рэспублікі. Вёў яе сакратар ЦК Кампартыі Беларусі В. А. Пячэннікаў. На нарадзе была разгледжана работа органаў народнай асветы і рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі па патрыятычнаму і інтэрнацыянальнаму выхаванню насельніцтва, прапагандзе і далейшаму развіццю нацыянальна-рускай двухмоўнасці, паляпшэнню выкладання беларускай**

**ПЕРАБУДОВЕ — ІДЭІ АБНАЎЛЕННЯ**

**Васіль БЫКАЎ**

# УЧОРА І СЁННЯ



ПРЫ ДАВОЛІ інтэнсіўным развіцці агульнай культуры ў рэспубліцы, суцэльнай пісьменнасці насельніцтва, прыкметных поспехах нацыянальнай літаратуры і мастацтва сфера распаўсюджання беларускай мовы няўхільна змяншаецца. Такая з'ява не можа не выклікаць пэўнага клопату людзей, занятых праблемамі культуры, ды і проста адукаваных людзей, і мы нярэдка чуем пытанні: у чым справа? Што адбываецца ў рэспубліцы, адной з суверэнных рэспублік СССР, даўняга і раўнапраўнага члена ААН? Якія аб'ектыўныя прычыны вымушаюць сем мільёнаў беларусаў, што спрадвеку насяляюць уласную зямлю, выракацца сваёй роднай мовы, задавальняцца ў жыцці «асноўнай мовай міжнацыянальных зносін»? Мабыць, няцяжка зразумець, што прычыны тыя існуюць даўно і аб'ектыўна, хоць яны і не простыя для спасціжэння, часта заблытаныя і амаль не даследаваны ні спецыялістамі-моваведамі, ні сацыёлагамі, ні гісторыкамі. Шмат гадоў на іх ляжала маўклівае табу, як і на ўсёй моўнай праблеме, рабіўся выгляд, што такой не існуе зусім. Я не маю намеру канчаткова высветліць тут усю гэтую шматскладаную праблему і закрану толькі яе некаторыя моманты.

Вытокі праблемы, як мне здаецца, ляжаць у нашым нядаўнім мінулым.

Цяпер ужо толькі спецыялісты-вучоныя ды людзі пенсійнага ўзросту «са стажам» могуць расказаць пра ўсе складанасці станаўлення Савецкай улады ў рэспубліцы, пра дваццатыя гады з іх складанай унутранай барацьбой рознаскіраваных палітычных сіл, пра культурны і гаспадарчы энтузіязм працоўных мас, іх надзеі і расчараванні. Менавіта ў выніку перамогі Вялікага Кастрычніка з'явілася магчымасць утварэння самастойнай сацыялістычнай рэспублікі, упершыню ў гісторыі беларускі народ займеў рэальнае права на суверэннае існаванне. У дваццатыя гады ў Беларусі пачалося небывалае раней бурнае развіццё культуры, масавы выпуск літаратуры на беларускай мове, пачалі працаваць беларускія тэатры. Можа быць, трохі па-валюнтарысцку, занадта паспешліва, без забеспячэння належнай пісьменнасцю былі прыняты ўрадавыя меры па т. зв. беларусізацыі ў галіне мовы: асноўная колькасць газет і часопісаў пачала выходзіць па-беларуску, справаводства было цалкам пераведзена на беларускую мову, выкладанне ў школах, тэхнікумах і ВНУ таксама. Былі створаны Інстытут беларускай культуры, а затым і першая Акадэмія навук, утварыліся творчыя саюзы, літаратурныя аб'яднанні. Культурны рух у рэспубліцы на нацыянальнай аснове набыў сапраўды масавы характар: адно толькі аб'яднанне «Маладняк» налічвала ў сваіх радах каля паўтысячы членаў. Былі нанова створаны шмат якія падручнікі для школ, нарматыўная граматыка беларускай мовы, па якіх цёмныя сялянскія масы далучаліся да элементарнай пісьменнасці.

Аднак увесь гэты сапраўды грандыёзны культурны рух нацыі быў спынены ў кароткі час і надоўга з далёкімі і шматзначнымі вынікамі, якія не пераадолены і сёння.

Распаўсюджанне рэпрэсій, звязаных з культам асобы Сталіна, звычайна прынята адносіць да трыццатых гадоў, некаторыя схільны абмяжоўваць іх толькі 1937—38 гадамі. Не ведаю, як у іншых месцах нашай неабсяжнай краіны, але што датычыць Беларусі, дык масавыя рэпрэсіі ў адносінах да розных слаёў насельніцтва тут разгарнуліся ўжо ў дваццатыя гады і не спыняліся да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Ужо ў канцы дваццатых гадоў былі разгромлены Акадэмія навук БССР (першы прэзідэнт якой В. Ігнатоўскі скончыў жыццё самагубствам), на рубяжы трыццатых гадоў пачаўся пагром сярод пісьменнікаў Беларусі, у творчых аб'яднаннях. Ужо ў тыя гады была прычынена непапраўная шкода нацыянальнай культуры, цалкам спынена палітыка беларусізацыі, якая не паспела даць колькі-небудзь выразныя вынікі. Беларускае слова ў гарадах рэспублікі зноў, як і пры царызме, рабілася ўвасабленнем «ніжэйшасці», правінцыяльнасці, неадукаванасці. Традыцыйная пагарда да нацыянальнай мовы ўзмацнялася пачуццём страху і небяспекі быць абвінавачаным у «нацдэмаўшчыне». Сотні тысяч дзеячаў нацыянальнай культуры — пісьменнікаў, вучоных, журналістаў, настаўнікаў, а таксама служачых, рабочых і сялян апынуліся ў турмах НКУС, на Калыме, Салаўках, Варкуце, каб ніколі адтуль не вярнуцца. Янка Купала і Якуб Колас выступілі ў друку з дзіўным па сваёй недарэчнасці самавыкрыццём нібыта шматгадовай контррэвалюцыйнай, антысавецкай дзейнасці. Аднак нават гэтая крайняя мера не засцерагла Купалу ад арышту, у час якога той зрабіў спробу самагубства. Застрэліліся кіраўнікі рэспублікі А. Чарвякоў, М. Галадзед — усе ад страху перад нічым не абгрунтаваным, але пагубным абвінавачаннем у «нацдэмаўшчыне», да якой аўтаматычна далучаліся абвінавачванні ў шпіянажы і шкодніцтве. Рэпрэсіі, пабудаваныя на «нацдэмаўшчыне» і іншых фальсіфікаваных злачынствах (шпіянаж на карысць панскай Польшчы, шкодніцтва, намер адарваць Беларусь ад СССР), ахапілі ўсю нацыю — ад верхніх эшалонаў улады да самых дэмакратычных нізоў. Мноства людзей тады было пазбаўлена жыцця і волі, але былі прафесійныя групы, якія пацярпелі болей за іншых, і сярод іх — настаўнікі беларускай мовы і літаратуры. Для карных органаў гэтыя былі нібы «гатовыя нацыяналісты», віна якіх ляжала на паверхні, яе не трэба было нават інспіраваць. Мабыць, з той пары і надоўга ў нацыянальнай самасвядомасці беларусаў паняцце «нацыяналізм» трывала злучылася з пачуццём найвялікшай небяспекі, якая можа пагражаць чалавеку. На ўласным драматычным вопыце людзі пераканаліся, што абвінаваціць у гэтым жахлівым злачынстве могуць кожнага, хто нарадзіўся ў тутэйшых мясцінах і мае няшчасце размаўляць па-беларуску. Беларуская мова, якая нядаўна яшчэ бурна квітнела ў гарадах, пачала вянуць навідавоку, жалезным памялом яе вымяталі з установў, ВНУ, Акадэміі навук, арганізацый і органаў улады. Права карыстацца ёю засталося за некалькімі газетамі, двума тэатрамі ды Саюзам пісьменнікаў, які перад вайной скараціўся да двух дзесяткаў членаў. Астатнія былі знішчаны або знаходзіліся ў лагерах на ўсходзе краіны.

Відавочна, у гэтай жахлівай атмасферы расчаравання і рэпрэсій не лепшым чынам паводзілі сябе і творчыя саюзы, у прыватнасці Саюз пісьменнікаў БССР. Паралізаванае страхам яго кіраўніцтва не толькі не спрабавала як-небудзь абараніць сваіх членаў, але і разгарнула актыўнае выкрыццё «ворагаў народа» ва ўласных радах. Ганебны канфармізм стаў адзіным спосабам утрымацца на волі і захаваць уласнае жыццё, хоць гэта ўдалося далёка не ўсім. З часам маральная непатрабавальнасць гэтых людзей набыла характар звыклага прыстасавальніцтва дзеля ўласнай карысці, задавальненне якой стала адзіна рэальнай магчымасцю для не аднаго пакалення кіраўнікоў. Паслядоўна праводзячы згодніцкую палітыку ў адносінах з кіруючай бюракратыяй, ладзячы ўсе адносіны з ёй на прынцыпах безумоўнага паслушэнства, наша літначальства актыўна садзейнічала накапленню нацыянальных праблем, амаль поўнай ліквідацыі народных традыцый у галіне культуры, звужэнню сферы моўнага карыстання. Пэўны артыкул Канстытуцыі БССР наконт прызнання дзяржаўнасці беларускай мовы быў зменены такім чынам, што беларуская мова была з яго выключана. І гэты сумны выпадак адбыўся на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі пры маўклівым удзеле дэпутатаў-пісьменнікаў, пад старшынствам народнага пісьменніка рэспублікі.

Табу на шмат якія неадкладныя пытанні праіснавала амаль да перыяду перабудовы. У рэспубліцы не толькі не імкнуліся да іх вырашэння, але нават пазбягалі іх памінаць. Рэдкія выступленні некаторых пісьменнікаў па праблемах мовы (напрыклад, У. Дамашэвіча) успрымаліся як прыкрыя парушэнні агульнапрынятага «прыстойнага» тону. Дзесяткі пісьменніцкіх мерапрыемстваў — ад трывіяльных пасяджэнняў сакратарыята да шматпрамоўных з'ездаў — былі заняты адным: як найбольш эфектна і гучнагалоса ўславіць сапраўдныя і ўяўныя поспехі бягучай пяцігодкі (сямігодкі). Самым папулярным прадметам літаратуры рабіліся не людзі і характары, а мерапрыемствы, пра якія дбала шматлікая бюракратычная раць, у тым ліку і пісьменніцкая. Настроеная выключна на бюракратычную хвалю, што ішла зверху, наша пісьменніцкае кіраўніцтва доўгія гады грэбавала не толькі інтарэсамі літаратуры, але і памяццю сваіх жа калег, што загінулі ў ранейшыя гады. Творы і імёны іх былі грунтоўна забыты і выключаны з літаратурнага ўжытку рэспублікі. Пасля амаль сямідзесяцігадовага забыцця толькі нядаўна выдадзена кніга паэта дзівоснага таленту Алеся Гаруна. Адзін з заснавальнікаў Беларускай Савецкай Рэспублікі, бальшавік-ленінец Цішка Гартны, знішчаны ў трыццаць сёмым годзе, усё яшчэ не дачакаўся сваёй поўнай рэабілітацыі. Не можа не выклікаць здзіўлення, што з гэтаю неадкладнай справай у рэспубліцы па-ранейшаму не спяшаюцца, зноў марудзячы і адкрыта перастрахоўваючыся.

Цяжка зразумець, чым кіраваліся аўтары газеты «Советская Белоруссия», якія ў канцы мінулага года выступілі з серыяй артыкулаў, што па сутнасці мелі на мэце апраўдаць рэпрэсіі трыццатых гадоў адносна «нацдэмаўшчыны» і абяліць іх непасрэдных выканаўцаў. Справа дайшла да кур'ёзу: аўтар аднаго з такіх артыкулаў В. Пепеляеў красамоўна пераконваў чытача ў немагчымасці апраўдання беларускіх «нацыяналістаў», у ліку якіх называў імя расстралянага акадэміка Сцяпана Некрашэвіча, пастановай Вярхоўнага Суда СССР яшчэ ў пяцідзесятыя гады цалкам рэабілітаванага з прычыны адсутнасці за ім складу злачынства. Чытачы здзіўлены: што гэта? Звычайны аўтарскі недагляд або тайнае жаданне запусціць стары млын на новы абарот? З прычыны строгай «сакрэтнасці» рэабілітацыйных спраў пяцідзесятых гадоў мы не маем ніякай інфармацыі ад-

---

У аснову артыкула пакладзена выступленне аўтара на «круглым стале» часопіса «Дружба народов», матэрыялы якога будуць апублікаваны ў адным з бліжэйшых нумароў часопіса.

**мовы і літаратуры ў агульнаадукацыйнай школе.**

**З паведамленнямі на гэту тэму выступілі міністр асветы БССР Л. К. Сухнат і першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Н. С. Гілевіч. У рабоце нарады ўдзельнічалі сакратары праўлення Саюза пісьменнікаў БССР В. В. Зуёнак, А. А. Жук, сакратар партыйнай арганізацыі СП БССР Г. П. Пашкоў, старшыня камісіі па выкладанню беларускай мовы і літаратуры Саюза пісьменнікаў рэспублікі Б. І. Сачанка, начальнікі ўпраўленняў Міністэрства асветы БССР Б. А. Гапановіч, В. М. Шкурко і іншыя.**

**На нарадзе адзначалася, што сёння адным з важнейшых напрамкаў арганізатарскай і палітычнай работы ў школе стала выхаванне ў вучняў цвёрдых інтэрнацыяналісцкіх і патрыятычных пачуццяў, глыбокіх ведаў у галіне культуры і гісторыі Беларусі, фарміраванне высокай культуры міжнацыянальных сувязей, трывалае аваладанне беларускай і рускай мовамі. Цяпер у рэспубліцы вядзецца мэтанакіраваная работа па паляпшэнню вывучэння беларускай і рускай моў. У адпаведнасці з намечанымі мерамі ў вучэбных планах павялічана колькасць гадзін на вывучэнне беларускай мовы і літаратуры. Распрацавана праграма пераходу, пачынаючы з 1989 года, на вывучэнне беларускай мовы ў школах з рускай мовай навучання з другога класа. Падрыхтаваны новыя вучэбныя планы і праграмы, сфарміраваны аўтарскія калектывы па стварэнню падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў. У 1987/88 навучальным годзе павялічылася колькасць школ з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы і літаратуры, распрацавана праграма далейшага іх расшырэння.**

**На нарадзе адзначалася, што ў рэспубліцы настойліва пераадольваецца практыка беспадстаўнага вызвалення дзяцей ад вывучэння беларускай мовы ў школах з рускай мовай навучання. Калі ў 1969 годзе ў г. Мінску 90, а ў рэспубліцы — 30 працэнтаў вучняў не вывучалі беларускую мову, то цяпер гэтыя лічбы складаюць адпаведна 8,5 і 3,6 працэнта.**

**Вялікая ўвага была ўдзелена ўдасканаленню падрыхтоўкі выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, умацаванню вучэбна-метадычнай базы выкладання гэтых прадметаў у вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і сярэдняй школе, выказваліся пажаданні аб больш цесным супрацоўніцтве ў вырашэнні гэтых пытанняў органаў народнай асветы і пісьменніцкай арганізацыі рэспублікі. Былі разгледжаны шляхі паляпшэння камплектавання школьных бібліятэк новай літаратурай, у тым ліку і творамі беларускіх пісьменнікаў.**

**У ходзе нарады былі абмеркаваны некаторыя праблемы развіцця дзіцячай беларускай літаратуры, павышэння ролі літаратуры і мастацтва ў выхаванні ў школьнікаў высокіх грамадзянскіх якасцей, удасканалення кнігавыдавецкай справы ў рэспубліцы.**

**У абмеркаванні пытанняў прыняла ўдзел намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. М. Мазай.**

**БЕЛТА.**

# ПЕРАБУДОВЕ — ПІСЬМЕННІЦКУЮ АКТЫЎНАСЦЬ

**На чарговым адкрытым партыйным сходзе Саюза пісьменнікаў БССР са службовай і творчай справаздачай «Маё месца ў перабудове» выступіў галоўны рэдактар часопіса «Полымя» С. Законнікаў. Сакратар праўлення СП БССР А. Жук зрабіў даклад «Прапаганда мастацкай літаратуры: вопыт, праблемы, задачы».**

**У гаворцы прынялі ўдзел В. Зуёнак, А. Клышка, А. Капусцін, Г. Колас, П. Прыходзька, М. Скрыпка, дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» В. Грышановіч, Э. Ялугін, В. Іпатава, В. Супрунчук, В. Хомчанка, пераможца рэспубліканскага конкурсу прадаўцоў кнігарань, прадавец віцебскага магазіна «Светач» В. Тылец, Г. Марчук, старшы кансультант Беларускага аддзялення УААП Б. Баталаў, С. Шушкевіч, Г. Дзмітрыеў, І. Шальманаў, В. Дайліда, У. Федасеенка, М. Татур.**

**У рабоце сходу прынялі ўдзел сакратар Мінскага гаркома партыі П. К. Краўчанка, загадчык сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ А. І. Бутэвіч, інструктар Партызанскага райкома партыі г. Мінска І. В. Грышан.**

**Справаздача са сходу будзе апублікавана.**

**НАШ КАР.**

носна астатніх імён, што прыводзяцца ў артыкуле. Зусім магчыма, што і яны даўно рэабілітаваны, і менавіта той факт старанна замоўчваецца ў артыкуле. Усё гэта наводзіць на думку: ці не хаваецца і тут намер некаторых рэанімаваць даўні страх, які за апошні час крыху страціў сваё радыкальнае ўздзеянне?

Мабыць, з улікам сказанага няцяжка зразумець, што такія адносіны да мінулага ствараюць у рэспубліцы пэўную напружанасць і нярэдка прыводзяць да непажаданых вынікаў.

Ваяўнічыя праявы нацыянальнага нігілізму, таксама як і рэцыдывы вульгарнага «мясцовага патрыятызму», час ад часу з'яўляюцца ў выступленнях органаў друку, творчых саюзах, хоць і носяць пакуль што прыватны ці лакальны характар. Часцей за ўсё яны характэрны ў адносінах да пэўных асоб, якія чым-небудзь не дагадзілі гіпертрафіраванаму нацыянальнаму ці інтэрнацыянальнаму пачуццям, як гэта здарылася нядаўна вакол памяці К. Сіманава і выклікала не надта прыстойную палеміку ў творчых колах. Гэтая нестабільнасць час ад часу падаграваецца вуснымі ці пісьмовымі выпадамі супраць аўтарытэтных дзеячаў нацыянальнай культуры з боку ўсемагчымых экстрэмісцкіх элементаў—ад непрыкрытых антысемітаў тыпу скандальна вядомага У. Бегуна да актывістаў не меней вядомай «Памяці», якія даўно ўжо вядуць сваю падрыўную работу ў сталіцы рэспублікі. Менавіта іхнімі рукамі ў мінулым годзе было выліта столькі памыяў на сусветна вядомага мастака, нашага земляка Марка Шагала, стала магчымай газетна-часопісная вайна з А. Адамовічам, падвергнуты зняважлівым нападкам літаратуравед В. Каваленка, пісьменніца С. Алексіевіч.

Беспадстаўныя наскокі на дзеячаў культуры мінулага нярэдка носяць адбітак дрымучапомслівага пачуцця: калі, маўляў, няма музея ў «нашага» Каліноўскага, дык хай не будзе яго і ў «іхняга» Шагала. Што і казаць, цяжка знайсці колькі-небудзь разумнае тлумачэнне таму, што рэспубліка за семдзесят гадоў свайго існавання не заслужыла права на музей-помнік аднаму з самых лепшых яе сыноў, але ці тое падстава, каб не прыняць яе другога славутага сына? Ці ёсць патрэба даказваць, наколькі ўсё гэта не толькі не дэмакратычна для нашага часу, але і непрыкрыта рэакцыйна. Наяўнасць такіх канфліктаў у грамадстве не можа не прычыніць пэўнай шкоды нацыянальнай культуры, таксама як і фарміраванню інтэрнацыянальнай свядомасці беларусаў, што, як вядома, немалы час адбывалася ў антаганістычнай атмасферы класавай, нацыянальнай, рэлігійнай рознасці. Замест таго, каб актыўна дзейнічаць у духу гэтак актуальнай цяпер дэмакратызацыі, мы нярэдка песцім у сабе старыя, даўно скампраметаваныя, сапраўды «д'ябальскія» страсці. Вобраз пачвары-ворага і абавязкова звязанае з ім пачуццё страху глыбока заселі ў нашай свядомасці; шмат год мы шукалі ворагаў там, дзе толькі было можна, а яшчэ болей ахвотна там, дзе знайсці іх было немагчыма. У нас і цяпер нястомна працуе група вучоных і публіцыстаў, якія сваёй не надта разборлівай, з'едліва-фельетоннай барацьбой з сапраўдным, а часцей уяўным нацыяналізмам шмат чаго дамагліся ў справе выхавання нацыянальнага нігілізму, што мае прамым вынікам той стан, у якім апынулася і беларуская мова. Але час змяніўся, і, мабыць, сапраўды самы небяспечны вораг цяпер той, які, будучы народжаны нашым мінулым, засеў у нас саміх. І тут нельга не пагадзіцца з дасціпнай сентэнцыяй Ігара Дзядкова, які трапна заўважыў, што «там, дзе займаюцца пошукамі масонаў ды інародцаў, культура стаіць у куце, адвярнуўшыся да сцяны». Ці не занадта доўга ў мінулым стаяла тварам да сцяны наша пакутніца-культура, каб і цяпер усё на той жа спарахнелай падставе не даваць ёй павярнуцца да народа і яго жывога жыцця? Ці не пара прызнаць відавочную негрунтоўнасць вядомага лозунга, антытэзай да якога час бярэ іншы, болей выпрабаваны і чалавечны: той з намі, хто не супраць нас.

Даўно заўважана, што ў сферы міжнацыянальных адносін першаступеннае значэнне мае этыка, тая няўлоўная далікатнасць выказванняў і паводзін, наяўнасць якой нічога не варта, а адсутнасць нязменна аплачваецца вельмі дорага. Кожнае сумленнае нацыянальнае пачуццё варта павагі; асабліва гэта важна ў адносінах да малых народаў, якія доўгі час у мінулым неслі на сабе адбітак непавагі і дыскрымінацыі. У гэтым сэнсе нельга не прызнаць, што далёка не ўсе людзі іншай нацыянальнасці, жывучы сярод карэнных жыхароў рэспублікі, паводзяць сябе належным чынам: а нярэдка бравіруюць пагардай да нацыянальнай мовы, нарадзіўшыся на тутэйшай зямлі, не дадуць сабе працы за гады жыцця хоць у малой ступені зразумець яе традыцыі і звычаі. У нас даўно ўжо сталі звыклаю з'явай негатыўныя адносіны не толькі да рэлігійна-хрысціянскіх святаў, але і да бяскрыўдных дахрысціянскіх абрадаў, якія толькі дзякуючы народнай прыхільнасці дажылі да нашых дзён. Некалькі гадоў назад у Мінску было сілай разагнана этнаграфічнае маладзёжнае мерапрыемства «Гуканне вясны» (арганізаванае, між іншым, пры ўдзеле Саюза мастакоў БССР), што выклікала законнае абурэнне грамадскасці, але не атрымала ніякага тлумачэння ад улад. Шмат гадоў спарадычна робіцца маўклівыя перашкоды правядзенню народнага святкавання «Купалля», як гэта адбылося летась у Заслаўі. А вось традыцыйны дзень памяці продкаў «Дзяды» шматслоўна ганьбуецца ў друку як рэлігійнае мерапрыемства, хоць даўно такім не з'яўляецца.

Напэўна, прачытаўшы тое, знойдуцца людзі, якія скажуць: але ж усё гэта — вашы ўнутраныя справы. Гэтыя рагаткі на шляхах развіцця нацыянальнай культуры — справа рук вашай жа нацыянальнай бюракратыі, без якога-небудзь умяшання з іншага боку. І ўвогуле яны будуць мець рацыю. Але ўся справа ў тым, што ў аснове гэтых невясёлых з'яў ляжыць усё тое ж шматгадовае імкненне да перастрахоўкі, даўні страх, боязь, як бы чаго не выйшла — пачуццё, увабранае бюракратамі ад нараджэння, набытае ў працэсе выхавання, навучання або проста існавання ў пэўных грамадскіх умовах. Страх перад рэальным, а часцей штучна створаным нацыяналістычным пудзілам глыбока пранік у іхнюю свядомасць, стаў амаль генным.

Не так даўно на семінары бібліятэчных работнікаў мілая спецыялістка з універсітэцкай адукацыяй пытаецца: «Ці можна лічыць нацыяналістам чалавека, які заўжды размаўляе па-беларуску?» І на сямідзесятым годзе Савецкай улады даводзіцца тлумачыць розніцу паміж патрыятызмам і нацыяналізмам, якія ў нечай затарможанай свядомасці аднойчы зліліся ў непарыўнае крамольнае цэлае. І прыходзяць пісьмы з сельскіх школ усё ад тых жа настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры са скаргамі на дыскрымінацыю ў выкладанні іхняга прадмета, аплаце настаўніцкай працы, ушчымленні ў пытаннях жылля і інш. Вядома, ушчымленне можа здарыцца ў адносінах да кожнага выкладчыка, але на баку настаўніка рускай мовы — несумненны клопат дзяржавы, які ўвасобіўся хоць бы ў нядаўняй пастанове аб павышэнні зарплаты. А якія сведчанні падобнага клопату ёсць у беларускага выкладчыка? Рэгулярная на працягу дзесяцігоддзяў пагарда да яго працы, скарачэнне вучэбных гадзін у сувязі са скарачэннем колькасці вучняў, змяншэнне яго зарплаты...

Вяртаючыся, аднак, да мовы, нялішне заўважыць, што адна з яе шматлікіх праблем заключаецца таксама ў несумненным дысбалансе яе чыста структурных страт і набыткаў. Будучы народжанай на сельскіх прасторах, цудоўна прыстасаванай да прыроды, сялянскага побыту, яна ўсё ж апынулася ў нейкай меры чужаніцай сярод каменных гмахаў горада, у бензінавым чадзе урбанізаванага грамадства. Тут яна страчвае як непатрэбную значную частку сваёй мілагучнай лексікі, гармонію моўнага ладу. А што набывае? Набыткі яе не толькі сумніцельныя, але і безумоўна антыэстэтычныя. Шырокая моўная палітызацыя, што ідзе ад сродкаў масавай інфармацыі, выцясняе з яе ўсё непатрэбнае часу, спараджае неўласцівыя для гэтай мовы словы і словазвароты. Па сутнасці фарміруецца новая мова, дзе ўсё меней застаецца ад традыцыйнай, уласна нацыянальнай мовы.

Але ўся бяда ў тым, што гэтая «новая» мова ў вялікай меры з'яўляецца не чым іншым, як тыповай бюракратычнай прадукцыяй, нагрувашчваннем разнастайных наватвораў і канцылярызмаў. Яны і на мове, што іх нарадзіла, сталі не меншай бядой, а ўжо будучы скалькаванымі на іншы моўны лад, ствараюць ненатуральнае, амаль пачварнае з'явішча. Шматлікія варыяцыі на тэмы «рашэння пытанняў», «выканання пастаўленых задач», «вядзення работы», «сацспаборніцтва, якое шырыцца і шырыцца» і г. д., пазбаўленыя канкрэтнага сэнсу траскотныя словазлучэнні з даўняга часу зрабіліся звыклаю з'явай нашай усесаюзнай прэсы, радыё і тэлебачання, дзелавых папер і заканадаўчых актаў і выклікаюць інстынктыўнае непрыняцце ў кожнага пісьменнага чалавека, не пазбаўленага элементарнага густу да мовы. Можна сабе ўявіць, як яны рэжуць неразбэшчаны ў гэтых адносінах слых эстонца, літоўца ці беларуса таксама. Я далёкі ад моўнага снабізму, сам у пэўнай ступені не вольны ад шмат якіх моўных хібаў, але ніяк не магу пагадзіцца з многімі моўнымі парадоксамі тыпу знакамітых «Жыгулёў», якія, не маючы адзіночнага ліку, прывялі да вымушанага ўтварэння слова-калекі «Жыгуль». А вось яшчэ не меней парадаксальны, хоць і звыклы ўжо наватвор: трактар «Беларусь», дзе імя агульнае і імя ўласнае адносяцца да розных родаў. Узнікае пытанне: чыя гэта мова?

Я думаю, не руская і не якая іншая з усіх 78 сучасных моў народаў СССР, вядома ж, гэта — тыповае параджэнне нашай бюракратыі. Сумна, але факт: вялікая і магутная мова, што так чаравала чалавецтва ў мінулым, таксама бяднее ўвачавідкі, яшчэ неяк захоўваючыся ў пэўнай частцы рускай мастацкай літаратуры. Сфера яе ўжытку таксама звужаецца пад уздзеяннем усё таго ж магутнага, нахрапістага бюракратычнага сурагату.

Моўная праблема — частка ўсеагульных праблем, што паўстаюць перад грамадствам у перыяд перабудовы. Яна — надзейны клопат усіх моў (старых і маладзейшых), моў ускраін і не ў меншай меры мовы «міжнацыянальных зносін». Мабыць, часткова вырашэнне яе — у двухмоўі. Хаця трэба прызнаць, што такое вырашэнне не раўназначна для розных рэгіёнаў краіны: калі для Кіргізіі яно—несумненнае дабро, дык для Эстоніі, мабыць, дабро сумніцельнае, бо, як сцвярджаюць эстонцы, прадугледжвае аваладанне рускай мовай не без шкоды для нармальнага функцыяніравання мовы нацыянальнай. Што ж датычыць Беларусі, дык двухмоўе для нас у сучасных умовах — адзіна магчымае выйсце, бо мае на мэце ў якасці другой мовы — нашу беларускую. І мы за такое рашэнне, калі нацыянальнай мове вяртаюцца яе спрадвечныя правы ў рэспубліцы. Аднак вяртанне гэтых правоў толькі ў заканадаўчым парадку — безумоўна частковая мера, яўны паліятыў. Вядома, што заканадаўчае рэгламентаванне ўвогуле справа добрая, хоць яно і мала што вырашае на практыцы, дасягаючы належнага эфекту тады, калі забяспечана рэальнымі стымуламі, што толькі рэгулююцца законам. У нас прымаецца нямала вартых законаў, якія імкнуцца літаральна ўсё ахапіць і рэгламентаваць. Але калі нават колькасць іх памножыць у дзесяць разоў, яны не здолеюць рэгламентаваць усю разнастайнасць жыццёвых праблем. Несумненна, гэтыя праблемы будуць расці прапарцыянальна спробам іх урэгулявання. Самарэгулюючыя сістэмы эканомікі культуры — вось ідэал грамадства, але, мабыць, да гэтага нам далёка.

У тым, што сказана вышэй, зразумела, не адзіная прычына становішча, у якім апынулася беларуская мова, але адна з многіх. Можа, адна з галоўных прычын, ад якой залежыць будучыня нацыянальнай культуры, у значнай меры заснаванай на роднай мове. Толькі людзям недалёкім або недасведчаным можа здацца, быццам мастацкая культура, выяўленчае мастацтва, мастацкая самадзейнасць, нават танцы не звязаны з мовай і не залежаць ад яе стану, могуць развівацца самастойна. На самай справе, з мовы пачынаецца ўсё астатняе — праз літаратуру, сродкі масавай інфармацыі культура набывае свой змест і ўжо безумоўна — непаўторнае нацыянальнае аблічча, форму, без якой яна не існуе. Даводзіцца толькі шкадаваць, што ёсць неабходнасць гаварыць пра такія элементарныя ісціны. Але наш даволі драматычны вопыт, мабыць, мала чаму нас навучыў. Сапраўды, гісторыя нічому не вучыць. Затое яна спаганяе, як сцвярджаў В. Ключэўскі, часам надта сурова. У тым мы цяпер пераконваемся.

У заключэнне хочацца задаць сакраментальнае пытанне: што ёсць мова? Вядома, у навуковых вызначэннях гэтае з'явы недахопу няма, але ўсё ж? Калі чыста прагматычна, дык усё зразумела: мова — сродак зносін паміж народамі, класамі, індывідуумамі. У арганізаваным грамадстве чым вышэй ступень валодання ёю, тым, мабыць, лепш. Высокаарганізаваная вытворчасць, палітызаваныя грамадскія фарміраванні, армія патрабуюць дакладных і даступных каманд у мэтах іх дакладнага і своечасовага выканання. Але ці толькі дзеля гэтага служыць чалавецтву мова? І ці толькі для зносін? А для таго, каб думаць і адчуваць?

Найбольш поўна і шчыра?.. Калі даўным-даўно ўвечары вярталася з поля жняя, яна спявала зусім не дзеля зносін з іншымі — для сябе і сваё душы. Але якой павінна быць мова, што выказвала б душу? Мова як прадукт душы і душа — у пэўным сэнсе — як прадукт роднай мовы?

Мабыць, варта задумацца...

## ЭКАЛОГІЯ: ПРАБЛЕМЫ, СІТУАЦЫІ, КАНФЛІКТЫ

# Лёс Прыпяці — лёс Палесся

**Палессе часта называюць лёгкімі Усходняй Еўропы. І няма сёння ніводнага сумленнага чалавека, якога б не хваляваў лёс гэтага унікальнага рэгіёна планеты. Які ён, гэты лёс! І што трэба зрабіць, каб урававаць Прыпяць, захаваць Палессе! Адказаць на гэтае складанае пытанне імкнуліся ўдзельнікі нарады, якая адбылася нядаўна ў Мінску, у Доме літаратара, — вучоныя, пісьменнікі, журналісты, работнікі міністэрстваў і ведамстваў. Удзел у абмеркаванні праблем прынялі госці з Масквы, Украіны, Літвы.**

**Адкрыў нараду першы сакратар праўлення СП БССР Н. ГІЛЕВІЧ.**

**З дакладам «Ці ёсць у нас канцэпцыя гаспадарання» выступіў В. ЯКАВЕНКА.**

— Цэлыя два дзесяцігоддзі пасля вайны, — сказаў ён, — меліяратары праводзілі асушэнне з дапамогай глыбокага дрэнажу, у выніку чаго рэзка, на 1,5—2 метры панізіўся ўзровень вады, перасыхаць пачалі балоты, а тым больш — мінеральныя глебы, агаліліся пяскі. Аддача такой буйнамаштабнай і гранічна спрошчанай меліярацыі (а праведзена яна на плошчы амаль у мільён гектараў) была вельмі мізэрнай, экалагічны ж урон адчуваецца дагэтуль. Карціна меліярацыі тых гадоў, дарэчы, выдатна апісана нашым старэйшым пісьменнікам-публіцыстам Ігнатам Дуброўскім у кнізе «Гамоніць Палессе», сустрэтай меліяратарамі ў штыкі. Можа, дарэмна? Яна праўдзіва адлюстроўвае падзеі.

Няма апраўдання глыбокаму асушэнню, аднак праводзілася яно не таму, што меліяратары не ведалі іншых спосабаў паляпшэння зямель. Прычына другая: гналіся за дзешавізнай. А гэтая «дзешавізна», памножаная на сотні тысяч гектараў, абарочвалася буйнымі стратамі матэрыяльных сродкаў і чалавечых рэсурсаў...

**Узнікае пытанне: чаму аўтары так званага тэхнічнага абгрунтавання работ на Прыпяці не ўлічылі магчымыя экалагічныя, гаспадарчыя і іншыя страты пасля абвалоўвання і меліярацыі рэчышча? І яшчэ: чаму ў гэтым праекце не ўлічаны заўвагі Камітэта па ахове прыроды? Чаму ўбаку ад тэхнічнага абгрунтавання апынуліся вучоныя, напрыклад, Беларускага інстытута меліярацыі і воднай гаспадаркі, а гэта ж апорны навукова-даследчы інстытут не толькі ў нашай рэспубліцы, але і ў краіне, там назапашаны значны вопыт. Адказ, зноў жа, у самой сістэме гаспадарання. Справа ў тым, што рашэнне аб абвалоўванні Прыпяці было прынята яшчэ да навуковых распрацовак і абгрунтаванняў. Тэхнакратыі не патрабуецца ніякая навука, для яе характэрны прымат волі і сродкаў над мэтай, над інтэлектам і мудрасцю. Сказана — зроблена! І не паспелі мы асэнсаваць як належыць саму ідэю абвалоўвання, усе магчымыя яе вынікі, як ужо выканана... больш за 30 працэнтаў работ.**

**Што абяцаюць нам праекціроўшчыкі? Гэта — новыя пасяўныя плошчы ў пойме для інтэнсіўнага вырошчвання сельскагаспадарчых культур і некалькі штучных вадаёмаў для прамысловага развядзення рыбы. Відавочна, што гэта палітыка ўсё таго ж экстэнсіўнага гаспадарання.**

**У рэспубліцы да вайны было 6 мільёнаў гектараў ворыўных зямель. Цяпер іх амаль столькі ж — 6.2 мільёна гектараў. Колькасць насельніцтва — тая ж... Але ж за ўсе пасляваенныя гады асушана і перададзена гаспадаркам каля 3 мільёнаў гектараў новых плошчаў пад ворыва. Дзе гэтыя гектары? Адышлі пад прамысловыя пляцоўкі, гарады і дарогі? Не ўсе...**

**Толькі за апошнія 20 гадоў у нашай рэспубліцы спісана з сельскагаспадарчага балансу 780 тысяч гектараў ворыўных зямель. Яны спісаны па прычыне здзічэння, закінутасці, паўторнага забалочвання, гэта значыць, ваяўнічай безгаспадарчасці.**

**Дык ці не тут трэба шукаць патрэбны прырост, а не ў пойме Прыпяці?**

Абвалоўванне і меліярацыя поймы Прыпяці нясе ёй перараджэнне і гібель. Вырошчванне культур з прымяненнем мінеральных угнаенняў і ядахімікатаў атруціць ваду ракі яшчэ больш.

Нам трэба было б больш крытычна ставіцца да рэкамендацый, згодна якім дастаткова пры меліярацыі пакінуць некранутымі 25 працэнтаў зямель, каб экалагічны баланс не парушаўся. Гэта безадказныя рэкамендацыі, калі распаўсюджваць іх на наша Палессе. Час прыслухацца да нашых вучоных, якія прапаноўваюць спыніць асушэнне новых масіваў на Палессі, калі мы не хочам ператварыць гэты край у пустэчу.

Сёння, у час перабудовы, бачыцца мэтазгодным зліццё дзвюх меліярацыйных арганізацый у рэспубліцы ў адну. Становішча з імі пакуль што сведчыць пра вельмі сур'ёзныя пралікі і недахопы ў сістэме дзяржаўнага кіравання. Мяркуйце самі. Наша Міністэрства меліярацыі і воднай гаспадаркі мае штат у 40 тысяч чалавек, у тым ліку міністра і трох намеснікаў. «Пінскае міністэрства», дакладней, главк, які падпарадкоўваецца напрамую Маскве, мае 45 тысяч рабочых і служачых, у тым ліку начальніка главка і шэсць намеснікаў. У падпарадкаванні саюзнага міністэрства меліярацыі больш за трыццаць такіх главкаў, раскіданых па саюзных рэспубліках. Ці не час іх перадаць у рэспубліканскае падпарадкаванне?

Ёсць шмат пытанняў і да аграпрома. Ці не адкажа ён, якім будзе землеробства ў рэспубліцы, ці хоць бы на тым самым Палессі праз 15—20 гадоў, калі знікнуць запасы торфу, з якога цяпер вырабляюцца кампосты, калі кончацца тарфянабалотныя глебы і запасы вады зменшацца? Ці мы не дапусцім далейшага зніжэння гэтых рэсурсаў?

Узнікаюць і іншыя пытанні. Скажам, навошта нам з вамі бульба ўраджаем з гектара па 400 цэнтнераў, калі ў ёй нітраты замяшчаюць крухмал і яна як мыла, толькі ў адрозненне ад мыла, не можа захоўвацца доўга?

Адказ на гэтыя і многія іншыя пытанні — у нашай грамадзянскай актыўнасці, у аб'яднанні намаганняў. І найбольш тут нам дапаможа галоснасць — не на словах, а на справе, і таварыская крытыка, і павага да яе, — сказаў у заключэнне В. Якавенка.

Большасць вучоных, якія прынялі ўдзел у спрэчках, самакрытычна гаварылі аб тым, што эколагі сваю місію пакуль не выканалі, што не заўсёды хапала вучоным грамадзянскай мужнасці ў адстойванні ўласных рашэнняў.

**Доктар біялагічных навук Б. САВІЦКІ заклікаў памятаць пра тое, што прыродныя экасістэмы не прызнаюць штучных граніц. Рэалізацыя такога праекта, як абвалаванне Прыпяці, адмоўна можа паўплываць і на Днепр, у ніжнім цячэнні якога ўжо сёння адчуваецца востры недахоп вады.**

**Механічнае ўздзеянне на гідрагеалагічную сістэму Прыпяцкага Палесся, якая фарміравалася мільёны гадоў, можа вывесці «са строю» многія вадаёмы гэтага рэгіёна, — сказаў доктар геолага-мінералагічных навук Э. ЛЯЎКОЎ. У нас на вачах змяняюцца ландшафты, многія з якіх з'яўляюцца не толькі прыроднай, але і эстэтычнай каштоўнасцю.**

***Ці вінаваты ва ўсіх негатыўных з'явах, што мы назіраем на Палессі, меліяратары?* Думаецца, вялікую частку адказнасці павінны ўзяць на сябе і гаспадарнікі, якія эксплуатуюць меліяраваныя землі з сур'ёзнымі адступленнямі ад навуковых рэкамендацый і правіл, сказаў віцэ-прэзідэнт АН БССР І. ЛІШТВАН. Зараз у Акадэміі навук рэспублікі вядзецца настойлівая работа па праблемах біясфернай экалогіі, біятэхналогіі, экалагічна бяспечнай тэхналогіі ў сельскай гаспадарцы. Важную ролю тут магло б адыграць стварэнне інстытута экалогіі ў сістэме акадэміі. (Гэтую думку, дарэчы, падтрымала большасць вучоных — удзельнікаў дыскусіі).**

Меліярацыя павінна ісці за навукай, а не апераджаць яе, як гэта часта яшчэ бывае, — сказаў старшыня Савета АН БССР па праблемах Палесся **М. Бамбалаў**. Поймы рэк — гэта найбольш складаныя прыродныя комплексы. Іх асваенне павінна весціся вельмі асцярожна, узважана. Але гэта не азначае, што меліярацыя як метад можа быць на сённяшні дзень выключана з гаспадарчай дзейнасці чалавека.

Нельга абмяжоўвацца крытыкай негатыўных з'яў. Патрэбны канструктыўныя прапановы, — заявіў кандыдат тэхнічных навук **І. Танавіцкі**. У падмацаванне сваёй думкі і ў якасці станоўчага прыкладу ён прывёў праект правядзення прыродаахоўных мерапрыемстваў на рацэ Ясельда, распрацаваны пры ўдзеле вучоных Інстытута торфу АН БССР.

Спакойны, амаль акадэмічны ход дыскусіі парушыла эмацыянальнае выступленне ўкраінскага пісьменніка **У. Яварыўскага**.

— Мы здрадзілі самаму святому, што ў нас ёсць, — роднай зямлі. Дзесяцігоддзямі мы гаварылі шэптам пра тое, што адбываецца з ёй, а меліяратары дзейнічалі — адкрыта, бескантрольна, бессаромна. Пад гукі дыфірамбаў і фанфар, што гучалі на старонках прэсы, ствараліся і рэалізоўваліся праекты пераўтварэння прыроды ўсё больш і больш «грандыёзныя». Прыкрывалася ж гэтая злачынная гігантаманія клопатам пра «хлеб наш надзённы». Але дзе ж яны, абяцаныя нечуваныя ўраджаі? Якая аддача тых гіганцкіх меліярацыйных збудаванняў? Ды і не хлебам адзіным жыве чалавек. Страта цудоўных ландшафтаў, знікненне своеасаблівых і непаўторных куткоў прыроды самым адмоўным чынам паўплывала на свядомасць чалавека.

Выступленне У. Яварыўскага падтрымаў яго ўкраінскі калега **П. Мах**. Тысячы пастаноў былі прыняты на розных узроўнях з мэтай узняць ураджайнасць збожжавых на Украіне. А патрэбнага эфекту не відаць. Вынікі непрадуманай, бязглуздай меліярацыі адбіліся не толькі на сацыяльным, але і духоўным самаадчуванні народа.

Прыпяць адчула на сабе страшэнны ўдар чарнобыльскай аварыі, пасля якой яна дагэтуль яшчэ цалкам не акрыяла, а тут новае наступленне на прыроду Палесся, — сказаў **А. Петрашкевіч**. Ён прывёў звесткі аб радыёактыўным забруджванні дна Прыпяці. Пісьменнік таксама прыцягнуў увагу прысутных да пагражаючага становішча, што склалася ў раёне Старобінскага салянага радовішча з-за назапашвання гіганцкай колькасці прамысловых адходаў.

Доктар тэхнічных навук **А. Саламонаў** заклікаў удзельнікаў дыскусіі суцішыць эмоцыі. Канечне, у меліяратараў, як і ва ўсіх, ёсць свае недахопы ў рабоце, сказаў ён. Пра іх трэба гаварыць і пісаць, але пісаць асцярожна, каб не настройваць грамадскасць супраць меліяратараў.

**Наступныя прамоўцы катэгарычна не пагадзіліся з такой пастаноўкай пытання.**

**Ландшафт вакол большасці вёсак на Палессі нагадвае ўжо паверхню Месяца, — з горыччу гаварыў А. КАЗЛОВІЧ. Кожны лясок, кожная рачулка, узгорак, балота маюць сваю назву ў народзе. І знікненне кожнага з іх — непапраўная страта для мовы, для культуры. І колькі іх ужо знікла хаця б наўкол маёй роднай вёскі! Пытанне ж не ў тым, ці патрэбна меліярацыя. Безумоўна патрэбна! Але меліярацыя пачаткова па сэнсе азначае паляпшэнне (!) зямлі, а не яе нявечанне.**

**Зямля, глеба могуць доўга трываць уздзеянне чалавека, але вынікі гэтага механічнага ўздзеяння праявяцца праз гады, сказаў доктар біялагічных навук М. ТУРАНКОЎ. У свой час у Навукова-даследчым інстытуце глебазнаўства і аграхіміі Дзяржаграпрома БССР была складзена карта забруджвання глеб у рэспубліцы. Але цяперашняе кіраўніцтва інстытута лічыць непатрэбнымі ні існаванне карты, ні самі даследаванні!**

Як і трэба было чакаць, найбольш гарачая дыскусія разгарнулася вакол планаў абвалавання Прыпяці. Галоўны інжынер праекта **М. Кавалёў** адразу падкрэсліў, што пакуль існуе толькі ТЭА — генеральная схема перадпраектных работ. Праектныя ж работы вядуцца, запэўніў галоўны інжынер, у адпаведнасці з прынятымі ў 1975 годзе пастановамі аб узмацненні супрацьпаводкавай абароны на поўдні рэспублікі. Канечне, за апошнія дзесяць гадоў многія інструкцыі і методыкі састарэлі, павысіліся патрабаванні да экалагічных бакоў праекта. Тым не менш, на сённяшні дзень ТЭА ўзгоднена ў дзесятках арганізацый —ад Дзяржплана і Дзяржбуда рэспублікі да акадэмічных інстытутаў і абласных арганізацый. Генеральная схема прадугледжвае польдэрны варыянт водазваротнай сістэмы на Прыпяці. 530 кіламетраў прабягае рака па тэрыторыі Беларусі. 140 з іх плануецца ўзяць у дамбы. Аўтар праекта прызнаў, што з экалагічнага пункту гледжання ён недапрацаваны (не ўлічвае, напрыклад, уздзеяння на раслінны і жывёльны свет і г. д.). Галоўны інжынер не змог адмовіць той факт, што ўжо на цяперашні дзень каля 45—50 працэнтаў абвалавання праведзена. Ён спрабаваў растлумачыць гэта спасылкамі на... заяўкі мясцовых гаспадарчых арганізацый, якія падаюцца нібыта насуперак планам арганізацый Мінмеліяводгаса.

Начальнік Галоўпалессеводбуда **І. Цітоў** паведаміў, што 44 працэнты пераўвільготненых земляў на тэрыторыі Беларускага Палесся, плошча якіх ацэньваецца ў 3 мільёны 350 тысяч гектараў, ужо асушаны. Ён у агульнай форме заклікаў памятаць аб сацыяльным аспекце меліярацыі, мэта якой — выкананне Харчовай праграмы і павышэнне дабрабыту народа. Недаўменне ў многіх выклікала яго прапанова разглядаць праект абвалавання Прыпяці як свайго роду... выпрабавальны стэнд, з дапамогай якога можна будзе вывучаць тыповыя памылкі (!).

**Калі ад ракі адсекчы даліну, берагі, грунтовыя воды, дык ракі як жывога арганізму не будзе. Гэта ясна і без эксперыментаў, настойваў доктар геолага-мінералагічных навук А. КУДЗЕЛЬСКІ. Праект абвалавання ёсць праект забойства ракі. Намаганні меліяратараў безумоўна высакародныя, але толькі да таго моманту, пакуль яны не ўступаюць у супярэчнасць з прыродай. За дзеяннямі розных празмерна «жвавых» ведамстваў неабходна ўстанавіць пазаведамасны, аб'ектыўны кантроль. Гідрагеолагі сёння як ніхто могуць меркаваць аб узроўні забруджвання — падземныя воды забруджаны на глыбіню дваццаці, а месцамі і трыццаці метраў. Ці не час ужо спыніцца?!**

**Негатыўнае меркаванне аб праекце выказаў і кандыдат геолага-мінералагічных навук Г. КАЛПАШНІКАЎ. Паводле яго слоў, рэалізацыя праекта абвалавання прывядзе да актыўнай бакавой эрозіі, разбурэння берагоў і размывання інжынерных збудаванняў. Вучоны прапанаваў праверыць выказаныя ім і іншымі вучонымі меркаванні на адным з ужо абвалаваных участкаў Прыпяці.**

**І. Дуброўскі**, абапіраючыся на свой агромністы вопыт публіцыста, які шмат год аддаў праблемам Палесся, выказаў упэўненасць, што ў цяперашнім сваім выглядзе меліярацыя — толькі псаванне сродкаў. У пераважнай масе палескіх гаспадарак меліярацыя не мае пад сабой належнай тэхнічнай асновы. У выніку тарфянікі — каштоўнейшае натуральнае ўгнаенне — разбураюцца.

У свой час, калі меліярацыя толькі пачыналася, нагадаў пісьменнік, Прыпяць не была ўключана ў планы асваення. Гэты «арэшак» аказаўся нам не па зубах. Цяпер жа, калі ў нас ёсць і сродкі, і тэхніка, трэба тысячу разоў падумаць — і не толькі пра сябе, але і пра нашых сяброў на Украіне, пра лёс Дняпра.

З пункту гледжання вучоных Інстытута меліярацыі і воднай гаспадаркі Мінмеліяводгаса СССР далейшае асушэнне на землях Палесся праводзіць ужо нельга. Новыя сродкі трэба накіроўваць на рэканструкцыю меліярацыйных аб'ектаў і рэкультывацыю зямлі. Аб гэтым сказаў дырэктар інстытута, доктар тэхнічных навук **У. Карлоўскі**. Ён прывёў статыстычныя звесткі па меліярацыі ў свеце і ў нашай краіне. Тут мы *яшчэ вельмі* адстаём, і ў першую чаргу — у эфектыўнасці выкарыстання меліяраваных зямель. Праўда, сцвярджаў вучоны, навейшыя нашы распрацоўкі пераўзыходзяць лепшыя замежныя аналагі. Але бяда ўся ў тым, што на ўкараненне *дасягненняў навукі* ідуць дзесяцігоддзі.

За дзесяткі год практычнай работы на Палессі мы прыйшлі да высновы, што самае небяспечнае з усіх відаў балот у нас — бюракратычнае. Гэтыя словы інжынера-праекціроўшчыка з Пінска **А. Дуброўскага** выклікалі шумную рэакцыю ў зале. Нават самыя лепшыя навуковыя і праектныя рэкамендацыі, працягваў ён, падвяргаюцца «рэвізіі» на месцах. На многіх канкрэтных фактах, з дапамогай фотаздымкаў выступаючы паказаў, як мясцовыя ўлады бязлітасна, з дапамогай бяздумных выканаўцаў нявечаць унікальныя ландшафты, зводзяць пад корань дубы, іншыя расліны, знішчаюць месцы пражывання жывёл. Але ж усіх гэтых шрамаў на твары зямлі магло б не быць, калі б людзі заховывалі вернасць прафесійным абавязкам, праяўлялі элементарную сумленнасць.

Што мы можам супрацьпаставіць метадам «затратнай эканомікі», якая сфарміравалася ў гады застою, «глабаліцкім» планам чыноўнікаў Мінмеліяводгаса, невуцтву гаспадарнікаў? — задавала пытанні доктар біялагічных навук **Т. Раманава**. — Толькі навуковыя веды, толькі культуру гаспадарання. Яе сёння не хапае. Той, хто з'яўляецца сёння фармальна гаспадаром на зямлі, на самой справе — усяго толькі арандатар. З псіхалогіяй арандатарства («пасля нас — хоць патоп») трэба канчаць.

**Свае думкі па закранутых праблемах выказалі таксама акадэмік АН БССР, акадэмік УАСГНІЛ С. СКАРАПАНАЎ, украінскія вучоныя М. ГРЫСЮК і І. ПАЛАМАРЧУК, беларускія пісьменнікі Л. КАРАІЧАЎ і Я. ПАРХУТА, старшыня калгаса «Зара» Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці І. САВЕНКА і іншыя.**

**З заключным словам выступіў старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па ахове прыроды В. КАЗЛОЎ.**

**У рабоце нарады прыняў удзел сакратар праўлення СП БССР В. ЗУЁНАК.**

**Па выніках дыскусіі быў распрацаваны сумесны дакумент.**

НАШ КАР.

НАШ КАЛЯНДАР

*Да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма ГОРКАГА*

# БЕЛАРУСЬ ВІТАЛА БУРАВЕСНІКА

**Як вядома, у 1932 годзе грамадскасць краіны шырока адзначыла 40-годдзе літаратурнай дзейнасці Максіма Горкага. Ён быў узнагароджаны ордэнам Леніна. Тады ж выйшла і кніга «Праўда пра Горкага». Адзін з экземпляраў яе трапіў у асабістую бібліятэку акадэміка Івана Бардзіна, які перадаў яе аднаму са сваіх маскоўскіх сяброў, а той... Па ўсім відаць, новы ўладальнік *не надта* захапляўся кнігамі, бо як інакш растлумачыць, чаму гэтае унікальнае выданне трапіла ў букіністычны магазін.**

**Як бы там ні было, а я з задавальненнем набыў кніжку, на тытульным лісце якой ёсць подпіс яе першага ўладальніка.**

**З хваляваннем перагортваю старонкі. На першай — словы У. І. Леніна: «Горкі вялізны мастацкі талент, які прынёс і прынясе шмат карысці сусветнаму пралетарскаму руху». Пад рубрыкай «Савецкі Саюз вітае свайго любімага пісьменніка» апублікаваны тэлеграмы буравесніку рэвалюцыі ад шматлікіх арганізацый і радавых чытачоў.**

**Змешчана ў зборніку і прывітанне ЦК КП(б) Беларусі: «Вялікаму пралетарскаму пісьменніку, самаму любімаму арганізатару пралетарскіх літаратурных кадраў, натхняльніку і нястомнаму барацьбіту будаўніцтва сацыялізму — у дзень саракагоддзя літаратурнай дзейнасці — ЦК КП(б)Б *шле* палкае прывітанне, жадае яшчэ доўгія гады змагацца ў першых шарэнгах за справу сацыялістычнага будаўніцтва, мабілізуючы пралетарыят усяго свету на барацьбу за сусветны Кастрычнік. Аляксей Максімавіч, жадаем добрага здароўя!**

***ЦК КП (б) Беларусі»***

**У паведамленні аб правядзенні юбілейных урачыстасцей у Мінску гаворыцца: «Горкі выбраны першым ганаровым акадэмікам Усебеларускай акадэміі навук. У бібліятэках, школах і інш. культурных установах арганізаваны выстаўкі, створана рэспубліканская *прэмія* за лепшы літаратурна-мастацкі твор, а таксама зацверджана некалькі стыпендый для студэнтаў. Калгаснікі і аднаасобнікі многіх вёсак Беларусі арганізавалі ў дзень юбілею чырвоныя хлебныя абозы».**

**Кніга «Праўда пра Горкага» *была выпушчана па*раўнальна невялікім тыражом — 10 тысяч экземпляраў. Сёння яна адносіцца да рэдкіх выданняў. Справа ў тым, што ў ёй шмат выказванняў вядомых военачальнікаў, ветэранаў ленінскай партыі, якія ў перыяд культу асобы былі рэпрэсіраваны. Зразумела, *што кніга забіра*лася з бібліятэк, прыватных збораў...**

**Б. ЧАЛЫШОЎ,**
**дацэнт Цірааспальскага педінстытута.**
Малдаўская ССР,
г. Цірaспаль.



М. Горкі за рабочым сталом.

Пад час работы над кнігай аб выдатным пралетарскім пісьменніку я звярнуўся за дапамогай у Архіў і музей Максіма Горкага ў Маскве. Супрацоўніца архіва ўнучка пісьменніка Марфа Максімаўна Пешкава расказала пра некаторыя малавядомыя факты жыцця выдатнага класіка і дала дазвол на публікацыю ўспамінаў Адама Багдановіча, які даводзіўся сваяком жонцы М. Горкага.

М. Пешкава перадала мне некалькі цікавых фотаздымкаў, *адзін з якіх прапаную ўвазе* чытачоў.

**Л. ЗУБАРАЎ.**

## ЧЫТАЮЧЫ ЧАСОПІСЫ

# ТРЭЦЯЯ СПРОБА

**З нагоды публікацыі аповесці Эрнеста ЯЛУГІНА «ПАСЛЯ НЯБЫТУ»**

ІГАР ДЗЯДКОЎ у аглядзе мінулагодняе прозы («Знамя», 1988, № 2) канстатуе, што яна «художественно несвободна», што ў ёй «художественность теснится». Гаворка ідзе пра такія творы, як «Мужыкі і бабы» Б. Мажаева, «Дзеці Арбата» А. Рыбакова, — пра творы, аўтары якіх спрабуюць асэнсаваць прычыны і сутнасць «вялікага пералому», які прывёў да масавых «рэпрэсій», да нашага адступлення ў 1941 і ў 1942 гг., да шмат якіх сённяшніх праблем. Пісьменнікі, піша І. Дзядкоў, выступаюць у ролі гісторыкаў, літаратура спрабуе кампенсаваць тое, чаго народу не дала гістарычная навука. Можна шкадаваць, што дзеля гэтага літаратура «художественно несвободна», што «художественность теснится», але можна і радавацца: бадай, ніколі цікавасць да літаратуры не была такая вялікая, як цяпер. Не да ўсёй літаратуры, а да літаратуры фактаў і публіцыстыкі. З чытацкіх лістоў у рэдакцыю «Крыніцы» я бачу, што маладое пакаленне прагне праўды пра дзень мінулы. «Гісторыі!» — такі, коратка кажучы, сацыяльны заказ пісьменнікам і журналістам. Паглядзіце, як вокамгненна зніклі з паліц першыя нумары «Маладосці» і «Полымя» з «Мужыцкай праўдай» і «Лістамі з-пад шыбеніцы» К. Каліноўскага, з раманам Андрэя Мрыя і ўспамінамі Сяргея Грахоўскага...

У гэты спрыяльны для праўды час, у час, бадай, усеагульнай прагі гістарычнага і нацыянальнага самапазнання з'явілася і дакументальная аповесць Эрнеста Ялугіна «Пасля нябыту» («Нёман», 1988, № 2).

Летась я патраціў не адзін дзень на знаёмства з працамі гісторыкаў даваеннае пары (С. Агурскага, В. Шчарбакова ды іншых) і цяпер маю ўяўленне, як у гістарычнай памяці народа ствараліся прагалы. Вось, прыкладам, які данос на сябе пісаў акадэмік АН БССР В. Шчарбакоў у 1934 г.: «Сур'ёзныя палітычныя памылкі дапушчаны... мною... Трэцяя грубейшая памылка дапушчана мною ў сувязі з разглядам нацыянальнага пытання, у сувязі з разглядам практычнага ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі ва ўмовах Беларусі. Я пішу ў сваёй кнізе: «Бальшавіцкая арганізацыя Беларусі і Заходняга фронту дапусціла тут памылку, не паставіла перад сабой не толькі перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй, але і пасля яе нацыянальную праблему, не ўцягнула ў вырашэнне гэтай праблемы ўсіх пралетарскіх арганізацый, не завастрыла ўвагі на гэтай праблеме». І ў другім месцы: «Мы можам тут сказаць, што праяўленне вялікадзяржаўнага шавінізму на Беларусі ў пачатку 1919 г., памылкі ў нацыянальным пытанні, зробленыя КП(б)Б, ігралі на руку нацыяналістам і белагвардзейшчыне Польшчы». Такога роду сцверджанні з'яўляюцца грубейшай памылкай і фактычна паклёпам на нашу партыю». Скончыў самаданос В. Шчарбакоў такім вось пасажам: «Калі нават сярод асобных членаў партыі і ў асобных партыйных арганізацыях у гэты перыяд у нацыянальным пытанні і была некаторая блытаніна, то лінія партыі і яе практычная дзейнасць была зусім ясная. Яна з дастатковай чоткасцю вызначана Леніным».

Цытую В. Шчарбакова дзеля таго, каб паказаць, што да «вялікага пералому» гістарычная навука на Беларусі ясна і выразна бачыла памылкі бальшавіцкіх арганізацый на Беларусі ў нацыянальным пытанні. Адмаўляючыся ад сваіх поглядаў, В. Шчарбакоў у 1934 г. яшчэ не дадумаўся да тэзіса аб тым, што стваральнікам БССР быў Сталін.

Гістарычная навука пачне вяртаць праўду аб стварэнні БССР і КПБ пасля XX з'езда партыі. Этапнымі былі артыкулы В. Круталевіча ў «Полымі» (1968 г.). Яны былі апошняй успышкай перыяду «адлігі» ва ўмовах новых «халадоў». Былі і потым кніжкі і кніжачкі, але ўзроўню Круталевічавых артыкулаў яны не дасягалі ані блізка, бо ў іх не было таго ўзроўню праўды. І часта віна за гэта падае не на аўтараў — на «должностных лиц, состоящих при истине» (Л. Лявонаў).

І вось аповесць Э. Ялугіна. Трэцяя спроба сказаць праўду. Спроба рэабілітаваць літаратуру, скажам, за «Вецер веку». (Такую спробу зрабіў і Г. Далідовіч у рамане «Пабуджаныя». Але твор гэты надрукаваны пакуль што ў скарочаным варыянце, і таму не выпадае яго рэцэнзаваць). Спроба вярнуць годнасць гістарычнаму мысленню.

Праз вобраз Зміцера Жылуновіча — Цішкі Гартнага пісьменнік паказвае нам, як у народных нізах складвалася нацыянальнае самаўсведамленне, як народная беларуская інтэлігенцыя, кажучы словамі У. І. Леніна, выпакутавала марксізм, як ідэя сацыяльнага вызвалення спалучылася ў яе свядомасці з ідэяй нацыянальнага самавызначэння.

Жыццё Ц. Гартнага поўнае драматычных падзей, пошуку, змагання, адчаю і, нарэшце, трагізму. Думаючы пра яго, міжволі згадваю радкі Язэпа Пушчы з ягоных «Лістоў да сабакі»:

*Паэт, які не ведае агоній,*
*Не здолее уславіць Беларусь.*

Цяжка вылучыць у гэтым жыцці нейкі адзін перыяд, але ўсё ж асмелюся вылучыць яго. Гэта 1917—1919 гг. Менавіта тады выявілася палітычная відушчасць Ц. Гартнага, менавіта тады быў яго зорны час як палітычнага дзеяча. І менавіта гэты перыяд найвышэйшага ўзлёту Ц. Гартнага перш за ўсё быў асуджаны на нябыт.

*Час нябыту — гэта не толькі* выкасоўванне з гісторыі імёнаў, гэта яшчэ і перакручванне гісторыі, яе фальсіфікацыя, гэ*та час няпраўды пра ўсё*, што з гэтымі асобамі звязана. Гэта час няпраўды пра «Нашу Долю» і «Нашу Ніву», пра Беларускую сацыялістычную грамаду, да якой належалі і Ц. Гартны, і А. Чарвякоў, і Я. Дыла, і іншыя заснавальнікі БССР.

«У тав. Агурскага БСГ у 1917 г. высоўваецца як партыя з дзвюма плынямі: адна — народніцкая, другая — марксісцкая», — пісаў у 1934 г. акадэмік Шчарбакоў. І працягваў: «Услед за тав. Агурскім рад маладых гісторыкаў дапусцілі аналагічныя памылкі ў сваіх работах, яшчэ больш паглыбіўшы іх. У гэтых адносінах з'яўляецца характэрнай работа Майзеля — Шапавалава «Кароткі нарыс гісторыі КП(б)Б». Прызнаць наяўнасць марксісцкай плыні ў БСГ — значыць пісаць пра Беларускую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю (БСДРП), якая вылучыцца з Грамады, пра Беларускія секцыі РКП(б), што ўзнікнуць на аснове БСДРП. Назваўшы Беларускія секцыі, нельга будзе не сказаць пра іх ролю ў стварэнні БССР, нельга будзе не назваць імёны Гартнага, Дылы, Чарвякова... Раз забаронена згадваць *партыі, арганізацыі*, пісаць пра іх заслугі, стане немагчыма пісаць і пра заслугі гэтых асоб. Адзіным стваральнікам БССР застанецца Сталін. І аўтарытэт У. І. Леніна не дапамагаў. Правадыр пісаў, што БСГ належала да «дробнабуржуазных нацыянальных партый леванародніцкага напрамку» (Поўны збор твораў, т. 24, с. 315). У 30-я гг. партыя з нацыянальнай «ператварылася» ў нацыяналістычную, з дробнабуржуазнай, леванародніцкай — у партыю, якая абараняла інтарэсы «*буржуазіі, памешчыкаў і кулакоў*», у партыю ледзь не кадэцкую, траха не акцябрысцкую. І сёння гэты ярлык з яе не зняты.

Э. Ялугін аднаўляе аб'ектыўную карціну ідэйна-арганізацыйнага размежавання ў БСГ, гісторыю стварэння БССР. Праўда, пішучы пра арганізацыйнае размежаванне паміж былымі грамадоўцамі, Э. Ялугін робіць, як я думаю, дзве памылкі. Па-першае, ён не агаворваецца, што гэты працэс быў даволі складаны і працяглы. Скажам, Б. Тарашкевіч першапачаткова быў у адной палітычнай арганізацыі з А. Луцкевічам — у Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (БСДП). Кім ён стаў потым, мы ведаем лепш. Па-другое, надта катэгарычна гучыць фраза пра тое, што правыя грамадоўцы аб'ядналіся ў Беларускай пар*тыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў* (БПС-Р). Сам Э. Ялугін піша, што ў час белапольскай акупацыі ўзнікла і вяла партызанскую барацьбу Беларуская камуністычная арганізацыя (БКА). Адкуль яна ўзялася? БКА, на чале якое быў і У. Ігнатоўскі, выйшла з БПС-Р. Потым яна ўлілася ў КП(б)Б. З партыі беларускіх эсэраў выйдзе і Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя (БРА) на чале з І. Лагіновічам ды Л. Родзевічам. Зліццё БРА з Кампартыяй Заходняй Беларусі дало магчымасць КПЗБ разгарнуць работу ў масах, бо да таго часу, як піша польская даследчыца А. Бергман, у партыі не было людзей, якія б ведалі беларускую мову. З партыі беларускіх эсэраў не толькі выходзілі групы, якія сталі на марксісцкія пазіцыі, — да яе далучылася **левае** крыло Беларускай партыі сацыялістаў-фэдэралістаў на чале з А. Цвікевічам. Значыць, пра эсэраў можна пісаць як пра цэнтрысцкую партыю.

Нарэшце, калі Э. Ялугін піша пра белапольскую акупацыю, пра барацьбу БКА з захопнікамі, ён *павінен помніць, што* ў гэты час БПС-Р, яе ядро пад кіраўніцтвам В. Ластоўскага стала на незалежніцкія пазіцыі. У Радзе БНР адбыўся раскол. 57 яе членаў на чале з Ластоўскім утварылі Народную Раду БНР і адмовіліся супрацоўнічаць з белапалякамі. Мала таго, эсэры таксама вялі партызанскую барацьбу. Ластоўскі ў лістападзе 1919 г. быў кінуты ў астрог і толькі ў лютым 1920 г. яму дазволілі выехаць у Літву. Адтуль В. Ластоўскі інспіраваў партызанскі рух у Заходняй Беларусі. Думаю, што ўсе гэтыя факты не сведчаць пра тое, што БПС-Р была адназначна праваю.

Уразілі мяне і словы пра наркома па справах нацыянальнасцей у першым урадзе БССР Ф. Шантыра. Так, ён пайшоў на здзелку з А. Мясніковым. Але дзеля чаго? Думаю, Э. Ялугін павінен ведаць пра гэта, як і пра тое, што ў 1920 г. Шантыр быў арыштаваны разам з Гартным. Толькі дзякуючы збегу абставін Ц. Гартны застаўся жыць, а Ф. Шантыра (першага мужа *пісьменніцы Зоські* Верас) расстралялі.

Такія мае заўвагі. І напісаны яны дзеля таго, каб Э. Ялугін улічыў, што ў нас дагэтуль яшчэ няма навуковай гісторыі палітычных плыняў і палітычных партый на Беларусі, што нашаму паспалітаму чытачу, не абцяжаранаму гістарычнымі ведамі, трэба тлумачыць і тлумачыць, здавалася б, азбучныя ісціны. Тлумачыць так, як сам Э. Ялугін растлумачыў гісторыю ўтварэння БССР і КПБ, гісторыю звужэння тэрыторыі рэспублікі да шасці паветаў, гісторыю стварэння Літоўска-Беларускай ССР.

Трэцяя спроба сказаць праўду... Думаю, яна ўдалая. Героі левай фразы, сумленныя, але блізкарукія рэвалюцыянеры не здагадваліся, што іхнія размовы пра ўсясветную сям'ю народаў былі другім бокам медаля, які называецца вялікадзяржаўным шавінізмам. Акадэмік В. Шчарбакоў пісаў, што іхнія памылкі былі «на руку нацыяналістам і белагвардзейшчыне Польшчы». З вышыні гістарычнага вопыту мы скажам інакш: Мяснікоў, Берсан, Калмановіч ды іншыя інспіравалі нацыяналізм. Ці была б у сакавіку 1918 г. на тэрыторыі, акупіраванай кайзераўскай Германіяй, абвешчана БНР, калі б раней у Смаленску аб'явілі пра стварэнне БССР? Ці адхінуліся б у такім разе ад супрацоўніцтва з Савецкай уладай шмат якія дзеячы беларускай культуры? У 20-я гады, калі перамаглі ленінскія прынцыпы нацыянальнай палітыкі, калі з'явіліся беларуская школа, беларускі друк, калі Савецкая Беларусь выйшла за межы шасці паветаў, многія з іх перасталі крытыкаваць Савецкую ўладу, а В. Ластоўскі ды А. Цвікевіч прыехалі ў БССР. У 1919-м жа ў БССР не было аніводнае газеты на беларускай мове. І ў Літбеле таксама... Меў рацыю акадэмік Шчарбакоў: гэта было «праяўленне вялікадзяржаўнага шавінізму». І што цікава: ні Мяснікоў, ні Берсан, ні Калмановіч не былі рускімі. Адразу згадваеш У. І. Леніна, яго словы пра іншародцаў, якія па частцы русіфікацыі больш старанныя, чым самі рускія. Сярод гэтых іншародцаў — таксама і беларусы.

У аповесці Э. Ялугіна канчаткова абвергнута легенда пра Сталіна як стваральніка БССР. Мы ўбачылі, як ён, «жалезны нарком», умеў інтрыгаваць, парушаць раней дасягнутыя дамоўленасці, як пад ягоным ціскам быў парушаны парытэт паміж былымі членамі Беларускіх секцый РКП(б) і «смалянамі» ў кіраўніцтве КП(б)Б і БССР. «Геніяльны правадыр» з часам удасканаліць майстэрства палітычнай інтрыгі, ягоную цяжкую руку адчуюць Ц. Гартны і А. Чарвякоў. Калі яны пакінуць гэты свет, няпраўда пра стварэнне БССР пераможа канчаткова. Пераможа надоўга.

Са старонак аповесці Э. Ялугіна перад намі ўпершыню паўстае вобраз Ц. Гартнага не толькі як пісьменніка, але і як таленавітага палітыка, дзяржаўнага дзеяча, які зрабіў усё дзеля таго, каб Беларусь заняла «свой пачэсны пасад між народамі».

Як і працы гісторыкаў 20-х гадоў, В. Круталевіча, аповесць Э. Ялугіна, стаўшы здабыткам грамадскай свядомасці, трэба думаць, паўплывае на гісторыкаў БССР, і яны праз год, два, тры напішуць праўдзівую гісторыю нараджэння беларускай сацыялістычнай дзяржавы.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ.**

ДЫЯЛОГІ

# Ачысціць жывыя крыніцы...

З паэтэсай Таісай БОНДАР гутарыць крытык Галіна ТЫЧКО

**Галіна ТЫЧКО. Ці не здаецца вам, Таіса Мікалаеўна, што ўжо даволі даўно паэты страцілі натуральнасць у выяўленні свайго ўнутранага «я»? Нават самы шчыры і непасрэдны паэт, калі звяртаецца да чытача, ні на хвіліну не забывае, што ён на людзях, так бы мовіць, на сцэне. Можа, гэта пайшло ад тых часоў, калі паэты мелі многа абмежаванняў і табу, а, можа, гэта праблема самога часу? Здаецца, што ўжо падсвядома паэт хоча выглядаць лепшым, ён усяляк прыхарошвае сябе, свае думкі і адчуванні, каб спадабацца чытачу. Як гэта, на вашу думку, уплывае на стан нашай паэзіі, і ці адчуваеце вы асабіста такую раздвоенасць?**

**Таіса БОНДАР.** Страцілі натуральнасць? Прыхарошваюць сябе, свае думкі і адчуванні?.. Так і хочацца следам за А. Кушнерам усклікнуць: «Ёсць нешта яшчэ больш абразлівае, чым цэнзурны гнёт і афіцыйныя прыцясненні—гэта цяжар грамадскай думкі, настроенай супраць паэтычнага светаўспрымання, гэта крытыка і публіка, якія адвярнуліся ад паэзіі, перасталі яе разумець!» Так, так, адвярнуліся ад паэзіі і перасталі разумець... Вашы пытанні, на жаль, толькі пацвярджаюць гэту сумную выснову, і мне нічога не застаецца, як адкрыта не пагадзіцца з ёю і выказаць свой непакой: ці не задужа слепа, ці не задужа настойліва ў гэтай сваёй слепаце адпяваем мы сваю паэзію, выказваючы шкадаванне то з нагоды таго, што няма сёння паэта па сваёй велічыні і значнасці роўнага класікам (быццам класікамі становяцца пры жыцці!), то з нагоды таго, што ніяк не зліваюцца ў адно цэлае лірызм і грамадзянскасць, веліч і будзённасць (быццам яны ўвогуле могуць зліцца!). Дзе ўжо тут успомніць, што паэт—паэзія цераз паэта—пратэстуе супраць прыніжэння чалавека, што паэт сцвярджае, прагне сцвердзіць высокае ў сабе—высокае ў чалавеку. Чалавека можна кінуць у самыя неверагодныя ўмовы, у самае прадонне адчаю, але дух яго, калі ён асвятліў душу яго, растаптаць нельга: парасткі яго падымаюцца над граззю, над крывёю, над адчаем. І пісаць — значыць, бачыць, **знаходзіць** гэтыя парасткі духу, парасткі святла. Знаходзіць — і доўжыць у слове, у лёсе...

Не сёння і не мною сказана, што непрызнанне—тое ж выгнанне. І хай даруецца мне катэгарычнасць, з якой я скажу: сёння ўсе паэты—выгнаннікі. Таму што не маюць не толькі прызнання, не толькі разумення, але і простай павагі. Я разумею, што, як вядзецца спрадвеку, пераканаць людзей у сваёй праваце, ці ў сваёй шчырасці, ці ў сапраўднасці сваёй пакуты можна толькі сваёю смерцю. Але калі ўжо вы, звяртаючыся да мяне з пытаннямі, згадалі пра сцэну, то я ў сваю чаргу магу спытаць: *ці не зашмат гледачоў* (перапрашаю чытачоў!), якім ні да слоў, ні да душэўных пакут паэта няма справы, і збіраюцца яны адно таму, што фінал будзе абавязкова сапраўдным і чакаць яго доўга не даводзіцца?

Не заўважаем, замоўчваем, б'ём не падобнага на іншых сабрата свайго, а потым публічна клянёмся ў сваёй любові да яго—пасля ягонай смерці. Радуемся (ці не роблена?), што «прызнанне» ў выглядзе літаратурнай прэміі ўсё ж знайшло яго. А, на маю думку, мы павінны адчуваць сорам, што потым, «задним числом», упіхнулі імя Высоцкага ці Караткевіча ў той гурт лаўрэатаў, аб які, як аб сцяну, разбіваліся іх галасы.

**Г. Т. Даруйце, але я зусім не збіралася спяваць адыходную, як вы кажаце, усёй паэзіі. І ці не з'яўляюцца вашы словы аб тым, што «паэт прагне сцвердзіць высокае ў сабе, высокае ў чалавеку» ўскосным пацвярджэннем маёй думкі аб свядомым прыхарошванні? Так, імкненне да ідэалу—гэта асаблівасць літаратуры ўвогуле. Але ж размова ідзе не пра ідэалізацыю, а пра штучнае ўзвышэнне лірычнага героя ў некаторых паэтаў над шэрым натоўпам, над чытацкаю гушчай. Як чытачу ўспрымаць, напрыклад, наступныя радкі: «Мой бог—маё Сумленне цвіль раўнадушша не кране»? Або такія: «Разрываю свет нязнання. Вопыт—лепшы дабрадзей. Мне — *не славы, не прызнання*, мне—пражыць дзеля людзей»? Не менш смешным выглядае і жаданне некаторых паэтаў ментарскім тонам сцвярджаць агульнавядомыя ісціны. Да прыкладу — вось так: «Не ў лаўрах сутнасць, не ў пасадах, а ў *тым, што зроблена табой*». Альбо: «Сваёй лічы долю народа. Што робіш, рабі на вякі. Не прагні ўзнагароды, а добрую памяць пакінь». Пагадзіцеся, такія прыклады пры жаданні можна доўжыць.**

**«У сапраўдным вершы прысутнічае ген шчырасці, які робіць яго, калі не бессмяротным, то ва ўсякім разе жывым»,—пісаў А. Разанаў. Вось гэтага гена, як мне здаецца, часта бракуе многім сучасным паэтам, нават тым, якія пішуць на высокім прафесійным узроўні.**

**Т. Б.** Чакайце, чакайце. Гэтак мы з вамі божы дар з яечняй пераблытаем... Вы, наколькі я зразумела, пыталіся пра паэтаў, а працытаваныя вамі радкі калі і маюць дачыненне да паэзіі, то вельмі ўскоснае. Гэта не паэзія, каму б ні належаў гонар аўтарства, гэта версіфікатарства і версіфікатарства даволі нізкага ўзроўню. Калі ж вы прагу сцвердзіць высокае ў сабе, высокае ў чалавеку лічыце «свядомым прыхарошваннем», то, прабачце, усё-такі не ўлічваеце, што ўмоўнасць—неад'емная ўласцівасць паэтычнага слова.

«Мне ў рукі лёс не шпагу даў, не лук, а ўсю Зямлю, з арэнай — Млечным шляхам...» — што гэта? Поза? Самаўзвелічэнне? Не, гэта паэзія. І не толькі таму, што радкі належаць Аркадзю Куляшову.

Вы можаце зноў запярэчыць: гаворка не ідзе пра вялікіх паэтаў... Але, *у такім выпадку*, гаворка наогул не пра паэтаў.

**Паэт не той, хто піша вершы, не.**
**Каб так было — усе былі б паэты.**
**Паэт сябе стварае, як камета**
**След самагубны,—**
**Самагубнасць гэта**
**Сапраўднага паэта**
**Не міне.**

Гэта ўжо не з А. Куляшова — з У. Някляева.

**Мы жывём**, а любое жыццё—гэта і жыццё духу. А значыць і барэнне, і адступніцтва, і перамога.

Наш практычны, удоўж і ўпоперак абмераны і ўзважаны час шукае таннейшыя, лягчэйшыя для ўспрымання замяняльнікі мастацтва — стварае і рэкламуе папулярныя шлягеры, зоркі, ансамблі. Здараецца, і сёй-той з творцаў кідаецца на святло юпітэраў, не згадваючы, што на абпаленых крыллях не ўзляціш, што самае лепшае, самае цудоўнае, самае жаданае ў свеце можна аплаціць толькі ўласнаю душою. Вось і аплачваюць — кружок святла, месца ў спісе выбраннікаў фартуны ці трошачкі вышэйшае крэсла, вось і выганяюць паэзію са сваёй душы, каб потым гнаць, выганяць яе адусюль.

Таму так важна ўмець выслухаць паэта, зразумець яго, паверыць яму. Цуд знікае, калі ў яго не вераць. І цуд паэзіі гэтаксама. Шкада, што мы згадваем пра гэта так рэдка.

**Г. Т. Маладыя паэты, як мне здаецца, больш апантана шукаюць дарог да чытача. І часам, каб спадабацца, падладжваюцца пад яго густы, дарэчы, не заўсёды дасканалыя. У нас гэта падчас апраўдваецца і патрэбай вярнуць увагу да роднага слова. Маўляў, напачатку вернем — хоць якімі спосабамі, а пазней ужо пачнём дбаць пра высокае мастацтва. Якія вашы адносіны да гэтага і, ўвогуле, ці можна сёння гаварыць пра наяўнасць такой праблемы?**

**Т. Б.** *У гісторыі ёсць гады*, дні, моманты, якія патрабуюць ад кожнага — і ад паэта!— учынку. Не слова (хоць часта бракуе нашай паэзіі і яркага, праўдзівага, святланоснага слова!), а менавіта **ўчынку**.

Думаецца, што мы, беларусы, *адзін з такіх* гістарычна-важных момантаў перажываем цяпер, бо пытанне захавання мовы, захавання культуры і нацыянальнай самабытнасці паўстала востра як ніколі і патрабуе вырашэння, на сённяшні дзень ужо неадкладнага. І не пра страту ўвагі да роднага слова трэба весці гаворку, а пра страту нацыянальнай самасвядомасці: народ жыве і дзейнічае як народ толькі да таго часу, пакуль у яго ёсць уяўленне пра сябе самога, уяўленне не толькі рэальнае і крытычнае, але і ўзвышана маральнае. І вось тут, мне здаецца, літаратура наша, паэзія наша шмат не дапрацавалі, шмат у чым паспрыялі таму, што гордасць за сябе, за мужны, таленавіты народ свой саступіла жаданню адпрэчыць цёмную, мужыцкую сваю радаслоўную, з якой пацвельваліся, кпілі не толькі «гарадскія разумнікі», а і многія літаратары. Прыгадайце, як часта дасюль спасылаюцца пісьменнікі на традыцыі Янкі

КРЫТЫКА, БІБЛІЯГРАФІЯ

# «...Каб было чэсна»

І. Навуменка. Асеннія мелодыі. Раман, апавяданні. Мінск, «Мастацкая літаратура». 1987.

Герой аднаго з ранейшых апавяданняў Івана Навуменкі «Асфальт» Жызнеўскі, адчуваючы, што не ладзіцца яго асабістае жыццё, жонка здраджвае, нечакана знаходзіць жанчыну, якая вяртае немаладому ўжо чалавеку душэўны спакой і раўнавагу, прымушае па-новаму глянуць на свет. Аднак Жызнеўскі не з тых, хто лёгка паддаецца любоўным уцехам «на баку», таму так трывожна і неспакойна ў яго на сэрцы, калі задумваецца аб сваіх і жончыных паводзінах. І нечакана ён робіць быццам маленькае, але такое важнае для яго ў гэты момант адкрыццё: «...каб было чэсна. Гэта самае галоўнае».

Словы гэтыя, да якіх доўга і пакутліва ішоў Жызнеўскі, згадваеш, калі чытаеш новы раман І. Навуменкі «Асеннія мелодыі». У жыцці галоўнага героя Андрушкевіча таксама наступіў момант, калі ён зразумеў: «у душы панаваў пякельны разлад». У рэшце рэшт прыгадваецца і Высоцкі з аповесці «Замець жаўталісця», што, перажываючы «свята пачуццяў», гэтаксама знаходзіцца на раздарожжы, як жыць далей, каб пераадолець захапленне намнога маладзейшай за яго жанчынай.

Тая, што прынесла ў жыццё Андрушкевіча «пякельны разлад», таксама маладая. Маладзейшая за яго, доктара гістарычных навук, прафесара, загадчыка кафедры. Але вось ужо два гады Андрушкевіч месца сабе не знаходзіць, думае толькі пра яе, сваю падначаленую, «маладую загадчыцу кабінета пры ягонай кафедры Ірыну Русецкую, якая, здаецца, першая зрабіла крок да іхняга збліжэння».

Гісторыя ў чымсьці банальная. Хто не перажываў такога нечаканага захаплення, якое з'яўляецца, як насланнё, перакрэсліваючы ранейшы духоўны камфорт і душэўны спакой. Але захапленне захапленнем, а жыццё — жыццём. Мяжу «недазволенага» так і не пераступіў Жызнеўскі, далей пацалункаў не пайшоў Высоцкі. Андрушкевіч хоць і марыць пра інтымную сустрэчу, але Ірына «ад такой сустрэчы ўхіляецца».

Гісторыя банальная, ды раман «Асеннія мелодыі», як і ўжо згаданыя творы І. Навуменкі, а таксама яго папярэдні раман «Летуценнік», закранае далёка няпростыя праблемы сучаснай сям'і. На гэтыя праблемы ў рускай савецкай літаратуры пільную ўвагу звярнуў С. Залыгін («Паўднёваамерыканскі варыянт»), а ў беларускай пастаянна трымае ў полі свайго зроку І. Шамякін. Даследуючы сям'ю як мікраячэйку грамадства, пісьменнік, аднак, не замыкаецца на пытаннях бытавога плана, а глядзіць на яе ў кантэксце ўсёй шматграннасці сучаснага жыцця, *калі чалавек тысячамі* ніцяў павязаны і з іншымі людзьмі, і з грамадствам.

Таму раман «Асеннія мелодыі» — гэта твор пра жыццё сённяшніх шасцідзесяцігадовых, да якіх належыць і Андрушкевіч. А паколькі герой І. Навуменкі пастаянна знаходзіцца ў навуковым асяроддзі, гэта раман і пра паўсядзённыя справы сучаснай навуковай інтэлігенцыі, найперш людзей сталых, якія вынеслі на сваіх плячах цяжар мінулай вайны, перажылі пасляваенныя нягоды, з цяжкасцю прабівалі — менавіта прабівалі! — сцяжыну ў навуку.

Прываблівае вобраз галоўнага героя, чалавека, магчыма, у чымсьці і супярэчлівага, але адначасова цэласнага. У Андрушкевіча ёсць мэта ў жыцці, ён ніколі не спадзяецца на іншых, верачы ў сваю зорку. У абмалёўцы Андрушкевіча навідавоку тая навуменкаўская ашчаднасць у выяўленчых сродках, якая асабліва, на маю думку, пачала заўважацца ў яго апошніх творах, асабліва пачынаючы з рамана «Смутак белых начэй». Ашчаднасць гэта пазбаўляе пісьмо непатрэбнай «квяцістасці», вобразнай ускладнёнасці і расцягнутасці, якія міжволі вядуць да сюжэтнай ускладнёнасці, з'яўлення другарадных кампазіцыйных *ліній і адгалінаванняў*. З другога боку — ашчаднасць дазваляе аўтару быць дакладным у перадачы душэўных зрухаў чалавека, раскрыцці яго ўнутранага свету, трымаючы кожны раз слова быццам на далоні, узважваючы яго.

Раман «Асеннія мелодыі» — усё ж раман аднаго героя. Чыя душа навідавоку, дык гэта сапраўды ўжо Андрушкевічава. Падабаецца ў ім адчуванне трываласці жыццёвага грунту пад нагамі, адданасць навуцы, пераконанасць, што дабро заўсёды перамагае зло. І гэта пры тым, што лёс вучонага не песціў, больш таго — «Андрушкевіча жыццё крыўдзіла, зневажала, прыніжала. Можа, таму гэтак нечакана, раптоўна ўспыхнула гэта яго позняе, *недарэчнае каханне. Але яно* ўспыхнула, яно ёсць, ад яго нельга адбіцца». З параненай душой прыходзіць Андрушкевіч да свайго запозненага кахання, з душой, якая баліць і крывавіць.

Перад намі па сутнасці той жа летуценнік, як і герой з аднайменнага рамана. «Раман-

## ПАЭЗІЯ

Мікола АРОЧКА



# З новай кнігі «ХЛЕБ І МОВА»

### *Хлеб і мова*

Дзівосная повязь між вамі — як тайна,
Каханая мова, духмяны хлеб,
Мы думалі, хлеб —
Гэта гул камбайнаў,
Што з поля прагналі пакутны серп.

Мы думалі, хлеб — рычагі, штурвалы,
З якіх прыкіпеў да далоняў мазут.
Ды гэтым далоням чагось не ставала,
Каб хлебам разжыўся
Мой родны кут.

З маленства мне помніцца:
Хлеб наш трывушчы,
Гаркавы, пахучы, хоць грубы памол.
Дастанеш на скібіну скварку з тлушчу...
Абсела дзятва...
Роднай мовы стол!

На хлеб і на слова — святая патрэба
На дол не кідалі іх — ані крупін.
Ды рвалася цяжка
Повязь між хлебам
І словам зямлі тваёй,
Беларусін.

Пагарды іржа...
Нашто тая повязь?
Ці хлеб не ўскалосіцца без слова
свайго?
Пабольш лемяхоў!
Гукі мовы — дробязь.
Паболей матораў ды тых рычагоў!

Чаму ж тады грудай бяздомна ржавее
Уладарка тэхнічная ўскрай сяла?
Акінуты кавал зямлі ўдавее,
Дзічэе — без рук трапяткога цяпла?

У хлеба і слова — адны ж карэнні
Духоўнасці роднай, трывог і сноў.
Ці можа ісці хлебадайна тварэнне
Без гэтых карэнняў
І родных асноў?

Ці можна адсекчы перапляценні,
Што ў роднае слова і ў хлеб ураслі?
Ці можна пакінуць
душу без адзення,
А потым дапытвацца хлеба ў зямлі?

О, колькі ўжо сэрцаў бескаранёвых,
Дзе водар радзінны завяў, зачах.
Калі ўжо шукаць рычагоў абновы,
То варта і ў мовы
Спытаць пра рычаг.

### *Трактат аб гаспадары*

1.

Я навуковец... Стыль аналітычны
Мае радкі і меціць і псуе.
Пішу трактат...
Хоць вершам і нязвычна
Чапаць душу тэорыі свае.

Я ведаю, грашыць крыху наівам
Тэорыя майго Гаспадара.
Terra incognito...
Ён мне — як дзіва,
Якое мне даследаваць пара.

Разважыць без гарачкі непрымальнай,
Хоць і нутро смыліць — як на пажар.
Перада мной жа ты —
нацыянальны,
Свядомасці высокай Гаспадар.

2.

Я Тваю постаць толькі прадчуваю,
Аднак прыход вяшчую і малю.
Калі жыве святая любасць краю.
То Ты ўдыхнеш яе —
ў сваё люблю!

Люблю зямлю — усёй сыноўняй сілай,
Хай гром — з ядра!
Ці золь ліхіх вятроў.
Здаўна ў зямлі Тваёй і ў Тваіх жылах
Адна жывая цыркулюе кроў.

Ты не ўяўляеш,
Проста Ты не можаш
Сябе асобна мысліць без яе.
Калі што з ёю станецца, крый божа,
То па Табе, па першым, яно б'е!

Пра люд свой, пра жывога чалавека,
Пра хлеб надзённы, скарбы дабраты
З такой заўзятасцю —
пра іх бяспеку!—
Апекавацца можаш толькі Ты.

3.

Не супраць Ты любых арыентацый:
Няхай — паляк ці рускі, ці яўрэй.
Для кожнай з нацый
Хопіць шчырай працы —
Жыві, будуйся і душой мудрэй.

Але няхай і кожны сваім тварам
Абернецца з надзеяй да Цябе.
Бо выбухам, патопам ці пажарам
Бяда па кожным,
як Чарнобыль, б'е.

Няхай спрыяе кожны, каб нямарна
Гаспадара зямлі паклікаў час.
Бо засланяючы свой край ахвярна,
Ён стане і заслонаю для вас.

Умеем мы азорыць справу сцягам.
Але Твая адказнасць, Гаспадар,—
Ад першага ядра да саркафага
Прыкрыць сабой —
любы распад ці ўдар.

4.

Братэрства нашых нацый —
Гэта Дрэва,
Дзе ў кроне шмат разлапістых галін.
Балюча Дрэву, цяжка, вельмі дрэнна,
Калі зляціць хоць парастак адзін.

Тым больш, калі бяда ссячэ галіну,—
Заные рана, корань задрыжыць!
Ды скажа Дрэва:
«Я то не загіну
І без галіны буду неяк жыць...»

І Дрэва свету, пэўна, скаланецца,
Калі галіна рухне пад бядой.
І сарцавіна войкне, нібы сэрца,
Ды і яна загоіць свежы боль.

А што ты скажаш, лапіна, якую
Бяда знянацку выдзера з камля?
Ты ссечаная не хочаш быць... Такую
Ніколі не адродзіць больш зямля.

Не верне жаўтадзюбых гнёзд і рэха
Гаеў вакольных...
Сучча — на касцёр!
І абгарэлая зямля пашэрхла,
Дзе попел і распад — нібы дакор...

5.

Няўжо ў Тваёй галіны лёс фатальны,
Што ўсё глыне, як незваротны дар?
Ну што ты скажаш,
мой нацыянальны,
Свядомасці высокай Гаспадар?

А тое, што Ты іменем любові
Прадбачыш і адхіліш загадзя
Усё, што грозіць —
хлебу Твайму, мове,
І ў край свой не дапусціш небыцця.

### *Вера і хімера*

Паэтаў грамадзянскіх і герояў
Прывыклі мы «за мужнасць» усхваляць.
Ды як яны сумелі ў час застою
Герояў, ордэнаў —
Панахапаць?

Затым — адхрышчвацца:
«О, як я верыў!
Мяне зноў падманулі, падвялі.
Як я забыў, што воўк бывае шэры
І голымі так часта — каралі!..»

І каралі... І мэтры-лаўрэаты,
Што здуру ўглыб не пёрліся —
У брод!
«Адзін за ўсё я самы вінаваты,
За выраканне мовы роднай, хаты...»
Віна, заўважце, варта ўзнагарод!

За гэткую правіну — проста дзіва!—
Вы не гублялі званняў і пасад.
Ішла прыбаўка шчодра за хлусліва
У грамадзянскіх масках маскарад.

А колькі даў заслуг
Крык абурэння
На безабліччасць зла — на круцялёў,
Мяшчан і бюракратаў —
без памкнення
Нашчупаць злопрычыннасць каранёў.

Адкуль нястачы — хлеба і да хлеба?
Матэрыі і духу?
Колькі страт!
Кляняцца прававерна маргаслепы,
Як трыццаць, пяцьдзесят гадоў назад.

### *Гоняць «кулакоў»...*

*Пішу па запавету Алеся Пальчэўскага, які разам з Платонам Галавачом быў сведкам падзеі.*

Глядзі, Платон...
Замры тут, на рагу.
Злачынцаў гоняць, нейкіх абарванцаў.
Ці лепш сыйдзем далей, брат, ад граху.
Штосьці грудзі пачынаюць задыхацца...
Глядзі, Платон,
Ад лапцяў пыл і стогн.
Уніз — па Валадарскай — шоргат бруку.
Такіх не помніць вуліца калон,
Такога вусцішна-нямога груку.
Як перавяслы — рукі...
На плячах
Прыгорбленых — мяшэчкі, торбы,
клункі.
Ды сцятасць невымоўная ў вачах —
Без жаднага чакання паратунку.
Адзін — як быццам аступіўся збоку
І брук мяце касматай галавой:
Разбэрсалася змейкаю валока...
Дайдзеш і босы — штурхае канвой.
Глядзі, Платон,
Іх, пэўна, гоніць кара.
Вам гэта за пажаднасць, багачы.
Аплочваецца зло — толькі ахвярай
Бо як інакш зямлю засцерагчы,
Людскія душы — ад зямной улады?
Уладу, што душыла нас мяжой,
Час перакроіць жорстка, па загаду!
А разам — і людзей крыві чужой...
Чужой?
Прыглядзься да прыгорбленых, худых.
Ты бачыш мазалістыя далоні?
Дымяцца сівізной пакутнай скроні.
Ці рукі тыя варты мер крутых?
Дыхнула баразною, пылам, потам
Ад апранахаў, рваных кажушкоў,
А, можа, гоняць тут не кулакоў?
Платон,
Што вочы трэш ад пылу ўпотай?
Зірні на той суконны палітон:
Няйначай — з гаспадарнікаў культурных.
Іх фермерства кульнута — пад адхон!
Платон,
Чаго ўтаропіўся пахмурна?
Не быдла гэта ж гоняць на забой —
Руплівасць гаспадарнікаў спрадвечных...
Пацепвае ад думак недарэчных:
Платон...
А, можа, гэта — нас з табой?

---

ІГНАТ нудзіўся за сталом. З худога твару яго задуменна і змрочна глядзелі жалудовыя вочы пад сівымі калматымі бровамі. Рэдкія, з сівізной, валасы былі зачасаны на патыліцу, адкрывалі зрэзаны маршчынамі лоб ужо немаладога чалавека.

— Не прыехалі... У дзень смерці бацькі не выбраліся... Не абяцалі б, — дакорліва прабурчаў ён і адкінуўся да спінкі стула. Глухі і ахрыплы голас падняў з ложка маці.

Яна выйшла з другой паловы хаты ў шэрай хустцы, валёнках, ватоўцы. З цяжкасцю адолела некалькі метраў, прысела на лаўку і застыла, склаўшы на каленях рукі. Згасаў дзень, і змрок затапіў пустую, з выцвілымі шпалерамі хату. Звонку біўся ў сцены тугімі парывамі лістападаўскі вецер, было чутна, як шумеў голым голлем сад і нехта шамацеў і шкробся на гарышчы.

Ігнат узняў вочы на маці, ахінуў жаласлівым поглядам яе маленькую цёмную постаць, намагаўся зразумець, пра што яна ў гэту хвіліну думае. Але твар яе нічога не выяўляў, нібы скамянеў. Ігнат памкнуўся суцешыць маці, сказаць нешта ласкавае, бадзёрае, але раздумаў: ужо даўно ўсё было перагаворана.

— Мо выпіў бы, сынок? — азвалася маці рыпучым танюткім галаском. — Ёсць настойкі трохі калінавай. Бацька піў ад сэрца.

— Аднаму, мама, не хочацца...

— Не прыедзе ўжо, мусіць, ніхто... Ні Восіп, ні Антось, ні Аксана... У кожнага сваіх клопатаў досыць,— пакорліва, з жалем гаварыла яна. І словы яе пазбаўлялі Ігната апошняй надзеі, балюча вярэдзілі сэрца.

— Прайдуся я, мама... Яшчэ апошняга аўтобуса не было.

Ён апрануўся і выйшаў на вуліцу. Вецер з шалёнай сілай дыхнуў яму ў твар, сцебануў дробным дажджом са снегам, спіхнуў пустое вядро з лавачкі ля студні, сарваў з плота прарысты мяшэчак і панёс яго недзе ў агарод. Потым нечакана ўсталявалася цішыня і ўсё прытаілася. Халодная імгла заўладарыла наваколлем. У ёй патанулі палеткі з пяшчотна-зялёным аксамітам руні і бурая самотная ралля, і лясок, праз які ішоў цяпер Ігнат.

Дарога была цяжкая: засмоктвала, ліпла да ботаў густая гразь. З дрэў сыпаліся на галаву прыгаршчы сцюдзёных кропель. Ігнат падняў каўнер паддзёўкі, нетаропка крочыў да шляху, дзе быў аўтобусны прыпынак. Як ён хацеў, каб хоць хто-небудзь з родзічаў прыехаў, жывой гаманой ускалыхнуў абрыдлую цішыню, развеяў невыносную тугу, ад якой нікуды не схавацца, не ўцячы!

Вось ужо два месяцы, як ён дзікуном жыў у глухой вёсцы, добраахвотна асудзіўшы сябе на выгнанне, каб падзяліць з маці яе горкую адзіноту. Яна нарадзіла чацвёра дзяцей, выгадавала, выправіла ў людзі і засталася зусім адна, ужо не здатная да работы.

Нарэшце лес расступіўся, і пясчаная сцежка злілася з шляхам. Ігнат схаваўся ад пранізлівага ветру ў густым сасонніку, закурыў цыгарэту, стаў пільна сачыць за дарогай. Гусцеў змрок. Ад маўклівага лесу веяла глыбокім сном і журбой. Над шапкамі соснаў і елак плылі шэрыя хмары, церушылі на зямлю дробныя мокрыя сняжынкі. І — ніводнай жывой душы навокал. Аднак неўзабаве Ігнат згледзеў чорную постаць, якая хутка набліжалася. Гэта ехаў на веласіпедзе незнаёмы вясковец. Ён убачыў Ігната і, не прыпыніўшыся, гукнуў:

— Не будзе аўтобуса! Не чакай! Апошні рэйс знялі!

Ігнат не паверыў чалавеку і яшчэ ўпарта чакаў з паўгадзіны. Аўтобус так і не прыйшоў...

●

Яркая лямпачка пад столлю асвятляла брудна-белую печ, яе зашмальцаваны бок, стракатае адзенне на цвіках ля парога, палінялыя масніцы са шчылінамі. Зноў нячутна з'явілася маці, прысела на краёк табурэта, на якім некалі сядзеў бацька.

— Не было аўтобуса, кажуць, апошні рэйс знялі, — абыякава адказаў на яе маўклівае пытанне Ігнат.

— Ну во, я так і знала, як жа яны маглі дабрацца? — Колькі ж тых людзей са свету едзе дамоў!..

Яна даўно даравала дзецям і цяпер проста хацела перакінуцца некалькімі словамі з Ігнатам — такім маўклівым і няласкавым. Яна сумавала без людзей, заўсёды была рада пагаварыць, успомніць былое і магла гадзінамі расказваць пра сваю маладосць, пра вяскоўцаў, калектывіза-

**П Р О З А**

Анатоль ЖАЛЯЗОЎСКІ



# Ідзі, сынок, ідзі!

АПАВЯДАННЕ

цыю і вайну.

— Во, як не стала Піліпа, дык ён у сне штоноч і прыходзіць да мяне. І ўсё наша жыццё з ім як на далоні... І колькі ж усяго было, і так даўно, а вот жа помніцца! Дзе тая калектывізацыя, а як цяпер бачу: прыехаў Піліп з раёна і кажа: «Ну, маці, паздраўляй — прэдсядацелем назначылі». Абарвалася маё сэрцайка. Страх які, божа ж мой! Колькі людцаў пагінула! Пасля раскулачвання такая варожасць разгаралася! Багацейшыя, як паны Рабэцкія, пакідалі свае маёнткі і ўцяклі. А каго ж сілаю ў Сібір. «Ты што, асірацiць дзяцей хочаш?» — загаласіла я. Ты, сынок, толькі хадзіць стаў, а Аксанка — на руках была яшчэ. «А як жа я мог думаць пра сябе, калі ўлада савецкая мне даверыла...» — адказаў ён... Ох і нагараваліся мы тады! Памятаю, ноччу ўваравіліся ўтрох з вінтоўкамі. «Давай, Піліп, налівай, вып'ем за сустрэчу і расстанне ды правядзём цябе туды, адкуль не вяртаюцца... Хопіць, пастаршынстваваў, пакамандаваў». Паваліліся я на падлогу—малю, каб злітасцівіліся. А ён, Піліп, злосна прыкрыкнуў на мяне: сціхні, мауляў, ды і кажа ім: «Мяне народ камандаваць паставіў... Ну, заб'еце і што? Заўтра іншы, гэткі, як я, на маё месца стане». Ці то спужаліся, ці то пашкадавалі, але не кранулі бацьку. Толькі выграблі апошнюю муку і брытву адабралі... Доўга няголены хадзіў Піліп... А ў вайну гэту праклятую і немцы, і паліцаі да сцяны не раз ставілі, за сувязь з партызанамі... І ўзнагародамі потым не абмінулі, і заслужаным калгаснікам назвалі. Слава і пашана... Толькі жыць ужо некалі...

Але на гэты раз маці нічога не сказала, моўчкі пасядзела і зноў падалася ў свой куток, а Ігнат нагадаў бацьку, яго апошнія дні жыцця.

На пачатку верасня Ігнат прыехаў да старых, каб памагчы прыбрацца на агародзе. Але бацька не абрадаваўся, як на чужака, глянуў на сына мімаходзь і чамусьці разгублена. Гэты нязвыклы пагляд балюча ўкалоў Ігната.

— Што з табой, тата?

— Не ведаю, сынок. Ногі нешта апухлі і сілы зусім не стала. Мусіць, аджыў я сваё, — не адразу азваўся бацька і ўзняў на сына вочы. Яны здаваліся незвычайна вялікімі на высахлым твары. І было ў іх столькі роспачы, мальбы аб паратунку, што ў Ігната здрыганулася сэрца. Ён дакрануўся да бацькавага пляча, адчуў нязвыклую худзізну, дзіцячую кволасць яшчэ не так даўно налітага сілай цела.

— У бальніцу табе, тата, трэба. І неадкладна. Падлечышся... А нейкі бязлітасны голас пярэчыў: «Дарэмна, рыхтуйся да горшага».

Бацька не даслухаў яго, узяў граблі, падаўся зграбаць салому. А Ігнат стаяў, прагна курыў, безабаронны перад ахапіўшай яго трывогай. Дзень разгараўся незвычайна прыгожа. Шчодра асветлены сонцам, палымнеў барвай і зязў золатам лясок у канцы агарода, да нябеснага блакіту цягнуліся сярэбраныя ніткі павуціны. Ігнат любіў гэту цнатлівую пару з прытомленым сонечным святлом і фантастычным буяннем фарбаў, пакорлівай маўклівасцю палёў. Душы ягонай заўсёды было ўсцешна ад дзівоснай сугучнасці з родным куточкам зямлі. Але ён не бачыў гэтага хараства...

Бацьку ён тады ўгаварыў паехаць разам з ім у горад, уладкаваў яго у новую шматпавярховую бальніцу. Дамогся кансультацыі славутага прафесара. Высачэзны, басісты, той бадзёра размаўляў з бацькам у суседнім кабінецікy. Ігнат пераступаў з нагі на нагу ля стала медсястры, і хвіліны здаваліся вечнасцю.Нарэшце прафесар выйшаў, пачакаў, калі Піліп апранецца, папрасіў яго:

— Пагуляй, бацька, хвілінку па калідоры. Мы тут пагаворым, як цябе лепей лячыць, шчыльна прычыніў за старым дзверы, павярнуўся да Ігната:

— Мушу сказаць вам праўду: ад такой хваробы не ратуе і сам бог.. Але паспрабуем прааперыраваць.

...Пасля аперацыі бацька нерухома ляжаў, прыкуты да белага ложка. Маленькі, дашчэнту высахлы, ён ненадоўга адплюшчваў празрыстыя, літасціва-пакорлівыя вочы, калі прыходзіў сын. Ігнат гаварыў яму нешта, хлусіў, што хутка той пойдзе дамоў, будзе жыць доўга, гладзіў яго знявечаныя работай рукі з успухлымі венамі і тоўстымі, нязграбнымі пальцамі, што нерухома ляжалі на коўдры. Ён бачыў, што жыццё пакідае бацьку, па кропельцы выцякае з яго цела, як вада з дзіравай пасудзіны. Яго ахапілі нянавісць і агіда да самога сябе, за тое, што бяссільны абараніць бацьку. І калі ўранку пазванілі з бальніцы і сказалі, што бацька памёр, Ігнат горка заплакаў. Ён плакаў не толькі па бацьку, але і па сабе, па сваёй жонцы і дзецях, якім таксама суджана прайсці свой зямны шлях і адбыць туды, дзе ўсе роўныя перад богам і вечнасцю.

●

Пасля пахавання, калі аднавяскоўцы пакінулі асірацелы хутар з вялізным яблыневым садам, у хаце засталіся толькі самыя блізкія.

— Ну што, мама, як далей будзем? — парушыў цнатлівую цішыню Ігнат.

Паабапал яго сядзелі браты: невысокі, каржакаватыя, кучаравы Антось і смуглявы, з раскосымі, як у мангола, вачыма, Восіп. Абодвум — за сорак. Сястра Аксана — з твару копія маці, змучаная работай і дзецьмі, маўкліва прыбірала посуд.

— А ніяк, — адазвалася маці, абыякавая, знясіленая горам. — Колькі бог дасць, пажыву. Але хутчэй бы да бацькі. Натамілася...

— Навошта вы, мама, так?.. Мы ж не пакідаем вас адну, — жаласліва сказала Аксана.

— Ну што — я? — пярэчыла маці. — Жывіце па-людску, дзяцей гадуйце... А я тут сама як-небудзь.

— Так нельга, — разважліва прамовіў Антось. — Давайце да мяне... Месца хопіць. А адной вам — нельга. Ці мала што... І вады падаць некаму.

— Ды і ў мяне, маці, ты не будзеш лішняй, — перабіў Антося Восіп. — Унукі вунь увесь час «баба», ды «баба».

— У мяне ж кватэра вялікая! — амаль што крыкнуў Ігнат. — Навошта агарод гарадзіць! Нам з жонкай весялей будзе.

І зноў усталявалася гнятлівая цішыня. Але ніхто не спрабаваў ускалыхнуць яе, усе чакалі, што скажа маці. А яна сядзела нерухома, нібы застыла, абедзвюма рукамі абапіраючыся на кіёк. Потым схаменулася, акінула дзяцей ласкавым, спачувальным поглядам, прамовіла:

— Не, мае дарагія, нікуды я са сваёй хаты не пайду. Як жа пакінуць усё гэта — сядзібу, зямлю? Столькі перажылі мы тут з бацькам, пакуль вас на ногі паставілі! Ніколі не казала пра гэта, а цяпер мушу прызнацца — тут кожная травінка сэрца саграе, кожны каласок вока цешыць... Не, мае любыя... А калі што якое — людзі не пакінуць. У нас тут свой вясковы тэлеграф — не засвяцілася вечарам акно, хто-небудзь і заскочa паглядзець — ці жывая. Яшчэ не абязлюдзела вёска.

Простыя і шчырыя матчыны словы апяклі Ігната, пятлёй перахапілі горла — ні дыхнуць, ні слова сказаць. Ён баяўся ўзняць вочы, каб ніхто не ўбачыў ягоных роспачных слёз. Восіп і Антось таксама пахілілі галовы, пільна ўглядаліся ў затаптаную падлогу. З апошніх сіл трымалася Аксана, каб не заплакаць.

— Як знаеш, мама, — нарэшце перасіліў сябе Ігнат. — Яно, можа, і праўда — старое дрэва на чужой зямлі рэдка калі прыжываецца.

Змучаныя, разгубленыя, яны пакінулі надвячоркам маці ў асірацелай, нязвыкла прасторнай хаце.

Ігнат адразу стаў клапатаць пра пенсію. А калі ўсё было зроблена, развітаўся са сваёй ліцейкай, дзе праліваў пот больш як трыццаць гадоў. Таварышы падарылі на памяць тоўсты брызентавы камбінезон. Ён павесіў яго ў калідоры на самым відным месцы. Спакаваў рукзак і праз дзень-другі наважыўся паехаць да маці. Але нечакана жонка ўспрыняла яго рашэнне як знявагу, як нейкі неразумны парыў.

— Што ты там будзеш рабіць? — ускінулася яна, калі Ігнат паведаміў ёй пра свой ад'езд. Анюта прыціскалася спіной да сцяны маленькай, як клетка, куханькі, не зводзіла з Ігната вачэй, поўных слёз.

— Найду сабе дзела, — вінавата апраўдваўся ён і доўга мяшаў лыжачкай даўно астылы чай. — У калгас пайду. У кузню, можа, а не — дык і ў старажы...

— Пра мяне ты падумаў? Хто я цяпер? Удава пры жывым мужыку? Людзі смяяцца будуць.

Вочы яе зноў патанулі ў слязах, нос пачырванеў, рукі нервова трэсліся і скублі краёк фартуха. Яна была разгубленая, нешчасная і такая родная, што ў ім з новай сілай успыхнула горкая віна перад Анютай. Яму хацелася падысці да яе, прылашчыць, суцешыць. Але нешта ўстрымлівала, і Ігнат, падавіў шкадобу, ціха сказаў:

— Паймі ж і ты мяне, Анюта... Не магу я кінуць маці адну.

— Вас жа многа — дзяцей. Можна па чарзе ездзіць. Яна не толькі твая маці, але і тваіх братоў і сястры! — злосна крыкнула яна. — Такі жаласнік!

— Кідай ты, Анюта, сваю фабрыку. Паедзем назад у вёску. Хоць пад старасць пажывём, як людзі, — прымірэнча прапанаваў ён.

— А пенсія? Хто мне яе дасць? Усё жыццё прастаяла за станком, аслепла, рукі-ногі пакалечаны... А цяпер кінь! Год да пенсіі застаўся. Ды і чаго там я не бачыла? Чыгуны пудовыя цягаць ды свіней карміць? Не, ужо! Адвыкла я ад вёскі. Нічога мне ад яе не трэба. Ні паветра, ні зямлі... нічога.

— Досыць і маёй пенсіі, — перапыніў яе Ігнат. — Ці многа нам трэба?

— Трэба, Ігнат, трэба — дзецям памагаць. Інжынерам-сторублёвікам, — упарта наступала яна на Ігната.

Той і згаджаўся і не згаджаўся з ёй. Ён разумеў і ўхваляў яе самаахвярную любоў да дзяцей, але асуджаў за стойкую непрыязнасць да вёскі. Анюта рэдка ездзіла туды, пазбягала сустрэч з землякамі і ўспамінаў пра сваё бясхлебнае нярадаснае юнацтва, калі яны з Ігнатам, як напужаныя гракі, сарваліся з бацькоўскай зямлі.

Ігнат нагадаў той далёкі час, калі яны пасля роспісу ў гарадскім загсе асталяваліся ў малюсенькай хацінцы ўскрай горада. Там і нарадзіўся іх першынец, Алесік. З гэтай нагоды завітаў бацька з падарункамі і вясковымі прысмакамі. Пагасцяваў з паўдня, на развітанне сказаў:

— Ты не сярдуй, сынок. Можа, не ў свае дзела лезу, але нягожа так: не разумею, жывяце ці то ў хлевушку, ці то ў сабачай будцы... Давай мы з табой добры дом змайструем... Лесу я дастану. За пару гадкоў і скідаем. Ды падавайся ты, сыне, назад.

Бацькавы словы ўскалыхнулі Ігнатаву душу. Ён і раней не раз разважаў аб сваім жыцці, і выснова была адна: здрадзіў — бацькам, зямлі. Пасля расстання з бацькам, ён доўга блукаў па вуліцах, думаў, спрабаваў душой працівіцца неадольнаму жаданню вярнуцца, каб звіць гняздо пад бацькоўскім дахам. І не змог.

Сваім патаемным ён не падзяліўся з Анютай, не растлумачыў, чаму часцей стаў ездзіць дамоў. Удвух з бацькам вывозілі з лесу і абцёсвалі бурштынавыя звонкія сасонкі, залівалі фундамент, складвалі зруб і печ. Усё да апошняга цвічка рабілі самі. І праз два гады ўзняўся на Піліпавым гародзе прыгажун-дом, пад чысты вугал, з карункавай ліштвай.

Але надарылася так, што якраз, калі збіраліся рабіць улазіны, а Ігнат напісаў ужо заяву аб звальненні, яму выдзелілі пакой у заводскай камуналцы. І Анюта сказала як адрэзала:

— Не спадзявайся, не паеду! Завод нас адзеў і накарміў. Жывём не горш за іншых. А там зноў гарбаціцца трэба ад цямна да цямна, каб атрымаць капейкі. Досыць! Нагаладалася і нахаладалася. Яшчэ і цяпер адагрэцца, ад'есціся не магу.

Гэту крыўду на жонку ён пранёс праз усё жыццё. Яна нагадвала хранічную хваробу, што то затухала, то ўспыхвала з новай сілай. Мажліва, і не даравау бы Анюту, калі б не любіў.

Дом прыкупіў сусед — Іван Бягун. Тры сыны яго засталіся пры ім, трэба было рассяляць. Колькі Ігнат ні праходзіў паўз дом, заўсёды нанова перажываў крыўду.

●

Стары гадзіннік - зязюля адкукаваў поўнач.

Вецер перастаў біцца ў вокны, але узмацніўся дождж, абрынуўся шквалам на дах, стукаў па ім нібы гарохам, ручаямі шумна сцякаў на зямлю. Гэтыя адвечныя гукі закалыхвалі, атуплялі.

Ігнат выбраўся з-за стала, выйшаў на падворак, нырнуў, як у вір, у золкую вільготную цемру. Доўга стаяў, пакуль наскрозь не прамок і не скалеў. На сон ужо не цягнула. Яму хацелася разабрацца ў сваіх пачуццях, вызначыцца ў адносінах з маці, сваякамі, жонкай і дзецьмі. «Я загнаў сябе ў нейкі тупік, — разважаў ён. — Я зрабіў нешта не тое, не так. І не ведаю сам, чаго хачу, што мне трэба. Мне тут невыносна цяжка... Што ж цяпер рабіць, як жыць?»

Ён нагадаў першыя ціхія дні пасля гарадскога тлуму, калі цешыўся свабодай, як тая рыба, што трапіла зноў у чыстую ваду. Зранку да вечара хадзіў па лесе, шукаў бярозавую чагу, настойкай з якой лячыў страўнік і печань, збіраў познія грыбы, сушыў мох, каб заканапаціць да зімы сцены хаты, сядзеў з вудай ля рэчкі. Агарэлі апошнія дні восені, пайшлі нудныя, зацяжныя дажджы, сырая імгла занавесіла далячыні, адгарадзіла хутар ад вёскі. Усё навокал: і зямля, і сад, і лес былі мокрыя, панурыя, журботныя. Ігнат рана клаўся і рана ўставаў, падпальваў у печы, варыў немудрагелістую ежу для маці і сябе, потым бяздумна ляжаў на канапе, ці чытаў. Але кнігі, як і тулянне без работы, стамлялі яго ўжо вядомымі ісцінамі, дробязнымі клопатамі, прымітыўнымі пачуццямі.

Аднойчы, нібы згаварыліся, прыехалі Восіп, Антось, Аксана, навезлі гарадскіх гасцінцаў, ажывілі хату галасамі. Работы не было, і яны схадзілі да Гайны, патуляліся па двары, паспрабавалі збіраць на агародзе каменне. Аксана мыла падлогу, бялізну, карміла старую і падоўгу з ёй пра нешта гаварыла. Перад ад'ездам нечакана ўсхадзіўся Восіп, задзірліва абвясціў пра свае правы на сядзібу.

(Заканчэнне на стар. 14—15).

*27 сакавіка — Міжнародны дзень тэатра*

**Аляксей ЛЯЛЯЎСКІ,**
**галоўны рэжысёр Дзяржаўнага тэатра лялек БССР**

# З лялькамі працуюць людзі

**Свае фестывалі УНІМА — Сусветны саюз дзеячаў тэатра лялек — ладзіць амаль штогод, і адметныя яны тым, што запрошаныя да ўдзелу краіны вязуць туды самыя лепшыя спектаклі. У 1988 годзе ўпершыню быў наладжаны фестываль тэатральных школ свету, які доўжыўся з 15 па 20 студзеня ў Любляне (Югаславія) і меў назву «Лялька-88».**

ТАКІЯ фестывалі маюць на мэце абмен вопытам і пашырэнне кантактаў дзеячаў тэатра, а для студэнтаў лепшую практыку і ўявіць нельга. І практыку не пасіўную («сяджу і гляджу»), як часцяком гэта робіцца ў нас, а дзейсную, бо можна ўзяць удзел і ў спектаклях, і ў абмеркаваннях, і ў прыватных занятках вядучых майстроў. Праграму люблянскага фестывалю я б назваў перанасычанаю, бо за 6 дзён мы мусілі паглядзець выступленні лепшых лялечных школ свету, асобнаю праграмаю ішлі лепшыя югаслаўскія спектаклі, былі запрошаны вядомыя салісты - лялечнікі для практычных заняткаў, прапанаваны вялікія відэапраграмы. Трыццаць пяць спектакляў дакляравала праграма, сярод якіх спектаклі школы з Бельгіі, з Прагі, з Сафіі, з Яраслаўля, з Сеула, з Гаваны, з Бохума, з Берліна, маладзёжнай групы з Любляны; па два спектаклі паказалі палякі і заходнія немцы са Штутгарта. Мы аддалі перавагу вучэбным работам: каб паглядзець, хто ў хуткім часе прыйдзе ў лялечнае мастацтва, каб спазнаць і акрэсліць для сябе перспектывы яго развіцця ў свеце, параўнаць узровень падрыхтоўкі студэнтаў і выкладання. Вазьмуся сцвярджаць, што на фестывалі мы пабачылі амаль поўную карціну развіцця сучаснага лялечнага мастацтва свету, але радасці выпала куды менш за смутак: савецкая лялечная школа *перажывае крызіс, што* і прадэманстравала школа з Яраслаўля...

Хацелася б тут сцісла прааналізаваць сітуацыю, якая складаецца на сённяшні дзень у «лялечным свеце». Ёсць краіны, дзе асноўная ўвага надаецца выхаванню акцёра, развіццю ў ім уласна акцёрскіх якасцей. Найбольш пераканаўча гэта дэманструе польская школа, тое самае можна сказаць і пра школу Балгарыі. Яны паказалі моцныя, дыхтоўныя, прафесійныя спектаклі, якія ніяк не супадаюць з нашым традыцыйным *уяўленнем пра студэнцкія* работы. Не зраблю адкрыцця, але нагадаю, што ў лялечным тэатры патрабуецца мысленне, звязанае з лялькаю; у нашых савецкіх школах яно выхоўваецца блага. А вось пражская школа ДАМУ «прадэманстравала» гэтае мысленне спектаклем «Партрэт» паводле М. Гогаля, і так адмыслова, што я б, напрыклад, не здолеў аднесці гэты спектакль да нейкага віду мастацтва. Лялька там адна, дзве-тры маскі і акцёры. Можа быць, гэта тое мастацтва, якое Юркоўскі назваў «татальным тэатрам», г.зн. тэатрам усіх выразных сродкаў — масак, прадметаў, рэчаў, чалавека, — тэатра, пабудаванага паводле прынцыпа мыслення вобразам лялькі, сумяшчэннем жывога і нежывога, калі акцёр можа трактавацца лялькаю, а лялька — чалавекам. У пражскім спектаклі немагчыма было лагічна вытлумачыць, чаму **так** адбываецца ў той ці іншы момант, **якім** меркаваннем падпарадкоўваецца рэжысёр, а якім і **чым** — акцёры. Спектакль, да ўсяго, вельмі моцна ўздзейнічаў на падсвядомасць...

У прынцыпе ў нашай краіне нешта падобнае існуе, гэтае «нешта» прынята называць рэжысёрскім тэатрам: рэжысёр выбудоўвае, акцёр выконвае. Але гэты тэатр — не на дакор яму, не! — пазбаўлены нейкай калектыўнай думкі. А для чэшскай школы якраз уласціва тое, што падобнае мысленне (назавём яго рэжысёрскім) выхоўваецца і ў акцёра. Акрамя таго, акцёры высокапрафесійна выконваюць *ролі*, валодаюць музычнымі інструментамі (і не адным, і не двума), пантамімаю, акрабатыкаю і г. д.

У школе Заходняй Германіі менш за ўсё надаюць увагі моцнаму голасу ці пластыцы акцёра( прынамсі, мне так падалося). Усё скіравана на тое, каб навучыць акцёра вельмі дакладна вобразнай мовай сфармуляваць сваю думку і данесці яе да гледача, а калі ўжо торгаць палачкі і нітачкі, дык добра ўсведамляючы, дзеля чаго гэта трэба. Да прыкладу, я магу вызначыць галоўную думку спектакля з Бохума «Дамы», — сучаснае ачмурэнне чалавека, — але вось пераказаць спектакль... Напачатку ўсе персанажы нешта старанна пілуюць, раптам гучыць сірэна і яны разыходзяцца па дамах. І ў кожным доме, у кожным пакоі адбываецца нешта сваё. Вось на другі паверх падымаецца паненка і пачынае распранацца. З'яўляецца маленькая лялька-пятрушка, каб... цікаваць-падглядаць! Дзяўчына то адкідае яго, то прыціскае пантофляю... Ці дэманструюць звычайны аматарскі слайд: вугал дома, каналізацыйны люк, паверхі з нумарамі, агульны план; потым — тое самае ў адваротным парадку, і падае манекен... Жывы чалавек, маленькая лялька, слайды... Чаму так? Ну, яны так бачаць, так уяўляюць сабе сучасны дом і ягоных жыхароў. Нельга тут разважаць пра цэльнасць, выбудаванасць, ды спектакль на гэта і не прэтэндуе: ні на ахоп, ні на аб'ектыўнасць, ні на нейкія *каноны ці прынцыпы*. Для гэтай школы, як і для шмат якіх замежных школ увогуле не існуе пытанняў накшталт: якімі лялькамі, якім святлом, эклектычна, стылізавана, хутка, марудна, поўна і да т.п. галоўнае — **пра што.** Пра што яны збіраюцца нам распавядаць са сцэны...

Там, на фестывалі, я меў гутарку з вядомай балгарскай крытыкесай. Гутарку, магчыма, нейкім чынам крыўдную для нас, савецкіх лялечнікаў, але вельмі наспелую: пра тое, што ўзровень мыслення асобных савецкіх рэжысёраў **ужо** адпавядае сусветнаму, пра тое, што гэтыя адзінкі, урэшце, разняволіліся ўнутрана... Што ж. Наш БДТМІ і ягоная «акцёрска-рэжысёрская» прадукцыя сусветным патрабаванням пакуль зусім не адпавядае. Але становішча ў інстытуце, на жаль, імгненна змяніцца не можа, і склалася, па-мойму, з-за таго, што надта доўга існавалі ўсялякія забароны, надуманыя крытэрыі (і дзе толькі іх выпрацоўвалі-замацоўвалі?). Адзінае, чаго нам бракуе (не толькі нам; палякам, напрыклад, таксама), гэта так званай свабоды творчасці, унутранай свабоды. Калі мастак увесь час азіраецца на тое, як яго зразумее той, а як гэты, дык ён проста не ў стане працаваць, ствараць. Адсутнасць унутранай свабоды мае жахлівыя вынікі, бо распаўсюджваецца не на адны *толькі лялькі, на лялечны* тэатр ці на нашых гледачоў. Калі свабода, паводле паэта, існуе як адказнасць за тое, што ад*бываецца, дык яна адсутнічае ў* шмат каго з тых, хто і ў тэатр ніколі не ходзіць. Праўда, я не думаю, што ўмовы для «ўнутранага разняволення» нам як дзеячам мастацтва створаць у бліжэйшым часе (я, да прыкладу, уціск з боку кіруючых органаў тэатра зараз адчуваю як ніколі моцна), але без гэтага, на жаль, у мастацтве няшмат што можна змяніць...

*Можа быць*, ілюстрацыяй да маіх прызнанняў быў на фестывалі фільм пра Пітэра Шумана і ягоны спектакль «Эсквота-5». У нечым лёс Шумана — паказальны. Ён развітаўся са сваім тэатрам, як высветлілася, назаўсёды. Ён ездзіць па краінах свету і сачыняе—лепшага вызначэння я не падбяру — спектаклі. Ён вялікі *лялечнік*, але ў тэатры не любіць акцёра, бо той, паводле Шумана, руліцца толькі пра ўласны поспех, а не пра поспех ідэі, тэатра, спектакля. Шуман разважае пра людзей мастацтва і пра тое, што мастацтва *па* заказе не бывае. Не бывае мастацтва да вызначанага тэрміну, да даты, паводле нечых пажаданняў... Не *бывае мастацтва*, калі няма ўнутраных прычын у мастака для творчасці. Пэўна, гэты крытэрый занадта высокі, а Шуман — чалавек заможны, калі можа дазволіць сабе рабіць спектаклі толькі тады, калі яму ўздумаецца. Але ў адзіным ён *мае рацыю*: трэба перапыніць серыйнасць мастацкай вытворчасці — як спектакляў, так і іх стваральнікаў...

Колькі слоў пра другі чэшскі тэатр — «Драк» з горада Храдзец-Хралавэ. Маленькі гэты гарадок, паводле вызначэння УНІМА, мае адзін з лепшых у свеце тэатраў лялек. Чэхі і славакі — шчаслівыя людзі. Яны аднымі з першых у свеце ўсвядомілі значэнне і ролю народнай традыцыі, падхапілі і развілі яе, першымі сфармулявалі прынцыпы так званага «лялечнага мыслення». І *першым* сярод першых гэтым заняўся тэатр «Драк». Потым, натуральна, гэта «заразіла» ўсю краіну, *была распрацавана цэлая* праграма падрыхтоўкі лялечнікаў, і вось, калі параўнаць колішняга «Дракона» паводле Шварца (*адзін з першых спектакляў* «Драку») і «Прададзеную нявесту» паводле Дворжака (леташнюю пастаноўку), дык абод-

МУЗЫКА

# І ПЕСНЯ, І ТАНЕЦ

**Новая праграма Акадэмічнага народнага хору БССР імя Г. ЦІТОВІЧА**



Сапраўднае мастацтва нараджае ў сэрцы пачуццё глыбокага задавальнення і ўдзячнасці да яго стваральнікаў. З такім пачуццём гляджу я выступленні Акадэмічнага народнага хору БССР імя Г. Цітовіча. Кожная новая праграма хору заўжды значная падзея ў музычным жыцці рэспублікі.

Нядаўна на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі была паказана новая праграма, падрыхтаваная хорам да 70-годдзя ўтварэння Беларускай ССР і Кампартыі рэспублікі. Адбылася грунтоўная, сур'ёзная справаздача калектыву перад гледачамі.

Адметнасцю канцэрта былі прыкметы спрадвечнай народнасці — і ў гучанні хору, і ў танцах, і ў музыцы, і ў прыгожых касцюмах. Новая праграма вызначаецца асаблівай сардэчнасцю, мудрай прастатой. Ва ўвасабленні творчай задумы адчуваецца важкая праца мастацкага кіраўніка і галоўнага дырыжора М. Дрынеўскага, музычнага кіраўніка М. Сіраты, галоўнага хормайстра І. Абразевіча, балетмайстра-пастаноўшчыка В. Варановіча.

Прывабіла мяне выканаўчае мастацтва артыстаў хору. Прыкмячаеш узрослую культуру спявання, зладжанасць, ансамблевасць, добрую дыкцыю, гожасць сцэнічных паводзін. Дастаткова было паглядзець на твары артыстаў хору, каб зразумець: яны не проста выконваюць сваю чарговую «планавую работу», а ўдзельнічаюць у нараджэнні мастацтва.

Пампезна адкрываецца першае аддзяленне канцэрта: гучаць песні «Вітанне», «Вясёлая старонachка», хор з'яўляецца на сцэне з песняй, падтанцоўкамі, жывапісна мяняючы пастраенні груп. Ярка выяўлена народная стыхія, нацыянальная самабытнасць. У тэатралізаваных канцэртных нумарах арганічна зліваюцца танец, спевы і музыка. Ствараецца ўражанне, быццам прысутнічаеш у вёсцы на народным гулянні. Ансамблевай дакладнасцю вызначаецца пастаноўка В. Варановіча.

Удала прагучалі песні «Каля лесу туман», «Павачка» (салісткі В. Крыловіч і С. Суседчык). У гэтых песнях спалучыліся і паэтычны змест тэксту, і лірычная пранікнёнасць мелодыі, і натхнёнасць выканання. Іншага характару — «Бярэзінскія гульні». Колькі выдумкі, творчай фантазіі, пераканальнасці ў сцэнічным увасабленні!

Вялікі поспех мела песня «Чырвоная калiначка» ў апрацоўцы М. Дрынеўскага (саліст В. Лабанок). Прагучала шчыра, артыстычна, з уздымам, уражліва. А вось — «Была ў мяне люлька». Саліст М. Скорыкаў паказаў добры голас, валоданне ўсім арсеналам выразных сродкаў, музыкальнасць, пранікненне ў сэнс песні. Мужчынская група хору перадала тут харaство мелодыі, свежасць і сучаснасць харавой мовы. А колькі гумару раскрылася ў песні «Чучэра», у жартоўным дасціпным дыялогу паміж дзяўчатамі і *хлопцамі!*

Вельмі глыбокае, моцнае ўражанне зрабіла харавая сюіта «Песні баявых дарог», складзеная з *героіка-патрыятычных* песень. Прыемна было пачуць добрыя даўнія творы: «Как родная меня мать провожала», «Там, вдали за рекой», «По морям, по волнам», «Огонек», «Солнце скрылось за горою». Гэтыя песні перадаюцца, як найкаштоўная мастацкая спадчына, ад пакалення да пакалення.

Калектыў аркестра варты асаблівай увагі. Можна адзначыць высокую аркестравую культуру, мастацкі рост калектыву. Вельмі адказна ставіцца аркестр да сваіх задач: суправаджэнне як хору, так і танцавальных нумароў. Дарэчы, чулае суправаджэнне дапамагае артыстам ярчэй раскрыць сюжэтную лінію таго або іншага танца. Аркестр парадаваў гледачоў ансамблевай культурай, выканаўшы «Смаргонскую кадрылю».

Я з вялікім задавальненнем адзначаю, што харэаграфія ў хоры мае трывалы народны грунт. Танцоры імкнуцца раскрыць змест таго ці іншага народнага танца, перадаць яго характэрныя рысы, стыль, манеру выканання, настрой, аздобіць малюнак танца, удасканаліць яго тэхніку. Паказ новай праграмы пацвярджае творчыя магчымасці здольнай моладзі, кожны танец успрымаеш як гарэзлівы, вясёлы расказ пра маладосць, шчасце, пра любоў да жыцця.

Мужчынскі танец «Таўкачы» суправаджаецца мужчынскім хорам і аркестрам. Які валявы, шматфарбны, зухаваты, колькі ў ім гумару! Балетмайстар В. Варановіч знайшоў разнастайныя фарбы для перадачы ўнутранага стану герояў танца, знайшоў і дынамічныя рухі. «Руская субацея» (пастаноўка В. Варановіча, музычная апрацоўка М. Сіраты) — тэатралізаваная кампазіцыя, дзе арганічна зліліся танец, песня, ін-

ва быццам патыхаюць учарашнім днём чэхаславацкага тэатра, бо зроблены і сыграны людзьмі, якія стваралі яго. Маладыя працуюць ужо інакш, але — на той самай аснове! Думаю, што і ў нас працэс навучання мусіць адбывацца так як «у іх»: лепшыя ідэі прафесійнага тэатра павінны хуценька пераходзіць у тэатральныя школы. Першая ж наша загана: якасць падрыхтоўкі студэнтаў не цікавіць тэатр. Другая: няма сваёй, заснаванай на народнай традыцыі і лепшых сусветных дасягненнях, праграмы навучання.

Балгарская школа сваёй асаблівасцю мае тое, што шмат увагі надаецца працы акцёрскай рукі, якая, сапраўды, уражвае трэніраванасцю і пластычнасцю. Пастаноўку балгараў я б не назваў спектаклем: гэта было больш падобна да шоу, да вар'етэ з маленькімі лялькамі (штучная галоўка і цельца з чалавечых рук); вельмі адмысловая, вельмі дасціпная пародыя на ўсе віды мастацтва, уключаючы оперу, кабарэтную праграму, трагедыю Шэкспіра «Атэла» і г.д. Цяжка сказаць, куды балгарская школа ідзе і як развіваецца, але мне падалося, што з часу яе заснавання (спектакль «Карнавал жывёл» паводле Сен-Санса) змянілася няшмат.

Два спектаклі паводле «Жаўрука» Жана Ануя. Абедзве спробы, на жаль, не вельмі ўдаліся. Тэатр з Вроцлава захаваў тэкст аўтара, студэнты прафесійна валодалі лялькамі, але дзеля чаго? Пытанне гэта так і засталося без адказу. Тэатр з Берліна «пакінуў» толькі суд над Жаннаю, а ўсё яе жыццё «скрэсліў»; суд свой хлопцы рабілі вельмі ўпэўнена, усур'ёз, з абвостраным пачуццём патрыятызму... І тут адбылося тое, што надараецца часцяком (калі акцёр пнецца сам нешта сыграць — шмат, папраўдзе, паводле сістэмы, але... без асаблівай на тое патрэбы): лялька заняла падпарадкаванае становішча, а спектакль ператварыўся ў казань...

Савецкі «Канёк-Гарбунок» (Яраслаўль) усіх забавіў і пацешыў, бо калі спраўныя дзецюкі пачалі пяяць і скакаць (праўда, гэта ўсё-такі больш нагадвала «развесистую клюкву а-ля рюсс»), усім было прыемна і зразумела. Але вось яны нацягнулі імправізаваную шырму і пачалі... размаўляць, бо лялькі амаль не рухаліся. Зала дружна чакала, пакуль рускія зноў заспяваюць і затанцуюць, а тыя ўсё размаўлялі...

Вельмі часта поспех спектакля звязваўся з поспехам літаратуры, паводле якой ён быў пастаўлены. Часцяком гэта была не нацыянальная, а замежная літаратура, але спектаклі, звязаныя з народнай традыцыяй, мелі асаблівы поспех. Ён выпаў на долю кубінскай школы і яе спектакля «Акін» паводле тамтэйшага эпасу на аснове негрыцянскіх вераванняў: разыграў спектакль адзін акцёр з маскамі, лепш сказаць, з рэквізітам. Спачатку ён прадстаўляў птушку Акін, якая вызвалілася ад крылаў і ператварылася ў чалавека. Той адразу ўзяўся перамагаць стыхіі —агонь, ваду, паветра, — але нешта асалоды ад тае перамогі атрымаў няшмат, дый ператварыўся зноў у тую птушку. Сам па сабе эпас вельмі цікавы, а дадайце да яго кубінскі тэмперамент акцёра!

І яшчэ адна прыемная падрабязнасць: на фестываль быў запрошаны знакаміты англійскі лялечнік Пэрсі Пэс, які іграе Панча і Джудзі ў Ковент-гардэне. І ў Любляне ён іграў — не толькі на прыёмах ці ў перапынках паміж спектаклямі. Ён хадзіў са сваімі лялькамі ўсюды і з усімі проста вітаўся. І тут не адзін я падумаў пра тое, што традыцыйная гульня з лялькай мае пад сабой вялікую і амаль нявывучаную аснову, традыцыю стагоддзяў, на якую ці то забываюцца, ці то наўмысна яе «мадэрнізуюць», што бывае недарэчы, а жывы струмень жывых зносін у тэатры высыхае... Бо справа ж не ў тым, што Пэс цудоўна гуляе з Панчам і Джудзі, але ў тым, што ён добры чалавек, вельмі нязмушана кантактуе з людзьмі, ведае шмат моў (нам некалькі слоў ён сказаў па-руску), і быццам увасобіў тое, да чаго заклікаў фестываль сусветных школ: чалавек, што працуе з лялькаю, мусіць быць цікавай асобай. Мы ж ідзём не да Панча ці да Джудзі, не да Канька-Гарбунка, не да Акіна, а да тых **людзей**, якія з імі працуюць...

**Запісала Ж. ЛАШКЕВІЧ.**

**струментальная музыка. Пачынае кампазіцыю карагод у выкананні жаночай групы хору. І трэба тут аддаць належнае вакалістам: яны ўмела водзяць складаныя па малюнку карагоды, выконваюць падтанцоўкі. У танец уступае харэаграфічная група — і паскараецца тэмп агульных скокаў, іх змяняюць затым выступленні паасобных пар, якія, быццам спаборнічаючы паміж сабой, дэманструюць разнастайныя рухі рускага танца.**

**У знакамітую на Беларусі «Польку з прысюдамі» выканаўцы ўнеслі свежасць, маладосць, стварыўшы ў танцы вобраз нашага сучасніка. Развіты на аснове выдатных старых традыцый, сёння гэты танец зрабіўся больш дынамічным, віртуозным, бо час многае змяніў у жыцці беларусаў. Але ў гэтай польцы элемент «прысюды», які даў назву танцу, мае быць выкананы больш яскрава. Хуткі тэмп танца замінаў артыстам выканаць патрэбны элемент.**

**Вакальна-харавая кампазіцыя «Мяцеліца» (пастаноўка В. Варановіча, музычная апрацоўка М. Сіраты). Тут творчасць балетмайстра скіравана на тое, каб беларускі танец успрымаўся гледачом не як музейная каштоўнасць, а... як сучаснік, які адчувае пульс сённяшняга дня, ды, разам з тым, уважлівы да каштоўнасцей мінулага.**

**«Украінская вакальна-харэаграфічная кампазіцыя» (пастаноўка В. Варановіча, музычная апрацоўка М. Сіраты) выклікала захапленне танцавальнай групай, яе віртуознай тэхнікай. Аднак галоўнае, што тут танцоры не імкнуліся ўразіць гледача трукамі, а захапілі іншым: натуральнасцю, вобразнасцю, эмацыянальнасцю свайго выканання.**

**Відавочны плён настойлівай працы не толькі балетмайстра-пастаноўшчыка В. Варановіча, але і ўсіх танцораў, улюбёных у беларускае мастацтва і горача адданых яму. Агульная праца прынесла значны поспех калектыву ў шырокай глядацкай аўдыторыі. Мабыць, не ўсё яшчэ зроблена для дасягнення жаданага мастацкага ўзроўню, ды галоўнае — калектыў стварае, шукае, а гэта заўсёды зарука сапраўдных творчых адкрыццяў. З прыходам у хор галоўнага балетмайстра Ю. Шуркіна танцавальная група за кароткі тэрмін набыла ансамблевую адточанасць, сінхроннасць выканання рухаў, і будзем спадзявацца, што садружнасць В. Варановіча і Ю. Шуркіна пашырыць творчыя перспектывы калектыву.**

**Яшчэ раз зазначу прафесійную ролю мастацкага кіраўніка хору — М. Дрынеўскага, ягоную творчую патрабавальнасць, увагу да душы народнае песні, ягонае імкненне да таго, каб песня была зразумелаю шырокаму слухачу, каб думка, закладзеная ў ёй, падавалася ў яснай форме.**

**«Народную песню трэба прапагандаваць настойліва і з любоўю. Наша мэта — сабраць у адно ўсё лепшае, што ёсць у скарбніцы беларускай нацыянальнай музычнай культуры, і даць гэтаму новае сцэнічнае жыццё», — гаворыць М. Дрынеўскі. Нястомная праца і кіраўніка, і ўсяго калектыву заканамерна ўвянчалася поспехам новай праграмы.**

**Ларыса АЛЕКСЮТОВІЧ,**
**харэограф.**

**ВІНШУЕМ!**



# ДАПЫТЛІВЫ, ПАТРАБАВАЛЬНЫ...

*Уладзіміру МЕХАВУ—60*

Пішу нататкі, ведаючы, што тэлефон Уладзіміра Мехава сёння будзе часта заняты. Што паробіш, цяпер гэта самы надзейны і найбольш зручны сродак сувязі. «Варта было б сустрэцца», — гаворым мы ў трубку адзін аднаму кожны раз, а ў наступны зноў жа набіраем нумар сябра, таварыша, калегі. Сёння яго нумар будуць набіраць журналісты, з тых, хто працаваў у «ЛіМе», напрыклад, яшчэ ў часы, калі газету рэдагаваў Аркадзь Куляшоў, і потым аж па Нічыпара Пашкевіча. Пазвоняць з «Чырвонкі» — пачынаючы з тых, хто некалі складаў «кагорту» Івана Матыля. Будуць набіраць нумар мехаўскага тэлефона рэдактары выдавецтваў, што рыхтуюць яго кнігі да выпуску ў свет, і самі адкрываюць для сябе некаторыя забытыя і наогул раней некранутыя старонкі гісторыі, звязаныя з імёнамі камісара Станіслава Берсана, чэкіста Іосіфа Апанскага, вандроўніка і асветніка з легендарнай біяграфіяй Мікалая Судзілоўскага, паэта Івана Гольца-Мілера, маладога рэвалюцыянера Івана Пуліхава, летчыцы Галіны Дакутовіч... Павіншуюць яго з днём нараджэння артысты Тэатра юнага гледача, разам з якімі ён быў захоплены сцэнічным увасабленнем добра вядомых яму герояў з драматычным і адухоўленым лёсам. Скажуць Валодзю добрыя словы і супрацоўнікі радыёстудый, што «выпускаюць» яго ў эфір то з падрыхтаваным тэатрам перад мікрафонам спектаклем, то з гутаркай, якую Мехаў вядзе ў студыі...

Тут я затрымаю ўвагу чытача. Трынаццаць гадоў працуе Уладзімір Мехаў на Беларускім радыё. Рэдактар і каментатар. Гэта ён наладзіў сістэматычную перадачу «Сустрэча ў радыёстудыі», запрашаючы да мікрафона людзей, якім ёсць што сказаць пра час і пра сябе. Мабыць, усе мы помнім, як прыслухоўваліся да пранікнёных споведзяў Уладзіміра Караткевіча і Генадзя Цітовіча, да разважанняў мастака Міхася Савіцкага і актрысы Стэфаніі Станюты, да роздуму ўголас пра сваю творчасць кампазітара Юрыя Семянякі і Янкі Брыля... Вядучым перадач выступае Мехаў. Ён задае пытанні, каменціруе заўвагі і назіранні субяседнікаў, штосьці дадае, дапаўняе. Мы ж прыслухоўваемся да таго, з кім ён гутарыць. Вось выйшла кніга «Сустрэчы ў радыёстудыі», і ў ёй можна прачытаць сказанае як слухачам бы толькі сціплым каментатарам. Мехаў, аднак, выступае дасведчаным знаўцам таго прадмета, аб якім ідзе гаворка. Калі з Я. Брылём, дык ягонай надзвычай адметнай па мастацкіх абрысах прозы; калі з З. Азгурам, дык — некаторых таямніц і загадак творчасці ў такой складанай галіне, як манументальная скульптура; калі з артыстам Генадзем Гарбуком, дык асаблівасцей тэатральнага і экраннага пераўвасаблення выканаўцы ролі ў вобраз.

Такім яго мы і ведаем, Валодзю Мехава. Знаўца! Дапытлівы і патрабавальны да сябе чалавек, ён правярыць і пераправерыць самога сябе, пакуль не пераканаецца, што ў матэрыяле, падрыхтаваным ім да друку або для эфіра, усё дакладна і ўсё адпавядае рэчаіснасці. У тым матэрыяле, якім для Мехава сталі літаратурная аповесць і сцэнарый дакументальнага фільма, газетны нарыс і радыёперадача, тэатральная п'еса і нават звычайная інфармацыя. Я помню, як ў сорак шостым годзе ў адным з пакойчыкаў на Рэвалюцыйнай вуліцы, дзе месціўся тады «ЛіМ», здаецца, у любую гадзіну працоўнага дня (а дзень у незабыўныя саракавыя цягнуўся аж да паловы начы!) можна было заспець самага маладога і, відаць, па званні таксама малодшага супрацоўніка. Студэнта БДУ. Ён збіраў інфармацыю, удакладняў, перадрукоўваў, нёс у друкарню, якая была літаральна на супрацьлеглым баку вуліцы. Студэнт — і ўжо супрацоўнік «ЛіМа». Ужо лімавец! Пазней мы сталі з ім лімаўцамі-калегамі. Шумелі, спрачаліся, дамагаліся, каб газета была вострай і прынцыповай, памыляліся ў нечым, штосьці перабольшвалі, штосьці не маглі ацаніць вартым чынам, але імкнуліся рабіць баявую пісьменніцкую газету — разам з Г. Бураўкіным, Р. Бярозкіным, В. Бечыкам, М. Гілём, М. Стральцовым, А. Грачанікавым, Г. Коласам, В. Карамазавым, П. Міською... Загадчык аддзела, потым адказны сакратар Уладзімір Мехаў уносіў у эмацыянальна-лірычныя і нават патэтычныя моманты нашых дыспутаў звычайна ўраўнаважаны тон. Тон адмысловага прафесіянала; тон, прадыктаваны веданнем справы, усіх акалічнасцей і абставін. «Журналісцкая звычка!» — прызнаецца ён, калі яго ўпікалі за тую ўраўнаважанасць калегі.

Ён сам сябе і лічыць журналістам, які натуральна і незаўважна перайшоў мяжу паміж тым, што робіць газетчык, і тым, што наканавана літаратару, пісьменніку. Надзвычай ярка гэта выяўляецца, бадай, у сцэнарнай творчасці. Ён разам з Ю. Цвятковым і іншымі рэжысёрамі стварыў цыкл гісторыка-рэвалюцыйных фільмаў, дзе дакумент, архіўны здымак, радок тэлеграфнай дэпешы, старонка стэнаграмы партыйнага з'езда або нататка ў блакноце наркома з'яўляюцца выхадным пунктам для пошуку кінематаграфістамі кадраў былой хронікі, жывых сведкаў колішніх фотаздымкаў... І папаўняецца Ленініяна беларускага дакументальнага кіно, пашыраюцца нашы ўяўленні пра тое, як і хто рабілі рэвалюцыю і змагаліся за яе ідэалы на франтах грамадзянскай вайны на Беларусі, у гады Вялікай Айчыннай... Дзяржаўная прэмія БССР 1986 года аўтару сцэнарыяў дакументальных фільмаў У. Мехаву — важкае прызнанне яго заслуг на гэтай ніве творчасці.

Ён і сёння, мабыць, завітае ў мантажны цэх студыі «Беларусьфільм». Рыхтуецца новая дакументальная стужка. Мантаж і агучванне давалі сабраны У. Мехавым матэрыял да пяці частак, а трэба ўкласці ўсё ў чатыры. І сцэнарыст разам з рэжысёрам шукаюць самыя ёмістыя мантажныя перыяды, самыя дакладныя і выразныя словы тэксту... Звычайная праца!

— Журналісцкая звычка! — скажа Валодзя.

А я нагадаю яму радкі з любімага ім верша Аляксея Пысіна «Сцяг»: «Тугое дрэўка на плячы, працяг жыцця ў руках. Звіні, мой сцяг, і трапячы ў праменнях і вятрах...» Гэта добра, калі творчы чалавек плячом адчувае дрэўка сцяга, на якім зіхаціць самае галоўнае для літаратара слова — справядлівасць. Мехаў гэта ведае. Ведаюць пра гэта і тыя, хто сёння віншуе яго з круглай датай.

**Барыс БУР'ЯН.**

## «ПОМНІКІ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ» № 1

**Да 150-годдзя з дня нараджэння К. Каліноўскага прымеркаваны артыкул М. Біча «За мужыцкую праўду», да 125-годдзя паўстання — падборка «Памятныя мясціны 1863 года», падрыхтаваная Э. Зайкоўскім.**

**Змешчаны «Храналагічны паказальнік адкрыцця помнікаў У. І. Леніну ў Беларусі», артыкул В. Кармазіна «Наш хлеб». У раздзеле «Пошукі, знаходкі, даследаванні» выступаюць А. Цітоў — «Гербы і пячаткі Магілёва XVI—XVIII ст.», А. Кушнярэвіч — «Зноў пра помнік готыкі», Л. Чарняўская, І. Чарняўскі — «Нясвіж. З мінулага», Л. Побаль — «Старажытнейшы горад», І. Саверчанка — «Са спадчыны Андрэя Рымшы», Л. Аляксееў і Н. Шыраева — «Першы беларускі антраполаг».**

**У рубрыцы «Слова пісьменніка» прадстаўлены В. Гардзей — «Дзень памяці» і В. Мыслівец — «Дукорскія муры і вакол іх».**

**Сярод іншых матэрыялаў — артыкул А. Лакоткі «Новае жыццё помнікаў», выступленне старшыні праўлення Беларускага фонду культуры І. Чыгрынава «Першыя крокі».**

**Ёсць у нумары раздзелы «Краязнаўства», «Жыццё Таварыства», «Хроніка».**

## МАСТАК І ЖЫЦЦЁ

# «Не можна быць ня-шчаснай...»

### СПРОБА ПАРТРЭТА



...Народжаная ў старадаўнім Полацку, выхаваная ў сям'і настаўнікаў, дзе родная беларуская зямля і роднае слова лічыліся святымі паняццямі, Нінэль Шчасная і сёння застаецца вернаадданай свайму гораду, яго векавечным помнікам і імёнам.

...У рабоце знаходзіцца трыпціх «Ефрасіння Полацкая» ці «Спас-Ефрасіньеўская царква». Мастачка пакажа яго на персанальнай выстаўцы, якая адкрываецца неўзабаве ў Полацку (а затым дарога выстаўкі праляжа ў Гродна, у Брэст, у Познань).

Князёўна. Адукаванейшая жанчына свайго часу. Асветніца... Як усё гэта будзе адлюстравана ў маючай быць вельмі адказнай, складанай рабоце? Пакуль што ў асноўным закончана цэнтральная частка трыпціха. Канчаць яго Нінэль Шчасная будзе ўжо ў самім Полацку, дыхаючы павевам даўніны ад яго камянёў і сцен. Майстар Іаан (а мастачка заве яго па-тутэйшаму Іванам...) паказвае Ефрасінні Полацкай Спас-Ефрасіньеўскую царкву, якую яна загадала збудаваць і якою царква бачыцца самому майстру... Ефрасіння трымае белы ручнік. Як плыткі ручай сплывае ён з тонкіх рук, сімвалізуючы — у разуменні мастака — чысціню высокіх задум і дарогу жыцця самой Ефрасінні Полацкай.

Кожныя пяць год Нінэль Шчасная як бы трымае экзамен, здае залікі перад сваімі землякамі. Знаёміць іх з плёнам свае працы. З новым творчым набыткам.

●

**І вось тут якраз дарэчы будзе ўспомніць і пра «мазалі».**

**Жывапісец — гэта не ўся — далёка не ўся! — Нінэль Шчасная!**

**Яшчэ раз паўторым: майстар манументальнага і станковага жывапісу, мастак-дызайнер, майстар кніжнай графікі, нястомны эксперыментатар у тэхніцы літога фактурнага вітражу...**

**Апошняе — асабліва — у найбольш дакладным і зразумелым тлумачэнні азначае вось што.**

**Пачынаючы з эскізаў на паперы, потым па адмыслова сканструяваных формах адлівае яна на шклозаводзе «Нёман» ўласнымі рукамі адпаведныя колеру, рэльефу і фактуры блокі шкла. Потым гатовы ўжо вітраж устанаўлівае на аб'екце, ад якога атрымлівае заказ... Тоны (!) шкла (шкло, як вядома, варыцца пры тэмпературы ў 1600 градусаў) перамешваюць (як месяць цеста), раскатваюць, лепяць, узнімаюць, пераносяць, мацуюць гэтыя зусім не вялікія, але і зусім не спешчаныя (які там манікюр!) жаночыя рукі...**

**З распаленага шклянога варыва (а нельга ж памыліцца, неабходна адчуваць, каб яно было не перагрэтае, і, божа барані, каб не астудзіць яго!) чарадзейныя пальцы выхопліваюць то дзівосную чырвоную кветку, то ўзлёт казачнай сіняй птушкі, то галіну дрэва, на якім, як жывая, трапечацца пяшчотная лістота... Так нараджаецца Паэма пра шкло!**

**Самому ж мастаку вядомая яшчэ і няўдзячная дакучлівая проза: як ломіць ад нечалавечага напружання спіну, як не знайсці месца ў пасцелі ўжо натомленым за дзень нагам, і які кожны раз бярэ цябе страх, як пачне табе выкручваць пальцы на руках... (Тыя пальцы, якія ўдзень чаравалі і пырхалі ў пякельным варыве, як птушкі...).**

**Мастакі звычайна цясней, чым большасць пісьменнікаў (якія толькі і ведаюць сядзець за сваім пісьмовым сталом), з'яднаны з прыродай, з яе таямніцамі, ведаюць яе сакрэты і ўмеюць карыстацца і лекавацца імі.**

**Вось і чай Нінэль Іванаўна заварвае не які там — з магазіна— грузінскі ці азербайджанскі — няхай сабе і «вышэйшы» (няхай сябры грузіны і азербайджанцы не крыўдуюць, яны ж і самі заўсёды наракаюць, куды падзеліся іх цудадзейныя чаі), а ў адным імбрычку ў яе духмяна паруе мята, у другім — да янтарнай чырвані — завараны брусьнічнік, у трэцім залаціцца — зверабой... А калі ў кубак наліць ды з кожнага з усіх трох імбрычкаў! Дык гэты ж царскі букет не толькі наталяе, а ён жа яшчэ і лечыць... І не толькі ад нуды і апатыі, а яшчэ ж, можа, і ад якога радыкуліту ці раматусу... Ці гэта я ўжо жаданае за сапраўднае?..**

**Але ж усё роўна — народная медыцына, яна многа ведае, многа ўмее. І яшчэ больш утойвае ад нас... На гэту тэму вядзецца нярэдка гаворка і з гасцямі на серадах. Нінэль Іванаўну заўсёды найбольш цікавяць людзі, якіх сама яна заве «сумежнікамі». Напрыклад, фізік, які ўсур'ёз захапляецца яшчэ і архітэктурай... Або хімік з нахілам у астраномію. А то яшчэ калі ў медыка ды ёсць неадольнае памкненне да літаратурнай дзейнасці... (Барані божа, не кажыце толькі пра яго выдаўцам — выдаўцы, як агню, баяцца раманаў, напісаных прафесарамі медыцыны!..).**

**Серады акумулююць самую разнастайнейшую інфармацыю, якую не заўсёды стрэнеш, вычытаеш у друку, або пачуеш ці ўбачыш на радыё і па тэлебачанні. Ды і калі слухаць тое радыё ці сядзець перад тэлевізарам...**

●

Пачатая ў працы яшчэ адна вельмі складаная (і ў філасофскім плане) пад пэўна вызначанай ужо назвай «Пачвара» работа.

Усё ў жыцці мае сваю процівагу. На чашы шаляў — з аднаго боку — усё, чым жывы чалавек, на чым трымаецца ўсё чалавецтва: гэта яго згуртаванасць, брацтва, адчуванне працягнутай рукі. На другой чашы — агідная пачвара. Яна, як п'яўка, гатова лопнуць ад сытасці і высмактанай чужой крыві (таму ўся жудасць вобраза пачвары і дасягаецца канцэнтрацыяй ліловa-чырвоных колераў), яна самаздаволена ўмасцілася і сядзіць на золаце... («Все куплю! — сказало злато»). Чаша, дзе чалавек, дзе чалавецтва, ледзь-ледзь усё ж як бы пераважвае...

Не ведаю, як на думку прафесійных знаўцаў, а як мне, дылетанту (а сярод гледачоў на выстаўцы мы, дылетанты, усё ж будзем складаць большасць), хочацца нейкай іншай мастацкай метафары. Надта ж сыта і непераможна скаліцца з карціны, седзячы на золаце пачвара...

І таму я спяшаюся хутчэй пайсці на жыццядайнае «Гуканне вясны» (у Заслаўі). Спыняюся і доўга стаю ля «Татавай вёскі» (падобнай вельмі на нашы суседнія Боркі), з радасцю сачу за «Вяртаннем»... Вясновы разліў без канца і краю, і ліпа з буслянкай у вадзе па пахі, а буслы ўсё роўна прыляцелі, вярнуліся і ладзяць-абнаўляюць сваё жытло. Дома!

...А дома яшчэ сушацца на сонцы, пад бадзёрым ветрам, расшытыя чырвонымі з чорным пеўнямі, ружамі і півонямі, ручнікі на вяроўцы. Старая жанчына рупліва развешвае сваё стараннe, сваё спрадвечнае мастацтва... Сённяшняя ж маладая мама-дзяўчынка ў джынсах, з магнітафонам у адной руцэ (і ў навушніках), з дзіцем на другой, прыгнулася, прашмыгнула пад цётчыным хараством і вухам не павяла ў той бок... А яе малы сынок, у беленькай кашульцы, колькі сілы цягнецца ручкамі назад — да вясёлых гарластых пеўняў, да цудоўных руж і півоняў...

«Заклікам» назвала гэты мімалётны, аднак вечны момант жыцця Нінэль Шчасная. «Заклік» — ён ідзе ад першаасновы народнага быцця, ад яго хараства і жывой радасці. Таму гэтак непасрэдна адгукваецца на яго светлая дзіцячая істота... Зрок і слых яе не сапсаваны яшчэ нічым штучным, занесеным невядома кім і адкуль...

●

**У крыві мастачкі Шчаснай сканцэнтравалася прага беларускай сялянскай працавітасці і латышскай настойлівай грунтоўнасці. І як ад лёгкага віна закружылася ў гэтым надзейным сплаве яшчэ і шляхетнасць, гуллівая ўзнёсласць адбілася ў характары, у манеры паводзіць сябе і весці гутарку...**

**— Тата вучыў нас, дзяцей, у сям'і глядзець на кожную з'яву, разглядаць яе не толькі з аднаго боку. Вучыў логіцы мыслення. Ад таты ў мяне — мужчынскі пачатак у характары. Я ўмею не толькі забіваць цвікі ці рамантаваць электрычную разетку. Я ўмею касіць, пілаваць, габляваць... Ад мамы ж — прыроджанае пачуццё прыгожага, гармоніі, каларыту... Мама — настаўніца — зроду не апранулася абы-як (хоць і вельмі сціпла апраналася). Зроду не паставіла ў кватэры непрыгожую рэч... І мы, дзеці, на гэтым выхоўваліся таксама.**

**Яны, бацькі, і сумеснае сваё жыццё пражылі і залатое вяселле справілі таксама ў незахмуранай згодзе і сямейнай гармоніі.**

**І дачка ўславіла іх Саюз. Яны абое ўжо адышлі з жыцця (адышлі адразу адно за адным), а карціна—мама і тата, прасветленыя, не састарэлыя, — так і засталася вісець на сцяне... На самым відным месцы ў майстэрні.**

**Партрэты... Партрэты... Партрэты...**

**Нінэль Шчасная любіць працу над пошукам самай галоўнай чалавечай сутнасці — яго душы. А яна — душа — перш за ўсё тоіцца ў позірку, у твары, у тым няўлоўным (для слова) выразе-імгненні, якое ўмее ўбачыць, злавіць, а можа, нават хутчэй адчуць, толькі вельмі таленавіты мастак.**

**...Вось партрэт паэта Уладзіміра Дубоўкі. Яшчэ недзе неўзабаве пасля той пары, калі ён, па яго ўласнаму выразу, «іграў рыдлёўкаю на ліры»...**

**— Вірынея Жэжэнка сказала мне — мы былі разам у Маскве, — давай, паедзем да Дубоўкі. Ён табе спадабаецца... Я ўбачыла яго — і ён сапраўды мне вельмі спадабаўся! І я захацела напісаць яго партрэт...**

**Ён і ў жыцці быў нечым знешне аддалена падобны, а на партрэце гэта асабліва кідаецца ў вочы: госпадзі, Леанарда да Вінчы! (Можа, ад барады...) Самой Нінэлі Шчаснай Уладзімір Дубоўка ўяўляўся ўзорам Настаўніка — у жыцці.**

**Стылізаваны пад беларускую песню партрэт Рыгора Шырмы... Аркадзь Куляшоў з Максімам Танкам ля вогнішча. (Няйначай, як у незабыўных Каралішчавічах, а можа, на іх «агульнай» Нарачы...) Даўні, мала знаёмы Мележ («Недзе трымаецца — у запасніках, не ў экспазіцыі нават, у Гомельскім мастацка-краязнаўчым музеі... Трэба будзе неяк здабыць на свет яго адтуль...» — уздыхае сама мастачка)... Іван Шамякін у «снежныя зімы», а позірк яшчэ з гадоў юначага «трывожнага шчасця»... Беларуская несмяротная «песня ў народзе» Цётка — Алаіза Пашкевіч-Кейрыс. Можа, яна і не была такой прыгажуняй. Але іншай — за яе такое кароткае, прыгожае жыццё — уявіць іншай мы яе не здольны.**

**Як не здольны ўявіць і ўсёй сутнасцю сваёй мы пратэстуем супраць пакутлівай самотнай смерці Максіма Багдановіча (у няпоўных 26 год!). Да нядаўняга часу трымаўся ў Ялце, «ля сіняй бухты» дамок, з якога бязважкім воблачкам адляцелі апошнія яго маладыя гады, маладыя жаданні... Пра гэта — балючы партрэт Нінэль Шчаснай «Быць можа, я не скончу жыць»... Багдановіч у пасцелі з «Вянком» у бледнай схуднелай руцэ.**

**І яшчэ два партрэты. «Паэт Сяргей Красікаў» — паясны партрэт, напісаны ў манеры, як пісалі даўнія майстры, калі ўзносілі цэзараў і вялікіх палкаводцаў... «Бяссонніца, бяссонніца мая» — гэта хутчэй ілюстрацыя да аднайменнага верша. Захутаны ў халаднавата-блакітны плед паэт, — у крэсле. І хоць праменяцца яму з далёкай далечыні каханыя вочы, хоць і рассыпаліся вакол яго старонкі з паэтычнымі радкамі, паэт неабыякавы (і, можа, у першую чаргу!) і да ўласнай бессмяротнасці... Так уяўляецца чамусьці.**

**Не мінеш і гэты — як мінеш, як не спынішся?**

**«Чистейшей прелести чистейший образец...» Хараство — яшчэ ад дзявоцтва і прыроджанае (на ўсе часы!) какецтва жанчыны, якая добра ведае ўладу гэтага свайго хараства.**

**«Пані Гелена» («Жонка консула»).**

**І зноў самі па сабе ўсплываюць ужо зусім іншыя — пра іншую даўнюю пані — радкі...**

**Продолговатый и твердый овал,**
**Черного платья раструбы...**
**Юная бабушка! Кто целовал**
**Ваши надменные губы?..**

**Хаджу, хаджу...**

**Дзе, за якія грошы, за некалькі гадзін, накупіла б я, набыла столькі багацця для ўласнае душы!**

**Сапраўдны знаток-мастацтвазнаўца здолеў бы, напэўна, напісаць пра ўсё гэта цэлае навуковае (нават акадэмічнае!) даследаванне.**

**Сама ж я, не навучыўшыся за ўсю сваю школьную навуку (ад тае навукі засталіся адны чарапкі...) маляваць нават гладыша «з натуры», проста дыхаю... Проста яшчэ і яшчэ наталяю сябе бязмежнай светласцю чужога таленту...**

**І моўчкі, з удзячнасцю, паціскаю руку мастаку Нінэлі Шчаснай.**

Алена ВАСІЛЕВІЧ.

P. S. **Забыла сказаць яшчэ адно: назву гэтым старонкам я ўзяла ў паэта, які напісаў (перадаю ў празаічным перакладзе), што не можна быць НЯ — Шчаснай, калі адчуваеш багацце і хараство жыцця гэтак, як Нінэль Шчасная.**

**А. В.**



«Заклік».

# ЛАЎРЭНЦІЙ ДРУГІ

**Доўгі час яго імя было ўвасабленнем жорсткасці, беззаконня, рэпрэсій...**

НЯДАЎНА рэдакцыя атрымала ліст ад «грамадскага дзеяча ў стане адпачынку». Так назваў сябе яго аўтар. Не спяшайцеся, чытач, усміхацца. Выкладае «грамадскі дзеяч» сваю пазіцыю досыць ясна. Іншая справа, што ад яе патыхае такім пячорным кансерватызмам, такой нянавісцю да перабудовы, галоснасці, да ўсяго, чым жыве сёння краіна, што міжволі пачынаеш адчуваць сябе вельмі няўтульна. Што выклікае асаблівую незадаволенасць аўтара, дык гэта выкрыццё сталінскіх злачынстваў. «...Калі Ленін Савецкую ўладу ствараў, дык таварыш Сталін яе абараняў ад ворагаў знешніх і асабліва ўнутраных. І невыпадкова, што Савецкі ўрад паставіў таварышу Сталіну самы вялікі помнік каля Крамлёўскай сцяны. Вам яго, шаноўны рэдактар, там не паставяць...»

Палемізаваць з ім я не збіраюся—такому чалавеку нічога не дакажаш, v яго пэўны склад розуму, стан душы. Хоць, скажам, і няма каля Крамлёўскай сцяны «самага вялікага помніка Сталіну», яму ён бачыцца. Гэтакая, разумееце, аберацыя зроку. Ды каб толькі ў тым, што тычыцца «помніка». Не, аказваецца, яна тычыцца ўсяго, што рабіў «правадыр прагрэсіўнага чалавецтва».

**Аўтар гэты, паставіўшы сваё прозвішча (не ведаем, ці сапраўднае), пабаяўся назваць хатні адрас. Дарэчы, неяк у газеце «Советская культура» быў надрукаваны ліст, таксама з Мінска, дзе курылі Сталіну фіміям абсалютна ў тых жа выразах, з прыцягненнем тых жа прыкладаў, накшталт «самага вялікага помніка ля Крамлёўскай сцяны» і інш. Лісты, дарэчы, былі падпісаны адным і тым жа прозвішчам. Праўда, той ліст пісаўся ад імя жанчыны, гэты—ад імя мужчыны. Вось такі, бачыце, знайшлі сабе занятак. Толькі чаму яны баяцца назваць свой хатні адрас? Ніхто ж ні шукаць, ні, тым больш, помсціць ім не будзе. Не той, грамадзяне час, аб якім, дарэчы, вы так шкадуеце.**

**Будзем глядзець на рэчы цвяроза: людзей, якія гатовы зацята абараняць культ Сталіна,—нямала. Не трэба думаць, што гэта толькі тыя, хто некалі ўдзельнічаў у масавых рэпрэсіях. Гэта і абывацель, якому ненавісныя самі паняцці: дэмакратыя, свабода, галоснасць. «Бачыш, што робіцца,—кажа ён, — хто што думае, тое і гаворыць. Сталін бы ім раты хутка заткнуў. Тады быў парадак. І страх. Што таварыш Сталін загадае, усе былі гатовы адразу выконваць, бо інакш... А цяпер?».**

**Выяўляе сябе рабская псіхалогія? Так, што-што, а яе Сталіну ў многіх суайчыннікаў выхаваць удалося. «Комплекс раба» ў сяго-таго моцна сядзіць дагэтуль.**

**Недзе я чытаў што ёсць мікраарганізмы, якія могуць існаваць толькі ва ўгарным газе. Дык гэта мікробы. Як жа чалавек можа з замілаваннем успамінаць час, калі прыходзілася жыць у задушлівай атмасферы ўсеагульнай падазронасці, нядобразычлівасці, даносаў і паклёпаў, калі за анекдот, за неасцярожнае слова цябе маглі арыштаваць, а калі не арыштаваць, дык скалечыць жыццё?**

Я дазволю сабе падзяліцца ўспамінамі пра адзін выпадак, вельмі характэрны для таго часу. Можа, цяпер ён падасца каму-небудзь дробязным, нават у нечым смешным, але тады ставіліся да такіх рэчаў вельмі сур'ёзна.

На другім курсе універсітэта (гэта было ў 1949 годзе) на практычных занятках па асновах марксізму нехта са студэнтаў пацікавіўся, калі нарадзіўся Троцкі. Я падказаў: «Троцкі нарадзіўся, як і Сталін, у 1879 годзе». Твар выкладчыцы пакрыўся чырвонымі плямамі, яна некалькі хвілін хапала ротам паветра, потым закрычала: «Як вы можаце называць побач з імем таварыша Сталіна імя гэтага здрадніка, злейшага ворага Савецкай улады!?»

Пасля заняткаў тэрмінова быў скліканы камсамольскі сход групы, і мне далі строгую вымову «за палітычную няспеласць». Абвінавачванне па тым часе вельмі сур'ёзнае. Адна з аднакурсніц патрабавала нават выключыць мяне з камсамола, ды група яе не падтрымала...

Я спадзяюся, што чытач не ўспрыме гэты эпізод, як спробу аўтара выставіць тут сябе гэтакім героем. Ніякага геройства, вядома, не было. Калі я гэта ўспомніў, дык для таго, каб паказаць, з якіх «будняў» складалася тагачаснае жыццё з яго дамінантамі страху, крывадушша, казённага патрыятызму, паўсядзённай дэманстрацыі ўсеагульнай любві і адданасці «правадыру ўсіх часоў і народаў».

...Пра арышты, якія зачапілі многія сем'і і на нашай Канюшаннай вуліцы ў Мінску, стараліся тады не гаварыць. Наколькі я ведаю, большасць з гэтых сем'яў не атрымлівала ад блізкіх, якія пакутавалі ў лагерах і ссылках, — ні лістоў, ні іншых якіх-небудзь звестак.

ПРАЧЫТАЙЦЕ, калі хто прапусціў, змешчаныя ў адным з апошніх нумароў «ЛіМа» лісты да жонкі вядомага ў 30-я гады беларускага празаіка Сымона Баранавых, якія ён слаў з этапаў і лагераў, дзе апынуўся ў часы сталінскіх рэпрэсій разам з тысячамі іншых бязвінных людзей. Чытаеш гэтыя лісты, і на вачах закіпаюць слёзы, і пачынае балець ад тугі сэрца. Прывяду з тых лістоў дзве вытрымкі: «Вунь у куце пад нарамі мардвін пяе і плача. Пяе— не зразумець пра што, а ўвесь твар заліты слязьмі»; «Шкада маладых гадоў. Шкада волі. І за якія грахі такія пакуты? Увесь час гэтае пытанне сядзіць у галаве».

Хто мог адказаць на яго? Маўчала краіна, «безмолвствовал» народ.

Ды не, я, мабыць, памыляюся,—народ не маўчаў. Гаварыў праўду пра тырана вуснамі сваіх лепшых сыноў і дачок, хоць гэта раўнасільна было самагубству.

**Мы живем, под собою не чуя страны,**
**Наши речи за десять шагов**
**не слышны,**
**Только слышно кремлевского горца,**
**Душегуба и мужикоборца.**

Гэта было напісана, калі не памыляюся, у 1934 годзе. Я недзе чытаў, што адзін з рукапісных экземпляраў верша трапіў у рукі Сталіну, і лёс аўтара— вядомага паэта О. Мандэльштама быў вырашаны...

Сёння пра злачынствы Сталіна пішуць больш, чым у часы «адлігі» пасля XX з'езда партыі. Нарэшце! Але, прачытаўшы чарговы такі артыкул, бывае, у галаву пачынаюць лезці вось якія думкі: ці не атрымліваецца, што, сфакусіраваўшы ўсю ўвагу на асобе Сталіна, мы выпускаем з поля зроку тысячы яго памагатых па заплечных справах?

Чаму мы пра іх маўчым?

**Адзін вельмі борздкі навуковец, які летась апублікаваў у адной з рэспубліканскіх газет артыкул пра мітынг прадстаўнікоў мінскай творчай інтэлігенцыі ля помніка Янку Купалу, на якім гаварылася і пра памяць ахвяр сталінскага тэрору, зрабіў у тым артыкуле спробу ўзяць пад абарону супрацоўнікаў НКУС, якія практычна ажыццяўлялі масавыя рэпрэсіі. Аргумент? Яны, маўляў, верылі Сталіну, выконвалі загады.**

Я неаднойчы чуў ад людзей, якім выпала ўсё-такі вярнуцца жывымі з лагераў, што сярод кіраўнікоў карных органаў, следчых, лагернага начальства было нямала сапраўдных садыстаў. Хто з іх паплаціўся за зверствы? Хто ведае іх імёны? З усёй гэтай «кампаніі» праскочыла ў прэсе, бадай, толькі адно імя — нейкага следчага па прозвішчы Хват, які ў свой час вёў справу акадэміка Вавілава, прымушаючы яго сілай, здзекамі падпісваць сфабрыкаваныя абвінавачванні. Як вядома, той Хват у наступныя гады даслужыўся да палкоўніка і зараз жыве ў Маскве на «заслужаным» адпачынку, атрымліваючы вялікую пенсію.

У гады майго юнацтва, калі яшчэ жыў Сталін, тут, у Беларусі, наводзіла жах імя Цанавы, які ўзначальваў органы дзяржаўнай бяспекі рэспублікі. Нават у маштабах краіны ён быў не апошні ў крывавай зграі, якая стаяла на варце асабістай улады тырана, гатовая рэзаць, сячы, душыць, расстрэльваць кожнага, хто, па яе разуменні, думаў, гаварыў, паводзіў сябе не паводле ўказанняў «правадыра».

«Цанава ў Беларусі з'яўляўся феадалам», — прагучала на адным з партыйных пленумаў у ліпені 1953 года, калі памёр ужо Сталін, а Берыя і Цанава былі арыштаваны. **Адтуль** яны дастаць ужо нікога не маглі. За год да гэтага наўрад ці аўтар таго выказвання аб Цанаве асмеліўся б гэта вымавіць і блізкаму чалавеку.

МАГУ «пахваліцца», што і я помню Цанаву, нават неаднойчы бачыў яго—быў ён невысокага росту, пузаценькі, чарнявы, з вусамі «пад Сталіна», у кіцелі з генерал-лейтэнанцкімі пагонамі.

**У 1946 годзе мы, як я ўжо казаў, жылі на вуліцы Канюшаннай, якая праходзіла праз парк імя Горкага (ад вуліцы цяпер застаўся адзін дом, у якім размяшчаецца кантора парка), і часта пасля ўрокаў разам з іншымі падлеткамі бег на адзіны тады ў Мінску стадыён «Харчавік», які размяшчаўся тут жа, у парку, і на якім праводзіліся гульні футбольнага чэмпіянату краіны. Калі гуляла мінскае «Дынама» — «хрэснік» Міністэрства ўнутраных спраў і Камітэта дзяржаўнай бяспекі, на гульню прыязджала кіраўніцтва рэспублікі, у тым ліку, вядома, і Цанава. Сказаць папраўдзе, мы, падлеткі, тады і ведалі толькі двух чалавек з вялікага начальства — Панамарэнку і Цанаву. Помню, нібы ўчора гэта было, такі эпізод. Хлопчык з нашай вуліцы, якому, на зайздрасць усім нам, бацька прывёз з Германіі фотаапарат, у час матча стаў на лаўку і пачаў здымаць футбалістаў і людзей, што сядзелі на ўрадавай драўлянай трыбунцы. Не паспеў ён шчоўкнуць затворам, як нейкі мужчына груба вырваў апарат з ягоных рук і, бразнуўшы ім аб зямлю—толькі шкельцы паляцелі, са злосцю прасіпеў: «Каб я вас тут не бачыў!»**

**Дзіцячая цікаўнасць: нам вельмі падабалася назіраць, як Цанава пасля матча садзіцца ў доўгую, шыкоўную, відаць, трафейную легкавушку, якая ззяла чорным лакам і нікелем. Схіліўшыся, нейкі вайсковы чын адчыняў перад ім дзверцы, а другі пачціва дапамагаў яму зручней усесціся на скураным сядзенні. Вакол машыны ў гэты момант тоўпіліся палкоўнікі, якім Цанава, высунуўшыся з акенца, нешта загадваў. Воддаль, крокаў за дваццаць-трыццаць ад машыны, па перыметры, стаялі мужчыны ў цывільным, робячы выгляд, што яны тут апынуліся зусім выпадкова. Сярод іх заўсёды стаяў і наш «знаёмы»—той, што разбіў фотаапарат.**

**Яго аблічча—твар, вочы, нос—нават не ведаю чаму, я запомніў на ўсё жыццё. Дайце веры, я часта сустракаю гэтага чалавека і зараз. І заўсёды не магу адвесці ад яго вачэй. Нядаўна, на трамвайным прыпынку, перахапіўшы мой позірк, ён, звузіўшы вочы, уважліва паглядзеў на мяне, і я жыва ўявіў, як у ягонай галаве пачалі ліхаманкава праносіцца твары людзей, з якімі ён некалі меў справу. але мой твар яму нічога не падказаў, і ён, ледзь прыкметна паціснуўшы плячыма, пазяхнуў і раўнадушна адвярнуўся...**

Калі я цяпер пачаў цікавіцца асобай Цанавы, пачаў нейкі свой пошук, знайшлося шмат дарадцаў, якія раілі мне адшукаць яго бліжэйшых супрацоўнікаў. Па некаторых звестках яны яшчэ жывуць на белым свеце. Гэта яго намеснікі, памочнікі, ахоўнікі, нават шафёры. Яны, маўляў, могуць расказаць пра былога шэфа шмат цікавага, нават сенсацыйнага. Я не стаў шукаць гэтых людзей. Яны не выклікалі ў мяне павагі тады, не выклікаюць яе і цяпер, хоць, магчыма, сёй-той з іх «перафарбаваўся» і гатовы. відаць, ліць на былога шэфа бруд. А між тым, пры жыцці Цанавы большасць з іх перад ім трэслася і гатова была на злом галавы бегчы выконваць любое, самае бруднае яго заданне...

**Вырашыў я не паглыбляцца ў тэму і асабістага жыцця гэтага чалавека. Нядаўна ў «Звяздзе» я прачытаў артыкул, аўтар якога амаль увесь свой гнеўны пафас скіроўвае на выкрыццё Цанавы—уладальніка вялікага асабняка пад Мінскам. Ну, вядома ж, сорамна, непрыгожа было валодаць такімі апартаментамі, калі большасць мінчан у тыя гады не мела наогул ніякага жытла, бывала, што ў адным пакоі тулілася па некальні сем'яў. Але ж трэба казаць праўду да канца—не адзін Цанава тады жыў у такіх шыкоўных умовах...**

ТАК, у тыя гады пра Цанаву расказвалі шмат розных гісторый, з іх ён часта паўставаў гэтакім дзіваком. То пад пагрозай арышту не даваў на вуліцы ніводнай машыне яго абагнаць, то ўласнаручна біў ботам па галаве капітана футбольнай каманды за пройгрыш, то... Не буду больш пералічаць гэтыя «мілыя» забавы, якія тады, помню, многімі ўспрымаліся з падхалімскай усмешачкай: маўляў, ёсць жа людзі...

Каб жа тымі «дзівацтвамі» ўсё абыходзілася! Цяпер, калі я ведаю пра дзейнасць Цанавы куды больш, чым тады, калі ён жыў, перада мной паўстае чалавек халодны, жорсткі, развfamiliarжлівы, цынічны, які ніколі не ведаў спагады і літасці.

Так, ён, відаць, сапраўды быў «аматарам жартаў». Ды ад некаторых з іх кроў. стыла ў жылах. Я чуў расказ выдатнага нашага крытыка Рыгора Бярозкіна, якога арыштавалі ў 1949 годзе.

# Ідзі, сынок, ідзі!

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—9).**

— Вот кіну ўсё к д'яблу! Прывязу сюды сям'ю і буду жыць, як кароль. Абрыдла ад званка да званка ішачыць...

— Усе так жывуць, Восіп, — супакойвала яго Аксана. — Не намі заведзена... Для ўсіх закон адзін.

— Абрыдла, усё абрыдла! — не сунімаўся Восіп.

Антось калмаціў кучаравую, але парадзелую чупрыну, абгладжваў твар зверху да нізу, нібы на ім была барада, бязлітасна, з'едліва разбураў братаву ілюзію:

— Не мані, Восіп, ні сабе, ні іншым. Мы ўжо не тыя, што былі раней. Нас цяпер і калом не загоніш сюды Павіслі паміж горадам і вёскай. Нам у горадзе цесна, а ў вёсцы — сумна. Так і жывём, раздвоеныя: цела — сабе, душа — сабе. І ты, Ігнат, не мардуйся тут, як пустэльнік у скіце. Не для цябе гэта жыццё. Едзь лепш дамоў, жонку суцеш.

Ён сціх, нібы захлынуўся словамі. Ніхто не пярэчыў яму, а Ігнат адчуў жорсткую праўду ў ягоных словах, у думках пагадзіўся з ім.

Усе раз'ехаліся ў нядзелю, а Ігнат яшчэ колькі дзён чуў іх галасы ў мёртвай цішыні хаты.

●

Ігнат не памятаў, як заснуў за сталом. Прачнуўся раптоўна, страсянуў ускалмачанай галавой, нібы хацеў стрэсці сон.

Скрозь сінія, вільготныя шыбы цадзілася ранішняе святло. Ігнат вылез з-за стала, гучна ляпнуў дзвярыма, ступіў на двор. Халодная цішыня ахінула яго, але палёгкі не прынесла. Ён паваloкся на вуліцу, завярнуў за вугал хлява, нізка нахіліўся да зямлі, закалаціўся, застагнаў. Усю яго сярэдзіну нібы выцягвалі вялізнымі крукамі, кідала то ў холад, то ў гарачыню, з вачэй цяклі слёзы.

Ён прыхіліўся тварам да вільготнага камля ліпы, абхапіў яго рукамі. Яму хацелася, як у дзяцінстве, заплакаць наўзрыд, слязьмі змыць з душы ўсё, што перашкаджала жыць шчасліва. Змыць, каб адчуць сябе маладым, здаровым, здольным да новага жыцця. Але слёз не было, а вусны шапталі: «Не, Ігнат, позна. Стары ты ўжо. Нічога ў табе не засталося для таго, каб пачаць нанава». Ён абдымаў дрэва і не ўбачыў, як падышла маці, сказала спачувальна, жаласліва:

— Ідзі, сынок, ляж. Што ж ты так? Нельга ж табе. Усё нутро хворае. Не паберажэш сябе — сыдзеш раней сроку. Не хацела б я перажыць вас, сваіх дзяцей.

— Даруй, мама. Не ведаю, як атрымалася, — ледзь не стагнаў ён. — Нешта зламалася ўва мне. Думаў, прыеду, параблю яшчэ, цябе суцешу і

**Зараз па краіне, як і кожнай вясной, крочыць Усесаюзны тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі. Па традыцыі свята праводзіцца ў адной з саюзных рэспублік. Летась, нагадаем,—у Мінску, сёлета—у Ташкенце, куды паехалі і прадстаўнікі беларускай дзіцячай літаратуры.**

**Да Усесаюзнага тыдня мы і прымеркавалі нататкі Эдзі Агняцвет.**

Эдзі АГНЯЦВЕТ

# ЖАНРЫ РОЗНЫЯ, АДРАС АДЗІН

## «Навечна з сонцам»

Успамінаецца, як у канцы пяцідзесятых гадоў з'явіўся малады паэт Мікола Чарняўскі — непаспешлівы, нешумлівы, з сарамлівай усмешкай.

Ад першай невялічкай кніжкі «Дзе канчаецца лета» да кнігі паэм аб нявыдуманых героях — дарога ў дваццаць пяць гадоў. Паэт належыць да таго пакалення, якое мы называем «дзецьмі вайны». Першыя яго ўражанні — счарнелыя вёскі ў Буда-Кашалёўскім раёне на Гомельшчыне. Зламаныя цягачы ў полі, зямлянкі. Бачыў усё гэта, калі хадзіў у школу. І ў школе, і ў бацькоўскай хаце, і сярод землякоў чуў словы аб незабыўных героях. Нездарма, яшчэ юнаком, ён напісаў паэму «Апошні бой» — пра Антона Губарава, жлобінскага падпольшчыка-партызана. Вярнуўся да яе праз шмат гадоў. Згадаў крытычныя заўвагі, па-новаму ўсё перадумаў, перажыў і адчуў, што гераічная тэма, сама па сабе яшчэ не вырашае лёсу твора. І Мікола Чарняўскі амаль усё перапісаў нанава. У другім варыянце паэмы, названай «Навечна з сонцам», паэт знаходзіць сцежку да псіхалагічнага паказу героя. Мы бачым Антона ў розных абставінах і адчуваем яго душэўны стан. Ён удзельнічаў у абароне Дняпра. У нейкія хвіліны ён застаецца адзін: юнак плыве знясілены і размаўляе з Дняпром, як з чалавекам.

**«Я ўсё, што пабачыў,**
**запомню.**
**Не буду баяцца,**
**Вагацца.**
**Як быць, падкажы ты,**
**Дняпро, мне?»**
**«Змагацца...**
**Змагацца...**
**Змагацца...»**

Вобраз Маці — добрай і мужнай жанчыны — праходзіць праз усе тры паэмы кнігі і надае ім натуральнасць, праўдзівасць, сілу.

На жаль, паэме «Навечна з сонцам» бракуе лаканічнасці. Расцягнуты раздзел «Нечаканы госць», калі прыходзіць у хату Губаравых салдат-славак і доўга папярэджвае аб небяспецы. Паўтараюцца фарбы і ў апісанні партызанскіх баёў.

Чытаю паэму М. Чарняўскага «Шчымлівая зорка» — страшную па сваёй дакументальнай праўдзе. Мы застаём галоўнага героя, піянера Марата Казлова, у самую трагічную хвіліну яго жыцця. Фашыст пакінуў на спіне хлопчыка крывавы след — чырвоную зорку.

Горкія дзеці вайны! Тыя, якіх не паспелі вывезці на Вялікую зямлю, былі побач з бацькамі і дзядамі: не схілілі галовы перад ворагам. Не скарыліся!

Напружанай драматургіяй вызначаецца паэма М. Чарняўскага. Дзеючыя асобы, дыялогі, аўтарскія рэмаркі — усё служыць паказу героя.

Вось Марату прымроілася, што побач з ім — мама, самы родны чалавек.

**— Мама, ты пачакай,**
**Пабудзь трошкі яшчэ:**
**Калі чую сваіх —**
**Менш баліць,**
**Менш пячэ...**

Перад апошнім крокам у бессмяротнасць Марату неабходны хоць адзін глыток вады. І тут яму пачуюцца голас беларускай крыніцы:

Журчу, струменюся,
вірую—
Такі мой лёс,
Такі мой плёс.
Дзе чысціню сваю бяру я?
У рос,
У зорак,
У нябёс.

Гэта паэма найбольш уразіла мяне. Хочацца звярнуць на яе ўвагу кампазітараў. Хіба гэта не матэрыял для араторыі альбо музычнай драмы?

Трэцяя паэма «Сын Паліка» — пра Міхася Усоскага, які змагаўся ў партызанскай брыгадзе «Дзядзькі Колі» на Барысаўшчыне.

Пачатак паэмы, на жаль, гучыць рытарычна. Размова Міхася з бацькам, удзельнікам грамадзянскай вайны, старшынёй калгаса, расказ бацькі аб яго былых баявых паходах не вельмі хвалююць. Адчуваецца зададзенасць. І ўсё ж нямала застаецца ў эмацыянальнай памяці: малюнак світання, вобразы маці-Апанасіхі і самога Міхася Усоскага. Дзейнічае дакументальная аснова твора, хоць і не хапае тых знаходак, якімі адзначана паэма «Шчымлівая зорка».

## «Эрпіды на планеце Зямля»

Ішоў Тыдзень дзіцячай кнігі. У кнігарні «Светач» сабраліся дзеці. Светлыя твары, наіўныя і задзірыстыя ўсмешкі. Дапытлівыя вочы. Назва «Светач» набывала сапраўдны сэнс. І тут упершыню, на сорам свой, пачула я вясёлыя і фантастычныя гісторыі Паўла Місько.

А калі б не было тае сустрэчы? Выходзіць, я не адкрыла б для сябе цікавага дзіцячага пісьменніка?..

...Пісьменнік чытаў спакойна, без прэтэнзій на эфект. А дзеці радаваліся. Прывабіў іх чараўнік Косця Чыжык. Птушкі разумелі яго, слухаліся, размаўлялі з ім. А з балкона шостага паверха ён разглядаў у бінокль грачыныя гнёзды. Расказваў, што Карл і Клара прыляцелі з Германіі, Кір і Гера з Грэцыі. Прыдумкі Косціка, перасыпаныя скорагаворкамі, захапілі слухачоў.

Спадабалася і казка «Старамодны Заяц». «Вельмі даўно гэта было. Так даўно, што палын паспеў ссівець з таго часу. Тады яшчэ ў нашым краі зусім не было зімы, а ўсё лета і лета. І вось прайшла чутка, што ўжо вечнага лета не будзе, а так: палавіна года цёплая, палавіна халодная...» Казка, напісаная жывой народнай мовай, прыводзіць нас на ўзлесак, дзе жыў з сям'ёй кравец Заяц. І пасыпаліся яму заказы на зімовыя футры ад Мядзведзя, Лісы, Гарнастая. Заяц усіх прыгожа апрануў, ды яшчэ бясплатна. А сам хадзіў у старамодным футры.

У кнізе Паўла Місько «Эрпіды на планеце Зямля» пад «адным дахам» сабраліся апавяданні для маленькіх «Як дзеда дзялілі», «Маміна мама», а таксама казкі і аповесці для малодшых школьнікаў. Чытаю аповесць «Эрпіды на планеце Зямля» — дынамічную, вясёлую, сучасную, па-сапраўднаму прыгодніцкую. Прыгоды Вані Гардзея адразу забіраюць цябе ў палон. І цікава, што першым выдумшчыкам у гэтай гісторыі аказаўся дзед Вані Гардзей Гардзей (вяскоўцы звалі яго Двайны Гардзей) «Дзед быў не які-небудзь старасвецкі, а сучасны начытаны дзед. Ён прыдумаў, што ў лес упаў метэарыт і сам, цішком, пайшоў яго шукаць. За ім услед — унук Ваня. Пасля розных вандраванняў Ваня натрапіў на «жывы камень», з якога выйшаў дзіўны чалавечак — Эрпід, электронны робат. Прыляцеў з невядомай планеты. Ваня з Эрпідам-І пайшлі шукаць Эрпіда-ІІ, які не адказвае на сігналы. Ваня Гардзей вырашае: «То, можа, дзе дуба даў». Эрпід, які валодае рознымі мовамі, усё ж не разумее Вані: «Дуб — дрэва. Як можа Эрпід-ІІ даць дуба, калі ў яго няма нічога падобнага? І каму ён мог даць гэты дуб?».

І далей займальна, крок за крокам, адвучвае Ваню ад жаргона.

Чытаеш і ўвесь час знаходзішся ў эпіцэнтры розных прыгод.

Дзяўчынка Таня знайшла Эрпіда-ІІ. А той перакладае на чалавечую мову расказы Мядзведзя, які ўцёк са звярынца ад здзекаў п'яніцы-даглядчыка. Апошні абкрадваў Мядзведзя, трымаў яго на галодным пайку. Ваня Гардзей, растрывожаны гэтымі расказамі, прыходзіць да дырэктара звярынца, з абурэннем расказвае пра злодзея і патрабуе: «Не парушайце мядзведжых умоў!» Шкада толькі, што дзе-нідзе пісьменнік дае залішнюю волю сваёй фантазіі. Так, парадаксальна гучыць эпізод з «хуткай дапамогай», дзе гультаяватага Лёню і настаўніка хапаюць санітары.

Ваня Гардзей захапляецца ведамі і ўмельствам Эрпідаў, але разумее, што робаты служаць людзям і не могуць замяніць жывога свету, жывой чалавечай душы.

— Я сваю зямлю ні на што не прамяняю. І ні за што на свеце! Няўжо вам не хочацца мець хоць бы птушак? Салаўя паслухаць, жаваранка, шпака, зязюлю?

●

Дзве кнігі, аб якіх мне хацелася сказаць слова, выйшлі ўжо даўнавата (выдавецтва «Юнацтва»). Водгуку ў друку не было.

Адзінае суцяшэнне ў тым, што дзеці не чытаюць рэцэнзій... Але ж пісьменніку хочацца ведаць: ці патрэбна людзям яго работа? Якія ў яго пралікі, якія здабыткі?

Быў час, калі кнігі для дзяцей рэцэнзаваліся на старонках часопіса «Беларусь», у маладзёжным друку, у рэспубліканскіх газетах. Нават знаходзілася месца для самых твораў, адрасаваных дзецям і юнацтву. І гэта не знікала аўтарытэту сур'ёзных выданняў.

Нейк я натрапіла на кнігу «Старое і новае» (выдавецтва «Детская литература»). Хто аўтар гэтай незвычайнай кнігі, прысвечанай літаратуры для дзяцей? Віктар Шклоўскі! Шклоўскі — з яго вострым, зоркім вокам, разумным пяром, з яго складаным і бліскучым стылем, з яго страснай улюбёнасцю ў літаратуру!

Можна было ўдзячнымі за ўвагу незабыўнаму В. Бечыку, а таксама Э. Гурэвіч, У. Гніламёдаву, М. Барсток, М. Яфімавай, М. Шаўлоўскай. Асобна хочацца сказаць аб ярніх выступленнях па радыё А. Васілевіч. Гэта было досыць даўно, але запомнілася.

Праблемы, звязаныя з літаратурным выхаваннем, могуць і павінны ўзнімаць на старонках друку настаўнікі, бібліятэкары, маладыя крытыкі.




з 28 сакавіка па 3 красавіка

28 сакавіка, 18.30

**«ЗАЧЫТАЙЦЕ МАЁ ПІСЬМО...»**

Агляд крытычнай пошты тыдня.

29 сакавіка, 19.25

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

У. Скарынкін чытае свае новыя вершы.

29 сакавіка, 21.50

**«ЛІРА»**

Мастацка-публіцыстычная праграма. Аб праблемах развіцця сучаснай літаратуры, яе сувязі з жыццём разважаюць В. Быкаў, А. Адамовіч, С. Алексіевіч.

Вядучы — У. Бойка.

31 сакавіка, 19.25

**«МУЗЫКА МАЕЙ РЭСПУБЛІКІ»**

Прагучыць Шостая сімфонія А. Мдзівані «Полацкія пісьмёны» ў выкананні сімфанічнага аркестра і хору Беларускага тэлебачання і радыё.

Дырыжор — заслужаны артыст БССР Б. Райскі.

Уступнае слова музычнага каментатара Э. Язерскай.

1 красавіка, 21.50

**АДКРЫЦЦЁ ФЕСТЫВАЛЮ МАСТАЦТВАЎ «МІНСКАЯ ВЯСНА»**

Сімфанічны канцэрт. Запіс па трансляцыі з Белдзяржфілармоніі.

2 красавіка, 14.00

**«ЛОШЫЦКІ ПАРК»**

Праблемы аховы і рэстаўрацыі. «Круглы стол» Рэспубліканскага тэлебачання і газеты «Вячэрні Мінск».

2 красавіка, 15.00

**«МЕТРАНОМ»**

Перадача ўзнімае праблемы творчасці маладых кампазітараў.

2 красавіка, 17.30

**«ЗАСТАЦЦА З ВАМІ У ПЕСНЯХ ТЫХ ХАЧУ...»**

Перадача прысвечана 70-годдзю з дня нараджэння А. Бачылы. У ёй бяруць удзел Я. Брыль, В. Вітка, Г. Уладамірская.

Вершы чытае М. Лявончык.

Вядучы — паэт М. Арочка.

3 красавіка, 15.15

**«ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ»**

І. Лучанок, А. Лягчылаў. «Пісьмо сына».

3 красавіка, 19.00

**«У НЯДЗЕЛЮ ВЕЧАРАМ»**

Фестываль мастацтваў «Мінская вясна».

Канцэрт Дзяржаўнага народнага аркестра БССР імя Жыновіча. У праграме творы Мдзівані, Вагнера, Глебава, Рашчынскага, Кузняцова.

3 красавіка, 20.10

**«АЛЬТАНКА ШЧАСЦЯ МАЙГО...»**

Прэм'ера спектакля Беларускага тэлебачання.

Рэжысёр-пастаноўшчык — А. Сухоцкі.

Ролі выконваюць А. Пастрэвіч і І. Дзянісаў.

3 красавіка, 22.45

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма.

## АБ'ЯВЫ

**БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ТЭАТРАЛЬНА-МАСТАЦКІ ІНСТЫТУТ**

**АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС НА ЗАМЯШЧЭННЕ ВАКАНТНЫХ ПАСАД ПРАФЕСАРСКА-ВЫКЛАДЧЫЦКАГА САСТАВУ (ДЛЯ ТЫХ, ХТО МАЕ МІНСКУЮ ПРАПІСКУ):**

старшага выкладчыка кафедры інтэр'ера і абсталявання — 1;

выкладчыка кафедры жывапісу — 1.

Тэрмін конкурсу — адзін месяц з дня апублікавання аб'явы. Дакументы падаваць на імя рэктара інстытута па адрасу: 220000, ГСП, Мінск, Ленінскі праспект, 81.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 01118 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.